# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (87) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2019 г.




*Студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Амброзі Самуэль Кастравіцкі, брат Каруся Каганца*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 3 ( 87 )** **ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ** **2019 г.**


## *У НУМАРЫ:*



**На першай старонцы вокладкі: помнік вялікаму князю Гедыміну ў Лідзе, 2019 г.**
*Здымак С. Судніка.*


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 200 асобнікаў**
**8,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2818.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2019 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.10.2019 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 3,09 руб.**
**індывід. 6 мес. - 6,18 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**










**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# 27 ліпеня 2019 года на Лідчыне

27 ліпеня на Лідчыне традыцыйна прайшло пад знакам ушанавання памяці паўстанцаў 1863 года. І няма нічога дзіўнага ў сумяшчэнні гэтай даты і гэтай памяці. 27 ліпеня 1990 года - дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі падвёў рысу пад многімі этапамі змагання за незалежнасць нашай краіны і стаў магчымым у многім і дзякуючы гэтаму паўстанню.

Урачыстасці пачаліся з імшы ў паўстанцкай капліцы ў былым засценку Станкевічы. Служыў імшу ксёндз Андрэй з касцёла Спаслання Святога Духа г. Бярозаўкі. Паводле легегнды гэтую капліцу паўстанцы склалі за адну ноч. Недзе ў пачатку 50-х гадоў НКВД вывезла ўвесь засценак Станкевічы ў Сібір, і капліца стаяла занядбанай. З Сібіры вярнулася толькі адна сям'я. Ужо ў 21 стагоддзі капліца была адноўлена, і хоць і рэдка, а тут бываюць набажэнствы.









Пасля імшы быў асвечаны крыж на магіле паўстанцаў 1863 года, адноўлены вясной гэтага года ў былым фальварку Стрэліца. Ад Станкевічаў да Стрэліцы напрасткі - кіламетраў тры, таму найбольш верагодна, што пахаваны там паўстанцы з таго ж аддзела, які будаваў капліцу. Сюды на магілу была прывезена зямля з магілаў паўстанцаў у Вільні і далучана да векавечнай зямлі кургана. Асвяціў крыж ксёндз Андрэй.

Пасля Стрэліцы сябры розных груп грамад-

скасці наведалі мемарыял у Шчытніках паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі. Сюды таксама прывезлі зямлю з віленскіх магіл. Дарэчы, там у Вільні было пахавана вельмі шмат лі-дзян, расстраляных і павешаных за ўдзел у паўстан-ні.

І апошнім пунктам стаў млын у Дворышчы, дзе была адкрыта першая ў Беларусі арт-выстава, прысвечаная паўстанню 1863 горда на Лідчыне. Арт-выстава - гэта шэсць вялікіх пластыкавых планшэтаў на стойках. Тут дзясяткі партрэтаў, да сотні імёнаў і вялікі аб'ём інфармацыі.

Планшэт 1. "Лідзяне ў кіраўніцтве паўстання". Тут прадстаўлены выхадцы з Лідскага павета, якія займалі кіраўнічыя пасады ў роз-







ных паўстанцкіх органах і аддзелах;

Планшэт 2. "Лідчына ў пачатку паўстання". Прысвечаны лідзянам, якія рыхтавалі і падымалі на паўстанне сам Лідскі павет;

Планшэт 3. "Вайсковы начальнік Лідскага павета Людвік Нарбут і ўзброеная фаза паўстання". Паказвае дзейнасць Людвіка Нарбута і яго бліжэйшых памочнікаў, афіцэраў падраздзела;

Планшэт 4. "Аддзел Людвіка Нарбута ў паўстанні". Падаюцца кароткія апісанні асноўных баёў аддзела Людвіка Нарбута і няпоўны спіс яго аддзела (які ўдалося ўстанавіць на гэты час);

Планшэт 5. "Апошнія баі аддзела Людвіка Нарбута". Распавядаецца пра два апошнія баі. Падаюцца помнікі лідскім паўстанцам за межамі Лідскага раёна;

Планшэт 6. "Помнікі паўстанцам на Лідчыне". Падаюцца помнікі лідскім паўстанцам на тэрыторыі раёна.






***Пра выставу распавядае Станіслаў Суднік***



***Спявае Зміцер Захарэвіч***

Выстава рыхтавалася для Тарноўскай школы (бліжняй ад мемарыяла ў Шчытніках) і рабілася ў мабільным варыянце, каб можна было перавозіць яе са школы ў школу. Усё было ўзгоднена з аддзелам адукацыі, але потым улады далі задні ход, і выстава размясцілася на прыватнай тэрыторыі.

Выставу рыхтаваў Станіслаў Суднік. Дызайнерскія работы выконваў Сяргей Чарняк. Дапамагаў зманціраваць планшэты Іван Чарняк.

Падчас адкрыцця было сказана пра гатоўнасць да адкрыцця музея паўстання. Ёсць цэлы паверх у 600 кв. м, але адным лідзянам падняць гэта будзе цяжка. Гэта мусіць быць агульнанацыянальны праект. Беларуская грамадскасць сёння ўжо можа ўласнымі сіламі стварыць такі музей.

У гонар паўстанцаў прагучалі патрыятычныя песні ў выкананні Зміцера Захарэвіча. Нажаль, вялікі канцэрт арганізаваць не выйшла, бо ўсе гэтыя дзеі занялі час з 14.00 да 19.00. Дзень быў перагружаны, але ўсё трэба было зрабіць.

Тыя, хто захоча наведаць выставу, маюць звяртацца ў лідскую турфірму “Адрас лета”: 231300, Рэспубліка Беларусь, г. Ліда, вул. Чапаева, 8. Тэлефоны: 8 - (0154) 52-43-44, 8 - (029) 88-22-119, 8 - (0154) 53-03-03, 8 - (044) 500-500-9,

E-mail: adresleta@gmail.com.

Памяць пра паўстанцаў 1863 года на Лідчыне жыве і беражліва захоўваецца дзеля будучых пакаленяў.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# У Лідзе ўстаноўлены і ўрачыста адкрыты помнік Вялікаму князю Гедыміну







Сотні людзей сабраліся 7 верасня ля помніка князю Гедыміну ў Лідзе, каб папрысутнічаць на яго афіцыйным адкрыцці. Падчас прамоваў афіцыйных асобаў і спонсараў яго ўстаноўкі, над лідзянамі і гасцямі горада побач з дзяржаўнымі сцягамі луналі і нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі. Усё прайшло ў святочнай атмасферы традыцыйнага фестывалю LIDBEER і Дня горада Ліды, якія адзначаліся акурат 7 верасня.

Ідэя ўстаноўкі помніка князю Гедыміну з'явілася яшчэ на пачатку 90-х гадоў і 25 гадоў жыла ў свядомасці жыхароў Ліды. Рабіўся шэраг захадаў у гэтым кірунку. У 2004 годзе адбыўся "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці і ўлады. Менавіта тут была ўпершыню высунута ідэя пастаноўкі не якога іншага, а коннага помніка. У 2005 годзе сувенірную скульптуру "Вялікі князь Гедымін" стварыў менскі скульптар Аляксандр Лышчык. У 2013 годзе лідскі мастак і скульптар Рычард Груша стварыў яшчэ адзін макет будучага помніка.

І вось за ўстаноўку помніка ўзяліся ўсур'ёз. У кастрычніку 2017 года Лідскі райвыканкам (старшыня М.К. Карповіч) абвясціў конкурс на найлепшы эскіз скульптуры «Заснавальнік Лідскага замка князь Гедымін». Удзельнічалі 28 работ. У лютым 2018-га пасля падліку галасоў перамог эскіз скульптараў Вольгі Нячай і Сяргея Аганава, які, дарэчы, з'яўляецца ўраджэнцам Ліды.

Спонсарам адліўкі помніка стала сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства "Белтэкс Оптык", а таксама ахвярадаўцы з Беларусі і ўсяго свету.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У пачатку ліпеня з Лідскай друкарні выйшла кніга “С верой в победу. Борьба партизан и подпольщиков Лидского партизанского соединения в годы Великой Отечественной войны. (По воспоминаниям участников событий)”. 464 ст. 100 асобнікаў.



29 ліпеня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне 37-гадовага Аляксандра Кадлубая намеснікам міністра адукацыі.
Аляксандр Кадлубай займаў да гэтага пасаду начальніка аддзела адукацыі Лідскага райвыканкама.



У пачатку жніўня падведзены вынікі штогадовага рэспубліканскага агляду санітарнага стану і добраўпарадкавання чыгуначных вакзалаў. Пераможцам сярод вакзалаў III класу прызнаны вакзал станцыі Ліда, другая прэмія дасталася вакзалу станцыі Асіповічы.



12 верасня Прэзідэнт Беларусі разгледзеў кадравыя пытанні і, акрамя іншага, даў згоду на прызначэнне кіраўнікоў двух раёнаў у Гарадзенскай вобласці. Старшынём Лідскага райвыканкама прызначаны Сяргей Ложачнік, які з 2013 года ўзначальваў Шчучынскі райвыканкам.

## Найстарэйшаму краязнаўцу Лідчыны МІКОЛУ ДЗІКЕВІЧУ - 95



Мікалай Мікалаевіч ДЗІКЕВІЧ нарадзіўся 20 верасня 1924 г. у в. Дзітрыкі Беліцкай гміны Лідскага павета Наваградскага ваяводства. Да 1936 г. вучыўся ў Дзітрыкаўскай чатырохкласнай школе, у 1939 г. закончыў Ганчарскую паўшэхную школу, у 1945 г. - Лідскае педвучылішча, пачаў настаўніцкую працу. Служыў у арміі (1946-1947). Закончыў Менскі інстытут фізічнай культуры (1955). 46 гадоў працаваў настаўнікам у школах Лідчыны - Цыбарскай, Дзітрыкаўскай, Папернянскай, Ганчарскай, Нёманскай, да 1993 г. З іх - 44 у Нёманскай (Сялецкай). Узнагароджаны медалямі "За доблесную працу" (1970), "За працоўную доблесць" (1981). Аўтар краязнаўчых кніг "Дзітрыкі. Згукі заснулай цывілізацыі" (200 стар.) "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць" (294 стар.).



***Такі бізнэс-цэнтр можа з'явіцца ў Лідзе***

28 верасня эксперты назвалі лепшыя гарады і раёны Беларусі для развіцця бізнэсу. Горад Ліда стаў лепшым у намінацыі «Лепшы горад для бізнэсу Беларусі» (з колькасцю насельніцтва больш за 50 тысяч чалавек).

80 гадоў таму назад 30 верасня 1939 года ў Лідзе выйшаў першы нумар газеты "Уперад", цяпер "Лідская газета".



С Новым победоносным Годом, товарищи!

УПЕРАД

ЦЕНТРАЛЬНОМУ КОМИТЕТУ КП(б) БЕЛОРУССИИ
ПРЕЗИДИУМУ ВЕРХОВНОГО СОВЕТА БЕЛОРУССКОЙ ССР
СОВЕТУ НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ БЕЛОРУССКОЙ ССР

**105 гадоў таму назад**

*Леанід Лаўрэш*

# Касцёл на крыві

105 гадоў таму ў Лідзе было ўжо ўсё гатова да будаўніцтва касцёла на Выгане (тэрыторыя сучаснага парку), каля магілы расстралянага ў 1863 г. ксендза Фалькоўскага. Можна не сумнявацца, што каб не Першая Сусветная вайны, дык касцёл быў бы пабудаваны. Прэса "патрыятычнага" рускага накірунку назвала гэты касцёл "Касцёлам на крыві". Для мяне гэта была цалкам новая інфармацыя, да гэтага было толькі вядома, што другі касцёл у Лідзе з 1910-х гг. планавалася пабудаваць на Слабадзе.

Газета "Северо-Западная жизнь" пісала: *"У Лідзе даўно ўжо ладзіцца пабудова другога, непатрэбнага касцёла. Сродкі на яго збіраюцца ў выглядзе патаемных складак. Кажуць, што ксёндз-дэкан прывёз з Аўстрыі ад езуітаў вялікую суму грошай. Вядомы фанатык, банкір Янушкевіч і абшарнік Іваноўскі, які займае вельмі важнае месца ў Пецярбургскім чыноўным свеце, таксама зрабілі вельмі вялікія ўнёскі.*

*Лідская гарадская грамадская ўправа некалькі месяцаў таму пачала хадатайнічаць перад віленскім губернатарам аб надзяленні 3 дзесяцін грамадскай зямлі пад пабудову касцёла, які праектуецца. Пад касцёл адводзіцца занадта шмат зямлі, і да таго ж моцная ў Лідзе польская партыя выбрала сябе самы лепшы ўчастак для гэтай пабудовы: ... на гэтым пляцы, за Віленскай заставай, быў пакараны смерцю мяцежны ксёндз Фалькоўскі за супрацьурадавую прапаганду сярод народных мас супраць рускага войска"* [1].

"Абшарнік Іваноўскі" - гэта ўладальнік маёнтка Лябёдка, бацька 4 сыноў і 1 дачкі Леанард Іваноўскі. Другі сын Леанарда - Вацлаў Іваноўскі, адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, чалавек, які адным з першых пачаў думаць пра Беларусь і ў значанай ступені, заклаў падмуркі нацыянальнай культуры[2]. Дачка Леанарда Алена Скіндар Іваноўская, першая перакладчыца з беларускай на англійскую мову, у 1914 - 1924 гг. у чатырох нумарах лонданскага часопіса "Folk-Lore" яна надрукавала дзесяткі беларускіх народны песняў з перакладамі на англійскую мову. Кожнай публікацыі папярэднічаў вялікі ўводны артыкул, у якім Іваноўская расказвала пра гісторыю і культуру Беларусі. У 1916 г. яна стала, калі не першай, дык адной з першых беларускіх настаўніц на Лідчыне[3].

Пра "фанатыка, Янушкевіча", якому ў Лідзе належала банкаўская кантора, вядома менш. У 1918 г. у яго доме па адрасе: вуліца Палескай, дом № 19/15 (зараз гэта перакрыжаванне вуліц Радзюка і Камсамольскай) месцілася польская Самаабарона ў Лідзе.

Цікава, што руская "патрыятычная" прэса пацвярджае шматгадовае шанаванне лідзянамі месца расстрэлу ксяндза: "*Старажылы Ліды памятаюць гэтую справу. Шмат гадоў на месцы пакарання ксяндза нечай нябачнай рукой выкладваўся з камянёў крыж. Толькі нядаўна, каб пазбегнуць падазрэння, гэты крыж знік - верагодна таму, што распачалося хадатайніцтва аб атрыманні зямлі пад касцёл. Паміж старымі жыве легенда, што тут па начах, патаемна маліліся ксяндзы і іншыя "патрыёты" - тутэйшыя і прыезджыя. Вось якое месца выбралі пад касцёл - ён будзе пабудаваны на костках і крыві пакутніка. З гэтым месцам звязаны яшчэ жывыя ўспаміны ... .* Сюды пацягнуцца тысячы багамольцаў з багатымі дарамі. Мяркуецца пабудаваць велічны касцёл з усімі неабходнымі пабудовамі і сцяной вакол яго. Гэта будзе сапраўдная цвердзь. Для такой вялікай пабудовы патрабуецца 3 дзесяціны зямлі. Лідская гарадская ўправа ў складзе 12 упаўнаважаных мае 9 каталікаў, 2 праваслаўных і 1 яўрэя" [4]. ...

Прэса такога гатунку не можа не пераказваць чуткі: *"Абшарнік Іваноўскі, які толькі збіраў даведкі ў Міністэрстве асветы па справе мужчынскай гімназіі, прадстаўлены лідскай гарадской управай у ганаровыя грамадзяне г. Ліды, а насамрэч атрымаў гэтую годнасць за новы касцёл. Стараста Вісмант, па настойлівым патрабаванні прадвадзіцеля дваранства графа Грабоўскага, за выдзяленне добрага ўчастка зямлі пад пабудову касцёла, зараз выбраны ў ганаровыя міравыя суддзі Лідскага павета. Сарока і іншыя будуць узнагароджаны, зразумела, таксама"* [5].

Дадам, што Леанард Іваноўскі і насамрэч з'яўляецца ганаровым грамадзянінам нашага горада за дзейсную працу па адкрыцці вельмі неабходнай гораду Лідскай мужчынскай гімназіі. А газеты, якія я цытую ў гэтым артыкуле, раздзімалі полымя нацыянальнага супрацьстаяння ў нашым горадзе за некалькі тыдняў да пачатку Вялікай вайны, што цяжка назваць разумным падыходам.

---

[1] Северо-Западная жизнь. 1914. № 208.

[2] Гл: Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск, 2006.

[3] Гл: Лаўрэш Леанід. Алена Іваноўская // Маладосць. 2019. № 8. С. 20-33.

[4] Вестник Виленского Св. Дух. Братства. 1914. № 13.

[5] Там жа.

**80 гадоў таму назад**

***Валеры Сліўкін***

# Ліда. Верасень 1939

Ліда - невялікі горад на Крэсах. 27 тысяч жыхароў. Большасць гараджан - палякі, чвэрць - габрэі, беларусаў, рускіх і іншых - па 4 сотні. 15 заводаў, 3 тысячы рабочых, 600 рамеснікаў. Мноства крамак, атэлье, майстэрняў. Два вайсковыя гарадкі: Паўночны, дзе дыслакуецца 77-ы пяхотны полк, і Паўднёвы з аэрадромам, дзе базіруецца 5 лётны полк. Каля 4 тыс. дзяцей. Дарослыя працуюць, служаць, гандлююць. Па вечарах сем'ямі наведваюць кінатэатры, слухаюць радыё. Можна пачуць усе еўрапейскія радыёстанцыі, савецкія станцыі слухаць забаронена. Міжнароднае становішча трывожнае. Немцы далучылі Аўстрыю, захапілі Чэхаславакію, на чарзе Францыя ці Польшча. Германія прапанавала Польшчы ўрэгуляваць праблемы Данцыга і "польскага калідора" на аснове супрацоўніцтва ў рамках Антыкамінтэрнаўскага пакта. Варшава адмовілася. Гітлер асцерагаецца вайны на два франты. Парыж, Лондан і Рым быццам бы гатовыя ваяваць, але толькі чужымі рукамі. Крэмль спадзяецца, што Гітлер вытне ў заходнім кірунку, яшчэ ідуць баі ў Маньчжурыі з Японіяй. Вядуцца таемныя дыпламатычныя перамовы, складаюцца дамовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дамовы пра ненапад і пра ўзаемную падтрымку. Хто каго пераседзіць, хто каго абхітрыць. Напруга нарастае з кожным днём.

Ярмонтовіч Алена, вучаніца 2-га класа дзяржаўнай гімназіі імя К. Хадкевіча: *"Прыметы блізкай вайны з'явіліся ў Лідзе яшчэ да яе пачатку. Нас вучылі правільна наляпляць палоскі паперы на вокны, каб шыбы не лопаліся падчас бамбёжак. Усюды віселі лозунгі, заклікаными паднімаць дух народа: "Моцныя, згуртаваныя, гатовыя". Па радыё час ад часу перадавалі заклікі ўносіць грошы ў Фонд народнай абароны. ... Не спыняліся запэўніванні ў гатоўнасці да адпору ворагу і ў цярпенні. Сапраўды, многія жанчыны, натхнёныя патрыятызмам, аддавалі на абарону свае ўпрыгожванні і нават вясельныя пярсцёнкі"* **(1. С. 93)**.

**23 жніўня** ў Польшчы была абвешчана трывожная мабілізацыя. Уначы з 23-га на 24-га жніўня ў Маскве падпісаны пакт пра ўзаемны ненапад паміж Германіяй і Савецкім Саюзам.

Эскадрыллі 5-га лётнага палка былі папоўнены персаналам да ваенных штатаў. 26 жніўня 51-я выведкавая эскадрылля (7 самалётаў PZL-23 "Karas") пераляцела на палявы аэрадром Гародна за 30 км ад Ліды. 56-я наглядальная эскадрылля (7 самалётаў Lublin R-XIIID і два самалёты RWD-8) перабазавалася на аэрадром Чэхаўцы за 6 км ад Ліды. 55-я самастойная бамбавальная эскадрылля (10 самалётаў PZL-23 "Karas", Fokker F.VIIB і RWD-8) 1 верасня прызямлілася на палявы аэрадром каля Жэшава. У Паўднёвым гарадку засталася лётная база № 5 пад камандаваннем маёра-




тэхніка Казіміра Гурскага. За базай лічыліся каля 150 тэхнікаў, няспраўныя баявыя самалёты і некалькі самалётаў трэніровачнай эскадрыллі.

Падраздзяленні 77-га пяхотнага палка былі прызваны па мабілізацыйным плане. Яўка рэзервістаў, пераважна беларусаў, была 100%, маральныя якасці - высокія.

**28 жніўня** 1 і 2-гі батальёны пагрузіліся ў цягнік. На наступны дзень рушылі астатнія падраздзяленні.

**30 жніўня** полк высадзіўся ў раёне Ловіча, прасунуўся на 15 км на поўдзень і размясціўся ў раёне мясцовасці Ежуў **(3)**.

**30 жніўня** ў Лідзе і Сяльцы па загадзе лідскага старасты Багаткоўскага арыштаваны камуністы.

**Уначы 31 жніўня**, скаваныя па двое, 18 чалавек з лідскай турмы пагружаны на ст. Ліда ў вагон і адпраўлены ў Картуз-Бярозу.

**1 верасня** фашысцкая Германія і Славакія напалі на Польшчу. Бамбавікі скінулі бомбы на польскія гарады, пяхотныя і танкавыя дывізіі перасеклі межы. На Ліду была накіравана 2-ая нямецкая бамбавальная група (KG -2). Стартаваўшы ў 5.45 з аэрадрома Гердаўэн (цяпер г. Чыгуначны) першая эскадрылля KG-2 на самалётах DO-17 пралётам праз Сувалкі і Гародню нанесла ўдар па Лідскім аэрадроме.

*"1 верасня раніцай. Лётае нізка самалёт. Што за самалёт - без знакаў адрозненняў, ні эмблемы, ні шахматкі, нічога. Паехаў на працу на аэрадром на матацыкле. Я ў камбінезоне з акулярамі. Пачалі капаць канавы - ужо ведалі, што пачалася вайна. Самалёты былі эвакуяваны па лясах. Заставаліся дзве ці тры машыны. Заходзіць самалёт на пасадку. Ужо абед быў. Выйшлі на дах невялікай канторкі. Выцяў трасавальнымі з кулямётаў. Праз 20-30 хвілін наляцелі 40 машын. Я паспеў толькі легчы каля ямы на зямлю. Бачыў, як ірваліся снарады. Яны пачалі бамбаваць, заходзячы па новай дарозе, там, дзе млын быў. Кідалі бомбы ад варот. Я ляжаў, не паднімаўся. Каля мяне людзей за 5-6 метраў пабіла. Пыцель загінуў пры бам-*

*бёжцы. У канаву патрапіў снарад, і адразу загінулі 22 чалавекі. Цэлы тыдзень не еў - так падзейнічала. На аэрадроме было каля 180 чалавек. Адзін лётчык праседзеў у самалёце. Узлётную паласу моцна не кранулі. Ангары засталіся цэлыя, і самалёты таксама"* **(Ка)**.

*"Першага верасня нямецкі самалёт праляцеў з поўначы на поўдзень над чыгункай і скінуў шэсць бомбаў: дзве з іх узарваліся побач справа, дзве - на чыгунцы і дзве - злева. На мост бомбы не ўпалі, пашкоджанні нязначныя, але перапалох у вёсцы* (Сялец) *выклікалі вялікі. Было зразумела: вайна пачалася. У абед прынеслі павесткі з'явіцца мужчынам у Ліду па мабілізацыі"* **(2. С.52)**.

*"Назаўтра раніцай* **(2 верасня)** *над Лідай з'явіўся самалёт. Ён ляцеў павольна і вельмі высока. Яго мерны гучны гуд прыцягнуў усеагульную ўвагу. Мы не ведалі, чый гэта самалёт. Дапускалі, што гэта могуць быць манеўры. Сітуацыя выяснела, калі на ўскраіну горада звалілася першая бомба. Тады мы пераканаліся, што гэта нямецкія самалёты, ад якіх трэба хавацца. Ніякай супрацьпаветранай абароны не існавала, не было бамбасховішчаў"* **(1. С.94)**.

**Янчэўскі Уладзімір:** *"2-3 верасня самалёты нямецкія, такія маленькія як вераб'і - беленькія на сонцы, ішлі на вышыні, гуд добра быў чутны. Прайшлі на Ліду і з вышыні кідалі бомбы. У нас тады гналі з поля коней. А самалёты вярталіся. Каровы, коні - такое нагрувашчанне. Як сыпнулі бомбаў, штук 50. Ніводнага чалавека не забілі, стаялі пад навесам, гумно склала на нішто, наша гумно палову паклала. Нікога не пашкодзіла. Праз дзве хаты Юрша Васіль у склеп паспеў. Бомба каля склепа. Штук 5 у чыгуначны мост увалілі. Ніводная на мосце не падарвалася, тры - за мостам, але ніводная не падарвалася. Лужок быў там, звозілі ўсё каменне. Па гэтых крушнях кінуў. Па вёсцы фугаскамі, ямы вялізныя, па крушнях - асколкавымі. Пасля вызвалення адкопвалі гэтыя бомбы - звезлі іх за чыгунку, там іх падарвалі. Метры на тры ў зямлю закопваліся".*

**Сегень Ян**, начальнік 5-й лётнай базы: *"Першыя налёты пашкадавалі аэрадромныя майстэрні, уначы пасля першага налёту я перамясціў майстэрні ў горад, пераважна ў прыгарады, рэквізаваўшы для гэтага розныя невялікія фабрыкі і склады".*

На каталіцкіх могілках былі пахаваны першыя забітыя: Добржаньскі (Добржыньскі) Станіслаў, 1914 г.н..; Карсак Уладзіслаў ці Вацлаў, 1912 г.н., Звяжхоўскі Эдвард, 1914 г.н.

У наступныя дні нямецкая авіяцыя ажыццяўляла выведвальныя палёты і бамбавала чыгуначныя шляхі, раз'езды і масты на Нёмане.

*"У першых днях верасня выехала з горада ўся ваенная адміністрацыя. Скарбнік выплаціў усім цывільным працаўнікам выходную дапамогу ў памеры гадавога акладу. Мне выдалі таксама "паперы" на мой мабілізаваны аўтамабіль, які застаўся ў мяне як службовы. Неўзабаве знік увесь мабілізаваны персанал. Непасрэдны мой начальнік камендант парку капітан Сабаньскі цалкам зламаўся, у яго здарыўся нервовы зрыў. Адведаў яго адзін раз у яго гарадской хованцы ў прыцемненым пакоі і ў цёмных акулярах. З гутаркі зразумеў, што на яго спадзявацца не варта. Камендант базы маёр Гурскі таксама кудысьці знік. Змушаны быў усё рабіць сам"* **(С)**.

**3 верасня** Вялікабрытанія, Францыя, Аўстралія, Індыя, Канада і Новая Зеландыя абвясцілі вайну Германіі. *"Па вёсцы расклеілі плакаты, узнёсла хваліліся, што з дапамогай Англіі вораг будзе разбіты"* ***(2. С.52)***.

**3 верасня** 77-ы полк пешым ходам перайшоў пад Петрыкаў Трыбунальскі.

**4 верасня** полк заняў пазіцыі ў раёне лесу Любень-Ленчна.

**Раніцай 5 верасня** 77-ы полк ўступіў у бой з немцамі. У той дзень германскія войскі прарвалі фронт, з Варшавы выехаў урад.

**6 верасня** здаўся Кракаў. Вялікая частка 77-га палка патрапіла ў акружэнне.

**У ноч на 7 верасня** Вярхоўны Галоўнакамандуючы Э. Рыдз-Смiглы са штабам і прэзідэнт Ігнацы Масціцкі пакінулі Варшаву.

**8 верасня** 77-ы полк перастаў існаваць як вайсковая адзінка. Асобныя групы прарваліся да Віслы. Большасць салдатаў патрапіла ў нямецкі палон, многія былі забіты **(3)**.

**10 верасня** 1-ая эскадрылля KG -2 бамбавала Лідскі і Віленскі аэрадромы, дзе, паводле рапарту нямецкіх лётчыкаў, былі спалены ангар і бензасховішча.

**10 і 11 верасня** 2-ая эскадрылля KG -2 бамбавала чыгуначныя шляхі поблізу Ліды.

*"Весткі з фронту ішлі няўцешныя. Баявыя дзеянні палякаў спыніліся. Беларусы, хто ўхіліўся ад палону, пераапрануўшыся ў цывільнае адзенне, па двое і па адным праз тыдзень вярнуліся дамоў"* (2. С.53).

**12 верасня** прэм'ер Францыі Э. Даладье, прэм'ер Вялікабрытаніі Н. Чэмберлен і галоўнакамандуючы французскага войска М. Гамелен узгаднілі "дзіўную вайну". 110 французскіх і ангельскіх дывізій, якія стаялі на Захадзе супраць 23 германскіх дывізій, заставаліся зусім бяздзейнымі.

**Сегень Ян:** *"Я разумеў, што пакінутыя казармы, майстэрні і склады, размешчаныя за два кіламетры за горадам, а таксама парахавыя склады, размешчаныя на палове дарогі з горада да аэрадрома, стануць здабычай навакольных беларускіх вёсак, у прыватнасці вялікага сяла Дакудава. Арганізаваў і ўзброіў ахову з працаўнікоў майстэрняў і расставіў пасты на тэрыторыі складоў, майстэрняў і перад парахавымі складамі. Адпраўляў некалькі разоў выведвальны самалёт (мелася цэлая навучальная эскадрылля, праўда частка самалётаў гэтай эскадрыллі была знішчана падчас налётаў), каб зарыентавацца, што робіцца над літоўскай мяжой і рускай, а таксама ўздоўж чыгуначных шляхоў у кірунку Львова. Паветраны выведнік літоўскай мяжы сцвярджаў, што вайсковыя падраздзяленні і адзіночныя салдаты пераходзяць у Літву. З усходняга боку ніякага руху не было".*

**15 верасня** раніцай група самалётаў з 1-й эска-

дрыллі KG -2 знішчыла 2 цягнікі на лініі Вільня -Баранавічы. Самалёты 2-ой эскадрыллі KG -2 бамбавалі станцыю Ліда, чыгуначныя шляхі і развязкі ў Маладзечна.

*"Наша харцэрская дружына арганізавала акцыю ў дапамогу параненым салдатам у шпіталях. Мы звярталіся да людзей з просьбай даваць цёплыя шкарпэткі і папяросы. Я хадзіла ад хаты да хаты, і людзі давалі па некалькі папярос… У цяжкі для краіны момант бацькі без вагання аддалі мужчынскі ровар для польскага войска"* **(1. С. 95)**.

**15 верасня** немцы занялі Беласток і замкнулі акружэнне вакол Варшавы.

**Петрыкоўскі Браніслаў**, рабочы завода "Бенлянд": *"16 верасня да Ліды дайшлі чуткі, што савецкія самалёты ў раёне Маладзечна скінулі ўлёткі, што Чырвонае Армія ідзе вызваляць Заходнюю Беларусь. Увечар, ужо пачало цямнець, раптам запаліліся вулічныя ліхтары, якія з пачатку вайны не запальвалі … Аказваецца, бургамістр горада Задурскі, дазнаўшыся пра пераход мяжы савецкімі войскамі, перастаў падтрымліваць меры супрацьпаветранай бяспекі. Па горадзе ўжо паўзлі нейякія невыразныя чуткі. Адны казалі, што на горад рухаюцца калоны немцаў, іншыя сцвярджалі - не немцы, а рускія ідуць з усходу. Вуліцы спусцелі. Паліцыянтаў, якія раней тырчалі што ні крок, нідзе не відаць. Парадак падтрымліваюць ахоўнікі так званай "Варты абывацельскай". І яшчэ па вуліцах у бок Варшаўскай рухаліся мноства машын гружаныя мэбляй. Пад вечар я пайшоў у з. Малэйкаўшчыну. Недалёка ад яе знаходзіўся маёнтак Чэхаўцы, у якім стаяла некалькі самалётаў польскага войска. Прыходжу дахаты, а сястра бяжыць насустрач: "Бронюсь, лётчыкі пакідалі самалёты і збеглі. А пані з маёнтка хлеб раздае людзям". Уначы ў нашу хату пастукалі. Адкрываю дзверы, а гэта прадстаўнікі "Варты абывацельскай". І з імі паліцэйскі Эдвард Насевіч. " Ты навошта - крычыць на мяне - ад самалёта часткі выкраў? Аддавай, а то застрэлім". Я пераконваю іх, што нічога не браў. Ды "вартавыя" пачалі шнарыць па хаце, палезлі ў склеп. Але нічога не знайшлі".*

**Раніцай 17 верасня** Народны камісар замежных спраў СССР В. Молатаў уручыў польскаму амбасадару Гржыбоўскаму ноту наступнага зместу: *"Польска-германская вайна выявіла ўнутраную безгрунтоўнасць Польскай дзяржавы. … Варшава як сталіца Польшчы не існуе больш. Польскі ўрад распаўся і не праяўляе прыкмет жыцця. Гэта значыць, што Польская дзяржава і яе ўрад фактычна перасталі існаваць. Тым самым спынілі сваё дзеянне дамовы, заключаныя паміж СССР і Польшчай. … Савецкі ўрад не можа таксама абыякава ставіцца да таго, каб адзінакроўныя ўкраінцы і беларусы, якія пражываюць на тэрыторыі Польшчы, кінутыя на волю лёсу, засталіся безабароннымі. З прычыны такога становішча савецкі ўрад аддаў распараджэнне Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі даць загад войскам перайсці мяжу і ўзяць пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі".*

У 5 гадзін 40 хвілін Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. У кірунку Валожын, Гальшаны, Ліда дзейнічала Менская група 11-ай арміі пад камандаваннем камдыва Я.Т. Чаравічэнкі ў складзе 16-га стралковага корпуса (100-я і 2-я стралковыя дывізіі), 3-га кавалерыйскага корпуса (7 і 36 кавдывізіі), 6-ай лёгкатанкавай брыгады палкоўніка Балотнікава. Перад групай была пастаўлена задача - прарваць фронт праціўніка і наступаць у кірунку на Ашмяну, Ліду і да зыходу 17 верасня выйсці на фронт Маладзечна, Валожын, да зыходу 18 верасня авалодаць раёнам Ашмяна, Іўе. У далейшым аказаць садзейнічанне Полацкай групе ў авалоданні г. Вільняй, а астатнімі сіламі наступаць на г. Гародню.

У 6 гадзін за 2 км ад Ліды на вышыні 200 м падарваўся ў паветры самалёт PZL P-23B "Karas" з 51-й выведкавай эскадрыллі. Загінулі Уладзіслаў Борыс, Леапольд Лаціна і Кароль Радатз. Экіпаж прыбыў 16 верасня па адрамантаваны самалёт, раніцай выляцеў на палявы аэрадром.

**17 верасня** з раніцы за адыходзіўшымі ў бок Вільні польскімі падраздзяленнямі рушылі жандары, паліцэйскія, буйныя службоўцы, абшарнікі, капіталісты, купцы, усе, хто баяўся савецкай улады. Прайшоўшы кіламетраў 15 за горад польскія афіцэры пагрузіліся на машыны, салдатам сказалі: "Вайна скончылася, ідзіце, хто куды хоча". Праз Ліду пачалі вяртацца польскія салдаты з блізкіх да Ліды вёсак. Ехалі з поўным абозам, з коньмі і вазамі.

*"Ліда 17 верасня нагадвала растрывожаны мурашнік. Кідалася паліцыя, неспакойна было ў вайсковых гарнізонах. Дадатковую паніку ўнёс самалёт, які сярод белага дня доўга кружыў над горадам. Ён не быў падобны на тыя, польскія, што стаялі на мясцовым аэрадроме. "Бальшавікі прыляталі" - казалі больш здагадлівыя гараджане. Менавіта пасля з'яўлення над горадам чырвонаармейскай крылатай машыны многія багатыя лідзяне пачалі пакаваць пажыткі і падаліся з Ліды. Трохі раней спусцела памяшканне паліцыі, а ў будынку гарадской улады некалькі службоўцаў збіралі ў велізарны куфар паперы. Сярод гараджан пайшлі розныя чуткі. Адны казалі, што немцы набліжаюцца да Ліды, іншыя - што Чырвоная Армія"* **(Пе)**.

*"Да вечара з паліцыі і адміністрацыі нікога не засталося. Замест паліцыі была сфармавана "Варта абывацельска" з настаўнікаў і чальцоў арганізацый паўваеннага тыпу такіх, як "Звяз", "Стралец" і інш. Дайшлі весткі, што Чырвоная Армія набліжаецца да горада з боку Беліцы і спынілася за 5 км у вёсцы Ёдкі. Камуністы і працоўныя горада пачалі рыхтавацца да сустрэчы Чырвонай Арміі, сабраўся камітэт для захопу ўлады ў горадзе"* **(Р)**.

Галоўнакамандуючы Рыдз-Сміглы ўвечар па радыё аддаў загад: *"Саветы ўварваліся. Загадваю ажыццявіць адыход у Румынію і Венгрыю найкарotшымі шляхамі. З Саветамі баявых дзеянняў не весці, толькі ў выпадку спробы з іх боку раззбраення нашых частак. Задача для Варшавы і Модліна, якія павінны абараняцца ад немцаў, без змен. Часткі, да размяшчэння якіх падышлі Саветы, павінны весці з імі пера-*

*мовы з мэтай выхаду гарнізонаў у Румынію ці Венгрыю".*

Лонданская "Таймс" уступленне ў Польшчу Чырвонай Арміі ахарактарызавала як *"удар нажом у спіну Польшчы".*

**Каляга Аляксей:** *"Саветы ўвайшлі 17-га. Мы ў самалёт. Летні, зімовы камбінезон. У Чэхаўцах нас было шмат - 15 самалётаў. Адны паляцелі на Літву, другія - у Францыю, трэція - у Латвію".*

**Карабельнік Ісак:** *"Увечар на тэрыторыі былога рынка (у паддашкавым памяшканні) сабраліся камуністы, камсамольцы, прафсаюзны актыў, прыблізна 12 чалавек. У іх ліку былі Сарока, Рачкевіч, Кашанскі. На гэтым зборы быў створаны рэвалюцыйны камітэт горада, задача якога была ў тым, каб захапіць уладу ў горадзе да прыходу савецкіх войскаў, арганізаваць ахову важных аб'ектаў. Чальцы камітэта размеркавалі паміж сабой абавязкі. Быў надрукаваны зварот да насельніцтва".*



***Карабельнік Ісак Герцавіч (1920-1984) - камсамолец з 1936 г.***

На змярканні (ў 22 гадзіны) у горад уехалі два (тры) савецкія танкі. Мінакі схаваліся ў падваротнях, толькі адзін мінак - маёр запасу польскага войска стаяў на ходніку і крычаў: *"Чаго хаваецеся, налівайце бутэлькі бензінам і кідайце пад тракі"* **(Р)**.

*"Танкі спыніліся каля будынка павятовага старосты. Савецкія танкісты патрапілі ў абдымкі народа. На працягу ночы горад быў упрыгожаны транспарантамі і сцягамі. Людзі сядзелі каля радыёпрыёмнікаў, слухалі Маскву"* **(К)**.

**Уначы з 17 на 18 верасня** на рагу сучасных вуліц Калініна і Грунвальдскай была ўсталявана трыумфальная арка для сустрэчы Чырвонай Арміі **(Р)**.

*"Раніцай 18 верасня каля аўтобуснай станцыі* (каля замка) *сфармавалася калона дэманстрантаў. Гараджане з кветкамі, чырвонымі сцягамі і песнямі пайшлі насустрач Чырвонай Арміі ў кірунку с. Ёдкі. Сустрэча адбылася каля в. Мінойты. Назад у горад дэманстранты вярнуліся з часткамі Чырвонай Арміі"* **(К)**.

У 16 гадзін у Ліду ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі. *"У той дзень надвор'е было дрэннае, ішоў дождж. Але многія лідзяне сабраліся каля цвердзі, чакаючы нейкіх падзей. Па хуткім часе з боку могілак паказаліся кавалерысты. Людзі закрычалі: "Ура!", "Хай жыве таварыш Варашылаў!"* **(Пе)**.

**18 верасня** многія ўбачылі танкі з намаляванымі на іх чырвонымі зоркамі. Праўда, магутныя машыны ў горадзе не затрымаліся і хутка падаліся далей на захад. Надвор'е ў той дзень выдалася не вельмі. Ішоў дождж, было халаднавата. Але непагадзь не перашкодзіла сотням лідян выйсці на вуліцы. Усе нечага чакалі, а пэўна - прыходу ў горад Чырвонай Арміі. У чатыры гадзіны дня па Наваградскім гасцінцы паказалася савецкая машына і пад'ехала пад замкавыя сцены. З яе выйшаў чырвоны камандзір. Сустрэты магутным "Ура!", ён пайшоў на замкавы двор. А за ім увесь народ. Там адбыўся мітынг. Чырвоны камандзір казаў пра тое шчасце, якое выпала байцам - вызваляць адзінакроўных братоў з Заходняй Беларусі. А калі скончыў выступ, дзясяткі рук працягнуліся да яго, абсыпалі кветкамі. "Едзе конніца", - крыкнуў хтосьці. Сапраўды, па дарозе паказаліся першыя эскадроны байцоў Чырвонай Арміі. Людзі горача віталі войскі, пад ногі коней клаліся букеты восеньскіх кветак **(Пе)**.

**Пайда Мар'ян:** *"Заехала конніца руская, каля 300 вершнікаў. Брудныя, стомленыя, трохі аброслыя, выгляд не лепшы. Суткі стаялі на адпачынку. Частавалі нас супам гарохавым. Гарох быў у шкляных слоіках з мясам, суп быў смачны, духмяны. Афіцэры ў ботах і галіфэ, салдаты ў абмотках наверх, не глядзеліся, пахабілі салдатаў. Салдаты сціплыя, дысцыпліна строгая. У адрозненне ад рускай конніцы салдаты польскага пятага лётнага палка былі апрануты значна лепш".*

Ліду заняў кавалерыйскі полк 6-й Кубанска-Церскай казачай Чангарскай ордэна Леніна Чырванасцяжнай ордэна Чырвонай Зоркі дывізіі імя Будзёнага 3-га кавалерыйскага корпуса.

*"... раніцай горад абляцела вестка, што ў Ліду ўступілі рускія войскі, сустрэтыя на ўскраіне горада габрэямі хлебам-соллю. Мама сцісла пракаментавала: "Габрэі гатовыя хоць чорта вітаць, толькі б не прыйшлі немцы"* ***(1. С.95)***.

Прыблізна ў 18 гадзін у замку адбыўся мітынг, на які сабралася каля 8 тысяч чалавек. Увесь пляц вакол замка была запоўнена народам. Былі ўсталяваны мікрафоны. Чырвонаармейцы раздавалі ўдзельнікам мітынгу савецкія газеты, брашуры, кнігі **(К)**.

**Рачкевіч Міхаіл:** *"На мітынгу (са сцяны цвердзі) выступіў камандзір танкавага падраздзялення падпалкоўнік Быкаў (маёр Выкаў, Войкаў, палкоўнік), які распавёў пра міжнароднае становішча і абвясціў у горадзе савецкую ўладу. Пасля заканчэння мітынгу было прапанавана сабраць дэлегатаў з усіх фабрык і заводаў на сход. Потым Быкаў са мной паехаў у штаб "Варты абывацельскай". Я быў там раней, але мяне не*



***Рачкевіч Міхаіл Трафімавіч (1904-1969) - арганізатар Рабочай гвардыі ў Лідзе ў 1939 г.***

*ўпусцілі, запатрабавалі прадстаўніка ад вайсковай часткі. Быкаў загадаў каменданту "Варты" - настаўніку гімназіі Садзевічу - перадаць ахову горада пад маё кіраўніцтва, а "Варту" распусціць. Потым паехалі на пошту. Таварыш Быкаў прапанаваў службоўцам абраць са свайго асяроддзя начальніка і наладзіць працу, а мне наглядзець за гэтым даручэннем. Быкаў з'ехаў у частку, я вярнуўся ў "Варту абывацельску", каб азнаёміцца з іх парадкам аховы горада і пачаць арганізоўваць Рабочую гвардыю. Познім вечарам, у памяшканні былога староства адбыўся збор дэлегатаў заводаў і фабрык пад старшынствам Быкава, на якім абралі старшыню кіравання горада, заг. гаркамгаса і начальніка Рабочай гвардыі".*

"Захоп" Лідскага аэрадрома і самалётаў адбыўся вельмі будзённа. **18 верасня** *"раніцай ахоўнікі, якія вартавалі майстэрні і склады зброі, паведамілі мне, што на аэрадроме (перакапаным бомбамі!) прызямліліся тры рускія лёгкія самалёты. Самалёты зшыхтаваліся ў круг хвастамі вонкі з кулямётамі накіраванымі ва ўсе бакі. Я загадаў стаяць спакойна, не рэагаваць. Праз некаторы час ізноў тэлефон. Ахоўнік дакладвае, што два афіцэры ў суправаджэнні пары салдатаў, убачыўшы спакойна стаяўшага ахоўніка ў цывільнай адзежы, падышлі да яго і спыталі пра начальніка. Ахоўнік сказаў, што начальнік знаходзіцца ў горадзе, і што, калі жадаюць, то ён можа злучыць іх па тэлефоне. Праз хвіліну нейкі палкоўнік прадставіўся і папрасіў пра сустрэчу. Я запрасіў яго да сябе, сказаў, загадаю ахоўніку, ён выкліча аўто, якое іх прывязе і адвязе. Пагадзіўся, і праз паўгадзіны былі ўжо ў бюро, дзе я выконваў службовыя абавязкі. Растлумачыў, што з'яўляемся тэхнічным персаналам майстэрняў, што ніякіх войскаў у горадзе няма, што ахоўваем склады, а ў горадзе цывільная міліцыя ахоўвае парадак. Афіцэр звярнуўся з просьбай, ці не маглі б мы выраўнаваць перакапаны бомбамі аэрадром, таму што тут павінны прызямліцца цяжкія самалёты. Паабяцаў, што ўсё будзе аплачана. Я сказаў, што гэта магчыма, але парацягнецца доўга, бо механізмаў для такіх работ не маем, а аэрадром - самі бачылі. Прапанаваў выкарыстоўваць наш палявы аэрадром з другога боку горада, які не бамбаваўся. Афіцэр выказаў сумневы, ці не маленькі і выказаў жаданне агледзець. Я паведаміў, што можам туды пад'ехаць, гэта недалёка, ну і паехалі. Наперадзе мой кіроўца, побач з ім салдат, ззаду я паміж двума афіцэрамі. Людзі ў горадзе, бачачы нас, былі пераканаы, што "бальшавікі вязуць мяне на расстрэл". Пры аглядзе палявога аэрадрома аказалася, што там ужо стаяла варта рускай пяхоты і ахоўвала некалькі нашых выведкавых самалётаў накрытых у ляску. Афіцэры падзякавалі і вярнуліся ў горад, дзе я выйшаў, а іх загадаў адвезці на аэрадром да іх самалётаў"* **(С)**.

На аэрадроме былі захоплены 23 польскія самалёты, 11 з іх былі спраўнымі.

*"18 верасня хтосьці выступіў з заклікам ісці ў вёску Ганчары сустракаць Чырвоную Армію - вызваліцельку. Ахвотнікаў не знайшлося. Але мы, пяць падлеткаў, не вытрымалі і пасля абеду пабеглі ў Ганчары. Па дарозе абагналі шэсць ці сем сялян з чырвоным сцягам, што ішлі з вёскі Супраўшчына на сустрэчу з Чырвонай Арміяй. Упоперак шашы была змайстравана арка, абвітая верасам, з прыбітымі галінкамі бярозы. Уверсе размясціўся плакат. Адно слова засталося у памяці: "освободителям". Вакол аркі тоўпілася шмат людзей. Асноўных частак арміі мы не дачакаліся і пачалі збірацца дамоў. І тут пачулася: "Едзе"... Пад'ехаў на кані салдат. Быў гэта напэўна перадавы дазор-казак з чырвонымі лампасамі і шашкай з чырвоным аколышкам. Ён спрытна саскочыў з каня і спытаў, ці няма паблізу польскіх салдат. Потым папрасіў вады. Мужчыны яго абступілі, пачалі штосьці гаварыць, задаваць пытанні....Адзін з мужчын спытаў, як будзем ваяваць - пад Варшавай нямецкія танкі. У адказ салдат выхапіў шашку, памахау ёю, чым даў зразумець, што і мы не лыкам шытыя, адолеем і з гэтай зброяй. і паскакаў далей"* **(4. С.92-93)**.

*"Вельмі добра памятаю, як усё адбывалася ў тыя дні ў нашай вёсцы Збляны. Вестка аб тым, што Чырвоная Армія перайшла дзяржаўную граніцу і рухаецца ў заходнім кірунку, была сустрэта яе жыхарамі з вялікай радасцю і ўсеагульным уздымам. Ва ўсходнім канцы вёскі пабудавалі арку. Працавалі ўсю ноч. Арку аздобілі восеньскімі кветкамі. Верх яе ўвянчалі пяціканечнай чырвонай зоркаю. Рыхтаваліся да сустрэчы са сваёй "вызваліцелькай", як да самага вялікага свята. На другі дзень, не дачакаўшыся прыходу Чырвонай Арміі у вёску, амаль усе маладыя, ды і старэйшыя, сяльчане накіраваліся сустракаць яе ў мястэчка Беліцу. Там на рынкавай плошчы сабралася мноства народу з Беліцы і навакольных вёсак - Зблян, Краснай, Лазян, Ямантаў, Табалы, Восава, Нясілавіч ды іншых. Актывісты былой падпольнай арганізацыі КПЗБ наладзілі мітынг. Усе ўважліва слухалі і чакалі. Ды толькі і на гэты раз, нажаль, нікога сустрэць не давялося. Толькі да паўсмерці напужаліся. Нехта з былых упраўленцаў Беліцкай гміны ўзышоў на імправізаваную трыбуну і гучнагалосна абвясціў, што маўляў Чырвоная Армія не прыйдзе. Яна на патрабаванне Англіі і Францыі спынілася і рушыла назад, спыніўшы свой паход на захад. Для ўсіх прысутных гэта быў бы выліты на іх галавы цабэрак ледзяной вады. Усе кінуліся дамоў. Рынкавая плошча раптам апусцела. Памятаю, як асцярожныя і ўмудроныя жыццёвым досведам бацькі лаялі сваіх непаслухмяных нашчадкаў за іх нястрыманасць і неразважлівасць. Ноч была для ўсіх нават вельмі трывожнай. Але хутка ў вёску завітала адна з частак РСЧА, і ўсё ўляглося. Страх адышоў, жыццё вярнулася ў прывычнае рэчышча"* **(5. С.141-142)**.

**19 верасня** была арганізавана Рабочая гвардыя. Начальнікам Гвардыі ў Лідзе быў прызначаны старшыня прафзвязу будаўнічых рабочых Міхаіл Цімафеевіч Рачкевіч. *"19 верасня я пачаў запісваць у Рабочую гвардыю. Прыходзілі і былыя зняволеныя- крымінальнікі, і аматары чужога. Вайсковых частак у горадзе ўжо не было, пайшлі далей на захад. Аднаму мне з гэтым цяжка было справіцца, я звярнуўся да сваіх таварышаў з прафсаюзаў. Не ўсе хацелі ісці ў Гвардыю:*

*адны асцерагаліся, іншым не падабалася гэта праца, але ўсё-такі знайшліся тыя, якія прыйшлі мне на дапамогу - Пятроў, Лабанаў. Арганізацыя Рабочай гвардыі хутка пайшла наперад. Стала магчымым прыступіць да сваіх абавязкаў з надзейнымі рабочымі-гвардзейцамі, а абавязкаў было шмат і з кожным днём іх дадавалася. Неўзабаве ў Ліду прыехалі органы НКУС і тав. Пётр Захаравіч Калінін, які заняў пост старшыні Часавага кіравання горада Ліда. Ён даваў нам парады і ўказанні. Рабочая гвардыя павінна была ахоўваць у першую чаргу чыгуначныя масты, фабрыкі і заводы, каб капіталісты не вывезлі станкі ў Літву (тады нацыяналізацыя яшчэ не была праведзена), а каб ахоўваць - трэба было забраць зброю ў насельніцтва. Польскі ўрад добранадзейным абывацелям дазваляў мець асабістую кішэнную зброю, дробнакаліберныя і паляўнічыя стрэльбы. У вайсковых гарадках таксама пачалі выяўляць прыхаваныя вінтоўкі і патроны, забралі некалькі фурманак, так што зброі было досыць. Трэба было ахоўваць і горад, высылаліся начныя патрулі, былі нават непрыемныя небяспечныя эпізоды. Гвардзейцы хадзілі ў цывільнай адзежы з чырвонай павязкай на рукаве і з вінтоўкай на плячах. Уначы Чырвоная Армія, якая рухалася на захад затрымоўвала іх, і былі выпадкі - адкрывала стральбу, прымаючы гвардзейцаў за польскіх партызан"* **(Р)**.

**19 верасня** зенітная 40 мм гармата "Бофарс" якая належала цягніку Лідскай лётнай базы № 5, аказала супраціў Чырвонай Арміі каля моста цераз Нёман - *"знішчыла некалькі танкаў"*.

**20 верасня** ў газеце "Сцяг Саветаў" змешчаны зварот камандавання Беларускага фронту да салдатаў польскага войска і працаўнікоў Польшчы, у якім іх заклікалі не праліваць кроў, здаць зброю і не супраціўляцца.

**22 верасня** вярнуліся з Картуз-Бярозы палітвязні камуністы Бондар С.А., Некрашэвіч А.І., Радзецкі М.Р.

**24 верасня** Лідскія школы аднавілі навучанне. У будынку першай школы былі адкрыты дзве сямігадовыя школы: руская № 1 і беларуская № 2.

**25 верасня** супрацоўнік газеты "Савецкая Беларусь" звязаўся па тэлефоне са старшынём Часовага кіравання горада Ліды **Пятром Захаравічам Калініным**.



*Калінін Пётр Захаравіч - старшыня Часавага кіравання Ліды (22.09-2.10.1939)*

*"Цяпер горад Ліда жыве звычайным жыццём. Пачалі працаваць заводы і фабрыкі. Часовае кіраванне ўсталя-вала цесную сувязь з мясцовым насельні-цтвам. Штодня ў кіраванне прыходзяць тысячы лю-дзей - сяляне, рабочыя, мясцовая інтэлігенцыя. Прыхо-дзяць цэлыя дэлегацыі. Асноўнае хвалюючае ўсіх пы-танне - гэта пытанне пра зямлю. Прыходзяць сяляне з просьбай адкрыць школу на роднай беларускай мове. Крок за крокам усталёўваецца новае жыццё, жыццё вольнае, без паноў і іх паслугачоў. Сам народ вырашае свой лёс. Створаныя паўсюдна сялянскія камітэты ўзялі пад свой кантроль маёнткі і іншую маёмасць абшарнікаў. Складаюцца спісы бескароўных і бяс-конных сялян. Сялянскія камітэты прыступілі да па-дзелу абшарніцкай зямлі".*

*"Набралася шмат кавалерыйскіх коней. Я не ведаў, што з імі рабіць. Тав. Калінін распарадзіўся пад распіску аддаць іх мясцовым жыхарам і сялянам, якія маюць патрэбу ў конях. Пачалі працу школы, бальніцы. Але ў фабрык яшчэ не было магчымасцяў запусціць працу. Пачалі звяртацца да Калініна з просьбай пра працу. Калінін сказаў, што дзяваць іх няма куды, няхай пабудуць пакуль у цябе ў Рабочай гвардыі. Калі ўсталюецца парадак, правядзём рэарганізацыю"* **(Р)**.

**Нюнька Іосіф**, каваль: *"Выбіралі мясцовы камітэт. Мяне абралі адказным за маёнтак. У адзін дзень прыйшлі з вёскі і пачалі рабаваць палац".*

*"У горадзе быў уведзены камендацкі час. Першыя дні крамы працавалі звычайна. Рубель ішоў нароўні з польскім злотым. Насельніцтва імкнулася пазбавіцца ад злотых, пакуль гандлююць крамы, адчуваючы, што хутка гэтыя грошы не пойдуць. Каля крам пачалі збірацца вялікія чэргі. Займалі чэргі, пракрадваючыся ўначы, нягледзячы на каменданцкі час. Трэба было прадпрымаць меры спынення. Першы раз ліквідавалі чэргі, загнаўшы грамадзян у памяшканне лазні, і пратрымалі, пакуль можна ўжо было хадзіць. Але гэта не дапамагло. На другія суткі было тое самае, тады пагрузілі парушальнікаў камеданцкага часу ў аўтамашыны і вывезлі за горад кіламетраў за 15. Пакуль яны прыйшлі ў горад - каменданцкі час скончыўся.*

*Насельніцтва горада і вёсак кінулася высякаць лес. Бракавала людзей затрымоўваць парушальнікаў. Часовае кіраванне горада выдала дэкрэт, што затрыманыя за высечку лесу будуць падвергнуты пакаранню смерцю. За гэты дэкрэт больш усіх перапала начальніку Рабочай гвардыі, хоць я не быў вінаваты. Растлумачылі, што гэта не 1917 год на такія дэкрэты.*

*Трэба было яшчэ вылоўліваць абшарнікаў, не паспеўшых уцячы пры адступленні польскага войска ў Літву, цягнікі Ліда - Вільня яшчэ курсавалі. Па лясах разбрылося польскае войска, у горад не адважваліся заходзіць. Большасць афіцэры. Тады ў Лідзе ўжо быў НКУС, начальнік Лягаеў. Афіцэраў перадавалі Лягаеву* **(Р)**.

Па афіцыйных дадзеных Чырвоная Армія ў раёне Ліды ўзяла ў палон 2500 чалавек, захапілі 300 вінтовак, 100 тысяч патронаў, 23 самалёты **(6)**. Польскія даследчыкі завуць гэтыя лічбы "велькім клямствам".

**28 верасня** капітулявала Варшава. Паміж СССР




***Гараджане і чырвонаармейцы на скрыжаванні Сувальскай - 3 Мая знаёмяцца з газетай "Уперад"***

і Германіяй была падпісана дамова пра мяжу. Японскі ўрад сышоў у адстаўку. У Лідзе гараджане радасна віталі выступленне Чырвонаармейскага ансамбля песні і танцу пад кіраўніцтвам Ісакава.

**30 верасня** выйшаў першы нумар газеты "Уперад"- органа часовага кіравання г. Ліды і Лідскага раёна. *"Трымаючы яго ў руках, людзі сапраўды радаваліся. Поўнасцю напісаны на беларускай мове, на той мове, за якую змагаліся сяльчане"* **(2.С. 54-55)**.

**У канцы верасня** на Лідскі аэрадром перабазаваўся з-пад Оршы 31-ы знішчальны авіяцыйны полк Чырвонай Арміі. Полк складаўся з 4 эскадрылляў, у кожнай з эскадрылляў было па 15 экіпажаў. На ўзбраенні былі самалёты І-16 - "ішачкі".

**Крыніцы:**

1. Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида. 1995.

2. Дзікевіч М. Прынёманская рэчаіснасць. Мінск. 2010.

3. Markert W. 77 pulk piechoty Strzelcow Kowienskich // Ziemia Lidzka. № 53. S. 9-13.

4. Дзікевіч М. Дзітрыкі. М. 2010.

5. Кулеш А.Ф. 17 верасня 1939 г. - паваротны момант у жыцці беларусаў//Ліда і Лідчына. Ліда. 2009

6. Бешанов В. Красный Блицкриг. М. 2006.

**Успаміны:**

**К** - Карабельнік Ісак Герцавіч (1920-1984) выхадзец з Ліды. Скончыў 7 класаў, прыказчык у аптовай гастранамічнай фірме Дубкоўскага (1935-37), наборшчык у друкарні "Графіка" (1937-39). Чалец КСМЗБ з 1936 г., чалец падпольнага гаркама камсамолу, арыштоўваўся паліцыяй. Начальнік архіва НКУС (1939-41). Чырвонаармеец, паранены. Пасля вайны вярнуўся ў Ліду, працаваў начальнікам аддзела збыту мясакамбіната, у аўтапарку.

**Ка** - Каляга Аляксей Аляксандравіч 1916 г.н. Скончыў гімназію (1936), планерную школу ў Усце Новай (1936), лётную школу ў Станіслававa (1938). Памочнік механіка на аэрадроме.

**Н** - Нюнька Іосіф Ігнацьевіч 1907 г.н. Выхадзец з в. Алешавічы Лідскага павета. Скончыў 6 класаў. Каваль у в. Алешавічы і ў Мастах. Рабочы на станцыі Ліда (1938-41), стаханавец, быў абраны дэпутатам гар-савета. Пасля вайны майстар па рамонце вагонаў чыгуначнага дэпо.

**П** - Пайда Мар'ян - жыхар в. Ёдкі, чалец пля-цоўкі, асуджаны на 10 гадоў (1946), адбываў пакаранне ў Нарыльску да восені 1954, адзін з лепшых адмы-слоўцаў наладчыкаў ва УМСР -163 у 1970-80-х гадах.

**Пе** - Петрыкаўскі Браніслаў - рабочы, старшыня заўкама завода сельгасмашын №2 // Лідская газета № 120-121 ад 29 жніўня 1998 г.

**Р** - Рачкевіч Міхаіл Трафімавіч (1904-1969), выхадзец Ліды, праваслаўны, чалец прафсаюзу ў 1934-36 гг., арганізатар Рабочай гвардыі ў Лідзе ў 1939 г., пасля вайны пячнік.

**С** - Сегень Ян (1911-1994) - намеснік начальніка авіямайстэрняў (1938), начальнік 5-й лётнай базы ў верасні 1939 г.

**Ян** - Янчэўскі Уладзімір Уладзіміравіч 1927 г.н, выхадзец в. Далекія. Скончыў Лідскае педвучылішча (1948), Менскі педінстытут. Настаўнік сельскіх школ у Палубніках, Гарнях, Дворышчах, Далекіх.

*lida.info.by.*

*Леанід Лаўрэш*

# Лідчына да XIV стагоддзя

Тэрыторыя Паўночна-Заходняй Беларусі, згодна з фізічна-геаграфічным раёнаваннем падзяляецца на наступныя, меншыя фізічна-геаграфічныя раёны: Лідская раўніна, Сярэдне-Нёманская нізіна, Верхне-Нёманская нізіна, Гарадзенскае, Слонімскае, Навагрудскае ўзвышшы, Капыльская града з прылеглай Стаўбцоўскай раўнінай, Баранавіцкая раўніна, Прыбужская раўніна. Найвялікшая рака - Нёман з прытокамі: Беразіной, Гаўяй, Дзітвой, Котрай, Моўчаддзю, Шчарай, Зэльвянкай, Свіслаччу, Ласасянкай. Сярод азёр вылучаюцца: Белае, Берштаўскае, Малочнае, Свіцязь. Рака Нёман на тэрыторыі Беларусі мае даўжыню 459 км. Шырыня даліны ад 1,5 да 5 км, аднак, сустракаюцца асобныя азёрападобныя пашырэнні да 15-20 км (пры ўпадзенні Заходняй Беразіны, Моўчадзі). Ля Мастоў, пры зліцці з Котрай і ў раёне Гародні адзначаюцца звужэнні даліны да 0,4-0,9 км[1].

### Наша самая старажытная гісторыя

Гісторыя вывучэння першабытных помнікаў Панямоння мае амаль 200-гадовую гісторыю - з 1835 па 1841 гг. у Вільні выйшла 9-цітомная праца Тэадора Нарбута "Гісторыя літоўскага народа" [2].

З'яўленне на нашай тэрыторыі чалавека датуецца часам фінальнага палеаліту (12 000 - 8 300 год да н.э.). Каля Х тыс. да н. э. у Панямонні з'яўляюцца плямёны людзей, генетычна звязаных з лінгбійскай культурай (паселішчы: Кавальцы І, ІІ; Баля Сольная ІІІ, у Гарадзенскім р-не), асноўныя помнікі гэтай культуры знаходзяцца на тэрыторыі Заходняй і Паўночнай Еўропы.

У першай палове ІХ тыс. да н.э. тэрыторыя Панямоння знаходзілася пад моцным уздзеяннем арэнсбургскай культуры, плямёны якой у асноўным насялялі паўночную частку сучаснай тэрыторыі Германіі. Гэта стаянкі: Краснасельскі VI (Ваўкавыскі р-н), Беліца І, Збляны (Лідскі р-н), Востраў Салацкі (Гарадзенскі р-н), - маюць аналогіі са знаходкамі ў класічных стаянках арэнсбургскай культуры.

У палове ІХ тыс. да н.э. на Гарадзеншчыну з захаду прыйшлі плямёны свідэрскай культуры, у Панямонні гэтыя плямёны жылі амаль што тысячу гадоў (прыблізна ад 8600 да 7500 гадоў да н.э.). З усіх палеалітычных стаянак Паўночна-Заходняй Беларусі колькасна пераважаюць менавіта свідэрскія помнікі. Найбольш значныя з іх: Гожа, Азёры (Гарадзенскі р-н); Пескі 5, Навасёлкі І (Мастоўскі р-н); Беліца І, Збляны (Лідскі р-н); воз. Свіцязь (Навагрудскі р-н).

Мяжой фінальнага палеаліту і мезаліту большасць даследчыкаў лічыць пачатак галацэну (каля 8300 год да н. э.). У сувязі з паступовым пацяпленнем клімату, тады адбыліся значныя змены ў раслінным і жывёльным свеце Панямоння. Сярэднегадавая тэмпература ў параўнанні з канцом фінальнага палеаліту паднялася на пачатку мезаліту прыблізна 1,5° і таму на змену тундра-стэпавай расліннасці са статкамі паўночных аленяў пачалі распаўсюджвацца вялікія масівы хваёвых і бярозава-хваёвых лясоў, у якіх жылі тыповыя прадстаўнікі лясной фаўны - алень, лось, воўк, казуля, барсук, бабёр, заяц.

У 7 500 - 6 000 гг. да н.э. на тэрыторыю Беларусі прыйшлі носьбіты кундскай культуры. У Беларускім Панямонні пакуль няма яшчэ добра даследаваных кундскіх помнікаў, а пра прысутнасць на гэтай тэрыторыі кундскага насельніцтва сведчаць адзінкавыя знаходкі і невялікія па колькасці паверхневыя зборы найбольш характэрных прыладаў працы і зброі.

Апошняй мезалітычнай культурай, стаянкі якой выяўлены на Панямонні, была - яніслаўіцкая (5 400-5 200 гг. да н.э. - пач. IV тыс. да н.э.). Тэрытарыяльна яніславіцкая культура ахоплівала значную частку Усходняй Еўропы, ад басейна Одэра да Сярэдняга Дняпра. Найбольш значныя помнікі на тэрыторыі Беларускага Панямоння: Беліца ІІ (Лідскі р-н), Нясілавічы І, ІІ, VI (Дзятлаўскі р-н), Ваўчуны (Слонімскі р-н), Гляднявічы (Ваўкавыскі р-н), Пескі IV (Мастоўскі р-н)[3].

Бронзавы век у Панямонні даследаваны слаба. Але менавіта тады адбыўся пераход насельніцтва да новых форм гаспадарання, змены ў духоўнай культуры, з'явіліся новыя актыўныя этнасы і пачалося іх узаемадзеянне з "абарыгенамі", сфармаваліся новыя культуры.

Старажытнасці бронзавага веку Беларускага Панямоння сёння рэпрэзентаваны 165 паселішчамі, 9 могільнікамі ці адзіночнымі пахаваннямі і 459 асобнымі знаходкамі. У раннім перыядзе бронзавага веку (першая палова ІІ тысячагоддзя да н.э) тэрыторыя Панямоння пачынае засяляцца плямёнамі культур шнуравой керамікі. На думку большасці даследчыкаў, яны з'яўляліся археалагічным выражэннем этнічнай супольнасці, якая выдзелілася ў ІІІ тысячагоддзі да н. э. з агульнага індаеўрапейскага масіву і адыграла галоўную ролю ў этнагенезе славян, балтаў і германцаў.

Але раннія ўплывы шнуравых[4] традыцый хаця

[1] Абухоўскі Віктар. Засяленне тэрыторыі Беларускага Панямоння ў X-V тыс. да н.э. // Культура Гродзенскага рэгіёна: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. / Адк. рэд. А.М. Пяткевіч. Гродна, 2003. С. 183.

[2] Гл: Dzieje starozytne narodu litewskiego (t. 1-9, 1835-1841).

[3] Абухоўскі Віктар. Засяленне тэрыторыі Беларускага Панямоння ў X-V тыс. да н.э. С. 184-186.

[4] Культура шнуравай керамікі (ням. Schnurkeramik) - археалагічная культура меднага і бронзавага вякоў, распаўсюджаная на шырокіх тэрыторыях Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і датаваная 3200 г. да н. э. / 2300 да н. э. - 2300 г. да н. э. / 1800 г. да н. э.

і закранулі практычна ўсё Панямонне, аднак, верагодна, не былі істотнымі. Больш значную ролю ў этнакультурных працэсах на Панямонні ў гэты час адыграла культура шарападобных амфар[5]. Прысутнасць "шарападобнікаў" знойдзена не толькі на левабярэжных прытоках Нёмана, але і на яго правабярэжжы. Так, выразныя матэрыялы культуры шарападобных амфар выяўлены пры даследаванні першабытнага паселішча Дакудава 5 у Лідскім р-не (яма з арнаментаванай керамікай і крамянёвай шліфаванай сякерай)[6].

У сярэднім перыядзе бронзавага веку тэрыторыя Беларускага Панямоння ўвайшла ў арэал тшцінецкага[7] культурнага гарызонту і з'яўлялася кантактнай зонай паміж яго заходнімі і ўсходнімі традыцыямі. Аналіз 43 помнікаў з тшцінецка-сасніцкімі[8] матэрыяламі дазваляе папярэдне вылучаць дзве рэгіянальныя групы помнікаў. Помнікі першай групы (тшцінецкага тыпу) сустракаюцца практычна на тэрыторыі ўсяго Панямоння. Напрыклад, кераміка з падобнымі рысамі была знойдзена ў вярхоўі Котры пры даследаванні ў 1995 і 1997 г. паселішча БерШты 2 (Шчучынскі р-н). Помнікі другой групы (тшцінецка-сасніцкія) сустракаюцца толькі ў вярхоўях Нёмана і ў верхнім цячэнні Шчары на тэрыторыі паўднёва-ўсходняга Панямоння.

У гэты час (канец ІІ тысячагоддзя да н.э. - першая палова І тысячагоддзя да н.э.) на тэрыторыі Беларускага Панямоння адбываецца зараджэнне культуры штрыхаванай керамікі, асноўнае развіццё і росквіт якой прыпадае на жалезны век[9].

Ды ранняга жалезнага веку адносяць VIII ст. да н .э. - V ст. н. э. Гісторыя насельніцтва Беларускага Панямоння ў той час перш за ўсё звязаная з носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі.

Помнікі культуры штрыхаванай керамікі існавалі доўгі час (канец ІІ тыс. да н. э. - сярэдзіна V ст. н.э.). Яе паходжанне звязана з працэсамі, якія адбываліся ў бронзавым веку. У этнічным сэнсе носьбіты культуры штрыхаванай керамікі верагодна з'яўляюцца ўсходнімі балтамі. У перыяд - І ст. да н. э. / пачатак н.э. - сярэдзіна V ст. н.э. адбываецца яе росквіт. Завяршаецца складанне лакальных плямёнаў, якія былі аддзеленыя адзін ад аднаго малазаселенымі ці забалочанымі раёнамі. Ва ўсходняй частцы Беларускага Панямоння вылучаюць 8 такіх гуртоў, прычым шчыльнасць насельніцтва ў іх можа дасягаць 2,5 чал. / км$^2$. Можна адзначыць перавагу гарадзішчаў, якія размяшчаліся на пагорках і мелі пляцоўку авальнай формы. Як правіла, яны не ўмацаваныя ці слаба ўмацаваныя. Тады ж адбываліся змены і ў этнічным складзе насельніцтва Беларускага Панямоння. Гэта звязана з міграцыяй асобных груп заходнебалцкага насельніцтва праз басейн р. Мерач па Беларускай градзе ўглыб Панямоння (з І ст. н. э.)[10].

Аб былых часах нам нагадваюць буйныя пушчы і шматлікія тапонімы, у якіх гучыць сякернае рэха (Герніка, Погіры ад літ. Giria "лес", Лядзіны ад слова *Ляда* "высечанае месца для ворыва"). Тысячагоддзямі лад жыцця жыхароў нашага рэгіёна вызначаў ландшафт зоны змешаных лясоў і ўмераны клімат. У старажытнасці лес з усіх бакоў акружаў чалавека, паселішчы былі раскіданыя ў несувымерна вялікім моры векавых дрэў, у якім жылі толькі дзікія жывёлы. Прастора, парослая густым лесам, які парэзаўся рэкамі ці балотамі, выхавала мясцовае насельніцтва. З году ў год людзі збіралі мёд і воск, забівалі звяроў, секлі і спальвалі дрэвы каб вызваліць месца пад ворыва. Пад напорам дзейнасці чалавека ландшафт патроху мяняўся: на змену некранутаму лесу прыходзіла ўзгорыстая раўніна з пералескамі[11].

[5] Культура шарападобных амфар - археалагічная культура позненеалітычных плямён, якія ў ІІІ-м тысячагоддзі да н.э. жылі ў цэнтральнай і ўсходняй Германіі, Польшчы, Чэхіі, на паўночным усходзе Румыніі, у лесастэпавай частцы Правабярэжнай Украіны, на захадзе Беларусі. Падзяляліся на групы і варыянты. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай і паляваннем. Іх селішчы размяшчаліся на пясчаных берагах рэк. Жытлы былі наземнымі, слупавой канструкцыі, часам шматкамерныя з каменнымі або глінянымі агнішчамі; месцамі былі паўзямлянкі. Побач з жытламі размяшчаліся гаспадарчыя ямы. Пахавальны абрад - трупапалажэнне ў неглыбокіх ямах, абкладзеных каменнымі плітамі або валунамі, часам - няпоўнае трупаспаленне. Для керамікі характэрны амфары з шарападобным корпусам і вертыкальным венчыкам, разнастайныя гаршкі, кубкі, міскі, арнаментаваныя, пераважна ў верхняй частцы, адбіткамі лінейнага штампа, шнура, насечкамі, наколамі. Сярод прылад працы і зброі - крамянёвыя сякеры-кліны і долаты, касцяныя нажы і долаты, верацёнападобныя наканечнікі стрэл. Для ўпрыгожанняў характэрны бурштынавыя вырабы, фігурныя каменныя пласціны.

[6] Гл: Лакіза Вадзім, Сідаровіч Віталь. Кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку з паселішча Дакудава 5 (раскопкі 1998, 1999 і 2004 гадоў) // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. I / уклад. М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. Мінск, 2007. С. 17-35.

[7] Тшцінецкая культура - археалагічная культура бронзавага веку (XIX-XI стагоддзя да н. э.). Была распаўсюджана на тэрыторыі Польшчы, Украіны, Беларусі і Расіі. Названая па магільніку ля сяла Тшцінец (Trzciniec) каля Аполя-Любельскага (Люблінскае ваяводства, Польшча). Узнікла ў выніку развіцця і кансалідацыі цэнтральнай групы культур шнуравай керамікі на тэрыторыі Польшчы і распаўсюдзілася далей на Усход.

[8] Сасніцкая культура - археалагічная культура ІІ тысячагоддзя да н. э., якая адносяцца да бронзавага веку. Названая па месцы першых знаходак у раёне пасёлка Сасніца Чарнігаўскай вобласці. Прыходзіць на змену сярэднядняпроўскай культуры і звязваецца з тшцінецкай культурай. Носьбіты сасніцкай культуры жылі ў ацяпляных агменямі зямлянках па берагах рэк, займаліся жывёлагадоўляй і земляробствам. Выяўлены сляды крэмацыі і курганныя пахаванні. Кераміка прадстаўлена міскамі і збанамі з шнураваным арнаментам. Ёсць меркаванне, што носьбіты гэтай культыры - прабалты.

[9] Лакіза Вадзім. Этнакультурныя працэсы на Беларускім Панямонні ў бронзавым веку // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. / Адк. рэд. А.М.Пяткевіч. Гродна, 2003. С. 189-193.

[10] Медведев Александр. Этнокультурная история Белорусского Понеманья в раннем железном веке // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. / Адк. рэд. А.М. Пяткевіч. Гродна, 2003. С. 194-198.

[11] Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XIII веках. Москва, 2014. С. 16.

Сучасная Лідчына была менш заселенай, чым левабярэжжа Нёмана, але яна не была пусткай. Тут не ўзнікла буйных гандлёва-рамесных паселішчаў, а будаваліся невялікія гарадзішчы і селішчы, з'яўляліся могілкі.

Даследчыкі лічаць, што стабільнай мяжы паміж славянамі і балтамі не было ніколі - ні на пачатку каланізацыі славянамі балцкіх зямель, ні пазней, калі каланізацыя гэтых зямель ужо ішла поўным ходам. Беларускі народ паўстаў у выніку рассялення славян на тэрыторыі пражывання балтаў. Гісторыкі А. Краўцэвіч[12], Л. Дучыц[13] і іншыя паказалі, што актывізацыя славянскай каланізацыі на Панямонні пачалася з канца Х ст. і менавіта на пачатку II тысячагоддзя адбываўся асабліва інтэнсіўны працэс змешвання балтаў і славян на тэрыторыі Беларусі, тады ж ствараўся беларускі антрапалагічны тып, і ішоў сінтэз двух архетыпаў свядомасці. Дарэчы, у гэты ж час пачалі складвацца народнасці палякаў, чэхаў, балгараў, украінцаў і г.д.

Аналіз археалагічных матэрыялаў Панямоння паказвае, што рэгіён засяляўся славянамі з двух накірункаў - паўднёвага (дрыгавічы, валыняне) і паўночнаўсходняга (крывічы) дзвюмя хвалямі. Першая хваля накіравалася сюды ў другой палове Х-ХІ ст., другая ў ХІІ ст. - у гэты час быў новы прыток насельніцтва з поўдню, што звязана з узмацненнем Галіцка-Валынскага княства і адначасова з гэтым адбывалася перасяленне ў Панямонне крывічоў і мазаўшан.

Гарадзенскі археолаг С. Піваварчык, мяркуе, што на правы бераг Нёмана перайшлі славяне паўднёвай каланізацыйнай хвалі ішлі ў двух напрамках[14]:

- Першы напрамак, паміж Гаўяй і Дзітвой. Славянская кераміка Х-ХІ стст. зафіксавана на гарадзішчах і селішчах Мыто і Ольжава, селішчах Дакудава і Моцевічы. Да прыходу на Лідчыну, гэтыя славяне жылі ў раёне Навагрудка.

- Другі напрамак, з раёна Слоніма і Шчары ў басейн Лебяды і Котры. Тут знаходзяцца гарадзішчы Турэйск, Кульбачына, Касцянёва, селішчы Орля, Перакоп, і кераміка гэтых гарадзішчаў мае больш падабенства з керамікай паўднёвых зямель (Галічына, Валынь, Палессе). Таксама прасочваюцца заходнеславянскія (мазавецкія) элементы ў кераміцы гэтых помнікаў.

### Хто такія славяне і балты?

**Славяне.** Першыя звесткі пра славян як народ упершыню з'яўляюцца ў візантыйскіх пісьмовых крыніцах сярэдзіны VI ст.

Сёння ўсе яшчэ не існуе агульнапрызнанай версіі фарміравання славянскага этнасу. Адна з апошніх навуковых гіпотэз пра славян выкладзена ў кнізе амерыканскага археолага румынскага паходжання Фларына Курты[15]. Фларын Курта лічыць, што *"этнічнасць з'яўляецца калектыўнай рэалізацыяй грамадскіх знакаў адрознення"*. У нашым выпадку, у раннім сярэднявеччы "этнічнасць" з'яўлялася новастворанай грамадскай і культурнай формай мабілізацыі, якая была неабходна для вырашэння палітычных мэтаў. Галоўная ідэя канцэпцыі Курты палягае ў тым, што фармаванне славян не мае нічога супольнага з этнагенезам - яны былі "створаны" візантыйцамі і сталі вынікам класіфікацыі візантыйцамі груп насельніцтва, якія актыўна паводзілі сябе на паўночнай мяжы імперыі ў VI - VII ст. н. э. Візантыйскія аўтары карысталіся тэрмінамі "склавіны" і "анты", каб неяк назваць памежныя плямёны і надаць сэнс працэсам групавой ідэнтыфікацыі, якія адбываліся на іх вачах на Дунаі. Таму Курта лічыць, што славянская групавая тоеснасць *"не сфармавалася на багністых тэрыторыях Прыпяці, а толькі ў цені цвердзяў Юстыніяна"* [16].

Справа ў тым, што ў часы Юстыніяна I славяне пачалі свае набегі на балканскія правінцыі Візантыі. Таксама некаторыя з іх служылі ў візантыйскім войску. Трэба сказаць, што на беларускім Палессі славянскія паселішчы з'явіліся ў V-VI стст. Самае дасканалае з іх, Хотамель, знаходзіцца ў Столінскім раёне і датуецца VII ст.[17] Таму, верагодна, напачатку продкі славян жылі на Палессі.

Славяне мелі толькі тэрытарыяльнае адзінства і на гэтай тэрыторыі з'явілася адносна агульная мова для камунікацыі паміж рознымі плямёнамі. Курта зрабіў гіганцкую працу па аналізе археалагічных дадзеных, апублікаваных у розных славянскіх ці балканскіх краінах, параўнаў іх паміж сабой і зрабіў даступнымі для англамоўнага чытача, ён прыўнёс у славістыку найноўшыя этналагічныя тэорыі[18].

**Балты** (балтыйскія народы) - народы індаеўрапейскага паходжання, носьбіты балтыйскіх моваў, якія засялялі ў мінулым і насяляюць зараз тэрыторыю Прыбалтыкі ад Польшчы і Калінінградскай вобласці да Эстоніі. Першыя пісьмовыя згадкі пра балтаў ёсць у кнізе "Аб паходжанні немцаў і месцазнаходжанні Германіі" (па-лацінску: De origine, moribus ac situ Germanorum) рымскага гісторыка Публія Карнэлія Тацыта.

[12] Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Bialoruskie zeszyty historyczne. 1998, № 9, С. 5-25.

[13] Дучыц Л. Балты і славяне на тэрыторыі Беларусі ў пачатку II тысячагоддзя // Беларускі гістарычны агляд. 1995, Т. 2, сш. 1, С. 15-30.

[14] Піваварчык С. Да этнічных працэсаў на Панямонні ў раннім сярэднявеччы // Bialoruskie zeszyty historyczne. 1999. № 11. С. 241.

[15] Kurta F. The Making of the Slavs: History and Archaeology of the Lower Danube Region, c. 500-700. Cambridge; New York, 2001.

[16] Семянчук Генадзь. Рэцэнзія на "А. С. Кибинь, Ятвяги в X-XI вв.: "балтское племя" или "береговое братство"?, "Studia Slavica et Balcanica Petropolitana", 2008, № 2 (4), с. 117-132." // Bialoruskie zeszyty historyczne. 2010. № 33. С. 182.

[17] Трусаў Алег. Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі) // Наша слова. № 6 (1313), 8 лютага 2017.

[18] Иванов С. А. "В тени Юстиниановых крепостей" Ф. Курта и парадоксы раннеславянской этничности// Studia Slavica et Balcanica Petropolitana. 2008. № 2. С. 6.

Фармаванне балцкіх плямён ішло ў III-II-гім тысячагоддзі да нашай эры, калі плямёны, якія навукоўцы абазначаюць як “культуры шнуравой керамікі”, рассяліліся ў Цэнтральнай і Паўночнай Еўропе. Рэгіёны пражывання балтаў уключалі ў сябе басейны рэк Віслы, Заходняй Дзвіны, вярхоўяў Дняпра, Акі і Волгі. На тэрыторыі сучаснай Беларусі балтам належалі дняпроўска-дзвінская і мілаградская культуры, а таксама палеская культура стужкавай керамікі. У канцы III тыс. да н. э. - VI ст. н.э. яны былі галоўнай часткай насельніцтва сучаснай Беларусі.

У IX-XII ст. пісьмовыя крыніцы ўзгадваюць шэраг балцкіх народаў, якія насялялі паўднёвае і ўсходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора ад Віслы да Заходняй Дзвіны, а таксама паўночна-заходнюю частку сучаснай Беларусі. Балты падзяляліся на заходніх, усходніх і дняпроўскіх. Заходнія балты займалі тэрыторыю ад Панямоння да Ніжняй Віслы. Усходнія балты жылі па берагах рэк Нёман, Заходняя Дзвіна, Вілія. Пра дняпроўскіх балтаў мала што вядома. Усе яны растварыліся сярод славян[19].

**Заходнія балты**. Да іх належалі прусы - група заходнебалцкіх плямёнаў, якія жылі на тэрыторыі сённяшніх Польшчы (Мазурскае Паазер'е) і Калінінградскай вобласці Расіі. Гэта былі вельмі ваяўнічыя плямёны, якія рабілі набегі на сваіх суседзяў. Прусы хавалі сваіх ваяроў разам з іхнімі коньмі, што зрабілася іх этнічнай прыкметай. У V ст. прусы занялі паўвостраў Самбію, вусце Нёмана, а пазней і тэрыторыі Верхняга Панямоння. У пахаваннях прусаў археолагі знаходзяць шмат узбраення (мячы, дзіды, сякеры, рэшткі драўляных шчытоў), аздобаў з металу, бурштыну і шкла.

Суседзямі прусаў былі роднасныя да іх яцвягі, якія занялі суседнюю з прусамі тэрыторыю: заходнюю частку Мазурскага Паазер'я і басейн сярэдняга і верхняга Нёмана. Племя, якое жыло на правым беразе Нёмана, мела назву дайнава, а жыхары левага бераганазываліся яцвягамі. Сваіх нябожчыкаў яцвягі спальвалі, а іх парэшткі хавалі ў каменных курганах, калі на земляным пагорку над рэшткамі спаленага нябожчыка ляжалі камяні. Найбольш яцвягаў жыло на тэрыторыі сённяшняй Польшчы і Гарадзенскай вобласці Беларусі. Куршы жылі на берагах Балтыйскага мора. У IX ст. яны мелі пяць асобных племянных тэрыторый - земляў. У куршаў быў добры флот, іх ведалі ў скандынаўскіх краінах[20].

На пачатку IV ст. н. э. на тэрыторыі Беларусі пачаўся працэс рассялення славян што прывяло да актыўных міжэтнічных кантактаў з мясцовымі балцкімі плямёнамі. У выніку апошнія былі амаль што цалкам асіміляваны, а ў заходніх частках Беларусі склалі змешаныя балцка-славянскія групы. На паўночным захадзе асіміляцыя балтаў працягвалася на працягу ўсяго перыяду феадалізму і амаль што да пачатку XX ст.

У 1908 г., у час калі два суседнія народы - беларусы і летувісы ішлі да сваёй дзяржаўнасці, гэтая тэма яшчэ не страціла сваёй актуальнасці. Віленская газета "Кур'ер Літоўскі" надрукавала артыкул "Зваротная хваля" пра балта-славянкія кантакты ў Лідскім павеце. Невядомы аўтар пад псеўданімам "Н" пісаў, што лінгвістычная карта Літвы і Беларусі, выдадзеная прафесарам Развадоўскім некалькі гадоў таму ў Кракаве, паказвала, як этнічная мяжа паміж беларусамі і літоўцамі перасоўвалася з усходу на захад, г.зн. беларусы каланізавалі былыя літоўскія землі, асімілюючы літоўцаў. Пры канцы артыкула аўтар сцвярджаў, што *"ў апошнія часы, аднак, мы бачым адваротны працэс. Сяляне-літоўцы, пад уздзеяннем на іх нацыянальнай агітацыі ці з-за эканамічных стасункаў, стараючца перасунуць этнаграфічную мяжу на ўсход. ... Літоўцы, як вядома, вызначаюцца вышэйшай агульнай культурай і больш высокай сельскагаспадарчай культурай"* [21]. Праз некалькі нумароў у той жа газеце артыкул невядомага аўтара пракаментаваў знаны археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч, жыхар Лідчыны Вандалін Шукевіч: *"... аўтар робіць высілкі высветліць прычыны перасоўвання этнаграфічнай мяжы паміж беларусамі і літоўцамі ..."* [22], але абшары, якія займаюць літоўцы ў зоне кантактаў з беларусамі вызначаюцца сваімі *"пясчанымі і неўрадлівымі землямі ... адсутнасць пераваг тутэйшых літоўцаў бачна хоць бы ў тым, што некаторыя гаспадаркі, маючы нават па 100 - 150 дзесяцін зямлі, стала купляюць хлеб"* [23]. Навуковец адзначыў, што калі б літоўцы пераўзыходзілі ў культурным сэнсе беларусаў, дык этнаграфічная мяжа рухалася б у адваротны бок, але гэтага няма і даследчыкі не фіксуюць "зваротнай хвалі" літоўскай асіміляцыі[24].

**Каменныя магілы**

З таго нешматлікага, што засталося ад старажытных часоў на Лідчыне найбольш уражваюць каменныя магілы і камні-следавікі. Месца лакалізацыі каменных магіл - Нёманска-Вілейскае міжрэчча.

Найбольш раннія каменныя магілы пачалі з'яўляцца на поўнач ад Нёмана ў канцы XII-XIII стст. (Вензаўшчына, Пузелі, Лялькі, Дварчаны) а ў XIII-XIV стст. традыцыя каменных магіл распаўсюдзілася на значнай тэрыторыі не толькі Верхняга Панямоння (як на поўнач, так і на поўдзень ад Нёмана), але і на тэрыторыі Меншчыны. У цэлым шэрагу месцаў каменныя магілы працягвалі будавацца да XVI ст.[25]

Археолагі С. Піваварчык і Г. Семянчук у кнізе

[19] Гл: Кізіма С.А., Лянцэвіч В.М., Самахвалаў Д.С. Гісторыя Беларусі: Курс лекцый. Мінск, 2003.
[20] Трусаў Алег. Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі) // Наша слова. № 3 (1310), 18 студзеня 2017.
[21] Kuryer Litewski № 234, 11(24) pazdziernika 1908.
[22] Kuryer Litewski № 246, 25 pazdziernika (7 listopada) 1908.
[23] Там жа.
[24] Там жа.
[25] Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XIII веках. С. 125.

"Археалогія Беларусі" пішуць: *"У XI ст. замест пахаванняў у каменных курганах прыходзяць каменныя грунтовыя магілы, якія з другой паловы XIII ст. становяцца пануючымі ў Верхнім Панямонні і Сярэднім Пабужжы. У адрозненне ад курганоў каменныя магілы не выдзяляюцца над паверхняй. Гэта круглыя, авальныя альбо прамавугольныя ў плане збудаванні, якія трохі ўзвышаюцца над зямлёй. Асаблівасцю каменных магіл з'яўляецца наяўнасць каменнай кладкі, якую рабілі з камянёў над кожным пахаваннем у адзін - вельмі рэдка - два слаі. Памеры кладак вагаюцца ад 3,2 х 1,3 х 0,25 м да 1,9 х 1,8 х 0,2-0,3 м. У галавах пахаванняў, а часам і насупраць у нагах ставіліся вялікія валуны, падпраўленыя пад трохвугольнікі вышынёй да 1-1,2 м. На гэтых камянях часта выбіты крыжы і крыжападобныя знакі, выявы птушак і звяроў, прылады працы і іншыя знакі. Для каменных могільнікаў выбіралі месца на пагорках з сухім пясчаным грунтам. Колькасць пахаванняў у іх розная: ад 15-20, да 150-200, а ў сярэднім - 60-100. Магілы размяшчаюцца няроўнымі шэрагамі ў кірунку з паўночна-ўсходняга на паўднёва-заходні альбо наадварот як напрыклад у Вензаўшчыне сучаснага Шчучынскага р-на.*

*Пахавальны абрад у каменных магілах - трупапалажэнне ў чатырохвугольнай яме з закругленымі кутамі і звужанай доннай часткай (даўжынёй 1,8 - 2 м, шырынёй 0,5-0,8 м і глыбінёй 0,5-1,3 м). Нябожчыка абстаўлялі з усіх бакоў дошкамі, якія часам мацавалі драўлянымі цвікамі. Зрэдку хавалі без дамавін. Як правіла, памерлых хавалі на спіне ў выцягнутым стане, адзначаныя пахаванні на левым ці правым баку з'яўляюцца падзахаваннямі. Галавой шкілеты арыентаваныя на поўдзень, паўднёвы захад ці паўднёвы ўсход, поўнач, паўночны захад ці паўночны ўсход, зрэдку на захад. Вялікая разнастайнасць назіраецца і ў размяшчэнні рук: скрыжаваныя на грудзях, выцягнутыя ўздоўж тулава, складзеныя на жываце, левая рука на локці правай, правая - на левым плячы і інш. У кожнай магіле звычайна знаходзіўся адзін касцяк, але сустракаюцца два-тры і нават чатыры"* [26].

Даследчыца каменных магіл археолаг А. Квятkoўская, адзначала, што яны ніколі не бываюць адзінкавамі, яны заўсёды згрупаваны і ствараюць могільнікі, якія часта месцяцца на берагах рэк, азёр, ручаёў, пры тым ніколі не знаходзілі каменныя магілы каля культавых будынкаў. Знешне магілы ніяк не пазначаны: каменныя кладкі моцна задзернаваныя, на паверхню выступаюць верхнія часткі камянёў з кладак. Пры знятцці дзёрну бачна, што каменная канструкцыя трошкі ўзвышаецца над зямлёй. Як правіла, каменныя кладкі аднаслойныя. У галавах і нагах пахаванняў калінекалі знаходзілі вялікія камяні са слядамі штучнай апрацоўкі - счэсаныя з бакоў, пашыраныя ў ніжняй і завужаныя ў верхняй частцы. На камянях, якія знаходзілі ў галавах, зрэдку бачныя выявы крыжоў рознай формы, салярныя і іншыя знакі, каменныя бабы і стоды.

У размяшчэнні магіл назіраецца сістэма: яны цягнуцца няроўнымі радамі з паўночна-усходняга ў паўдзённа-заходнім напрамку (Вензаўшчына, Барок, Дварчаны) ці з паўдзённага захаду на паўночны ўсход (Навасёлкі Зельвенскага р-на). На некаторых могільніках больш старыя пахаванні месцяцца ў цэнтры а больш позніяя па краях. Было заўважана, што магілы месцяцца групамі па 2 - 5 магіл, што дазваляе меркаваць пра сямейны характары пахаванняў. У гэтых групах некаторыя магілы часта з'яўляюцца больш познімі і былі зроблены ва ўжо сфармаваным масіве. Пры гэтым магілы звычайна месцяцца не паралельна але са змяшчэннем ў той ці іншы бок - знаходзяцца пад вуглом адна да другой. Гэты "непарадак" можа тлумачыцца народным павер'ем, якое фіксуецца і зараз: *"Калі хаваць памёрлых сваякоў роўнымі радамі, дык таксама роўнымі радамі паляжа і ўвесь астатні род".*

Першы этап эвалюцыі каменных могільнікаў звязаны з масавым пераходам ад абраду трупаспалення да абраду трупапалажэння ў канцы X - пачатку XII ст. Тады ад курганоў пераходзяць да грунтавых безкургановых пахаванняў.

Другі этап эвалюцыі каменных магільнікаў звязаны з развіццём абраду трупапалажэння. Пахаванні гэтага перыяду заўсёды маюць розны гаспадарчы інвентар. На паверхні магілы, у галавах, сустракаюцца фрагменты керамікі.

Трэці этап эвалюцыі каменным магіл пачаўся з сярэдзіны XVI ст. - памёршых пачалі хаваць у дамавінах, у выцягнутым стане, са зложанымі рукамі і галавой на захад. Інвентар у гэткіх магілах амаль што не сустракаецца, а ў галаве магілы ставяць вялікі часаны камень да 1,2 м у вышыню, часта, камень мае выбіты крыж.

Звычай будавання каменных кладак над пахаваннямі не спыняецца да канца XVII ст. Даследаванні вясковых могілак XVII - XVIII ст. паказваюць, што, як і раней, над магіламі будавалі каменныя кладкі. У га-лаве ставілі часаныя камяні вышынёй 1 - 1,2 м. На гэтых камянях выбіваліся крыжы рознай формы, выявы прыладаў працы, выявы птушак, звяроў і іншыя знакі[27].

Гістарычная Лідчына багатая на каменныя магілы, вывучэнне іх пачалося ў канцы XIX ст. раскопкамі В. Шукевіча і Э. Вальтэра. Гэтыя даследчыкі ў межах былога Лідскага павета даследавалі больш за 400 магіл.

Два пахаванні з каменнымі магіламі маюцца каля вёскі Вензаўшчына (сучасны Шчучынскі р-н). Адно за 0,1 км на захад на пад'ездзе да вёскі (XIII-XIV стст.), другое (X-XV стст.) за 80 м на паўднёвы захад ад вёскі на прыгожым узгорку (вераемна пра гэты ўзгорак пішуць Л. Дучыц і У. Лобач ў энцыкла-

[26] Піваварчык С. і Семянчук Г. Археалогія Беларусі. 1996. Ч. 2. С.31-32.

[27] Квятковская А. В. Каменные могильники Беларуси XI - XVII вв. Автореферат диссертации на соискание научной степени кандидата исторических наук. Минск, 1994. С. 8-17.

педычным слоўніку-даведніку "Беларуская міфалогія" што ён мае назву "Перунова гара"). У 1-м могільніку адзначаны пахаванні трупапалажэннем у ямах галавой на захад, і амаль кожны нябожчык абкладзены дошкамі. У 2-м могільніку (на пагорку) хавалі ўжо галавой на поўдзень і на паўднёвы захад (тут ёсць і трупаспаленне, і пахаванне ў дамавінах, таксама сустракаюцца больш познія пахаванні на месцы ранейшых).

У канцы 1889 г. Э. А. Вальтэр зрабіў у Вензаўшчыне раскопкі 19 старажытных магіл. Ф. Пакроўскі адзначыў, што тут: *"...быў знойдзены арыгінальны спосаб пахавання, таму што над касцякамі і над пластом пяску сустракаюцца надмагільныя вогнішчы і вуглі. У гэтых магілах знойдзены наступныя прадметы: бронзавы ключ з рэшткамі раменьчыка для нашэння гэтага ўпрыгожання на грудзях; розныя галаўныя ўборы, якія складаюцца з бронзавых пласцінак; 2 нараменнікі (рамена - плячо, заўвага Л. Л.); 2 бранзалеты; да 10 масіўных бронзавых пярсцёнкаў; адзін крыжык, які насілі разам са шклянымі каралямі, званочкамі і шамкамі; жалезныя нажыкі; паясныя кольцы; спражкі; адну сякеру і адну дзіду; срэбныя шарыкі на бронзавым дроце, якія служылі вушнымі ўпрыгожваннямі"* [28]. У адной з магіл быў знойдзены павалены гаршчок і сасуд каля галавы нябожчыка, у іншай - міса, у могільніку на пагорку - грошы ВКЛ[29].

Пагорак каля Вензаўшчыны, увесь усеяны каменнымі магіламі, пакінуў у мяне моцнае ўражанне і запомніўся назаўжды. Да таго ж, прыехаўшы ў Вензаўшчыну, удалося ўдакладніць месца, дзе раней знаходзіўся Глушнянскі базыльянскі кляштар. Бо Вандалін Шукевіч пісаў, што каменныя магілы тут знаходзяцца ва ўрочышчы Ганчары каля вёскі Глушні і недалёка ад ўрочышча Манастыршчына і Царкоўшчына, прычым базыльянскі кляштар знаходзіўся ва ўрочышчы Манастыршчына, а царква (верагодна пры кляштары) - ва ўрочышчы Царкоўшчына. Людзі расказвалі, што ў гэтых урочышчах, проста ў лесе, былі старыя хрысціянскія магілы з помнікамі. Можа, гэта былі старыя манастырскія могілкі?

Жыхары вёскі казалі, што нейкія людзі ўвесь час капаюць тут каменныя магілы. Варвары паўсюдна знішчаюць тое малое, што яшчэ засталося ў нас з нашай гісторыі.

Паблізу м. Нача, на палях ваколіцы Пузелі знаходзяцца старадаўнія могілкі, якія ў 1885 г. даследаваў Вандалін Шукевіч сумесна з Эдуардам Вальтэрам (зараз гэта вёска Пузелі, каменныя магілы за 0,7 км на поўдзень ад вёскі). Яны раскапалі 8 магіл, прычым пры мужчынскіх касцяках былі сякеры і крэсалы, а пры жаночых - разнастайныя бронзавыя ўпрыгожанні, акрамя звычайных пярсцёнкаў і завушніц былі бронзавыя дыядэмы з бронзавымі ці пазалочанымі сярэбранымі падвескамі і шкляныя пацеркі рознай велічыні. У Пузельскіх магілах былі знойдзены арыгінальныя бронзавыя ключы-падвескі і два літоўскія дынары. Усе пахаванні мелі сцены выкладзеныя камянямі ад дна да верху. Зверху магілу пакрывалі каменныя муроўкі авальнай формы з вялікімі камянямі ў галавах[30].

Т. Нарбут таксама згадвае аб раскопках у яго прысутнасці адной каменнай магілы ў Начы, тут былі знойдзены адна цэлая каменная сякера і два абломкі сякеры[31].

Не даязджаючы да вёскі Пашкавічы з боку Ліды (Воранаўскі р-н, 0,3 км на поўдзень ад вёскі) у лесе пры дарозе ёсць каменны магільнік XIII-XV стст. Некалькі разоў я спыняўся тут і чытаў сваім спадарожнікам кароткую лекцыю па археалогіі.

Ёсць каменныя магілы і каля вёскі Беліца. У 1981 г. тут было выяўлена пахаванне мужчыны з часткамі каня, якія размяшчаліся зверху, над магілай. Археолаг Ала Квяткоўская лічыць, што гэтае пахаванне засталося ад прусаў (борцей), якія былі вымушаны ўцякаць на нашы землі ад Тэўтонскага ордэна[32].

Каля вёскі Апонаўцы (Воранаўскі р-н, 0,5 км на поўнач ад вёскі) ёсць магільнік XIII - пачатку XV ст. Археолаг XIX ст. Ф. Пакроўскі пісаў, што гэтыя магілы вядомыя ў народзе пад назовам "татарскія могілкі" [33]. Яны маюць выгляд невялікіх насыпаў, выкладзеных з камянёў авальнай ці круглай формы. У магіл авальнай формы амаль заўсёды ў адным або ў абодвух канцах стаяць вялікія, абчэсаныя валуны, што, здаецца, і было нагодай назваць гэтыя магілы "татарскімі". На ўсіх падобных могілках назіраецца аднолькавы абрад пахавання. Нябожчыкаў клалі на дне ямы 0,8-1,2 м глыбінёй, без усялякай падсцілкі, галавой на захад, тварам уверх, з рукамі, скрыжаванымі на грудзях, на жываце, ці выцягнутымі ўздоўж сцёгнаў. Каля нябожчыка звычайна пакідалі ўсё тое, што насілася ці ўжывалася ім пры жыцці. Магілы жанчын маюць шмат усякага роду ўпрыгожванняў з бронзы, з нейкага белага металу (так у Пакроўскага - *Л. Л.*) ці з срэбра. У ліпені 1889 г. Э. А. Вальтэр каля вёскі Апонаўцы раскапаў 21 магілу і знайшоў розныя ўпрыгожванні з бронзы (крыжык, розныя завушніцы, бляшкі і г. д.) і прадметы з жалеза (спражкі, 1 сякеру і г. д.). Пры касцяках былі: 1) абломак пражскага гроша XIII ст., 2) дынары Аляксандра Ягелончыка, 3) дынары з славянскім надпісам "печать" на адным баку, і з малюнкам - дзідай з крыжам на другім. Манеты гэтыя знаходзіліся разам з красалам і крэменем і ляжалі па правы бок ад галавы нябожчыка.

Па пытанні этнічнай прыналежнасці насельніцтва, якое пакінула каменныя могільнікі, існуюць

[28] Покровский Ф. Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С. 109.

[29] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. С. 39-42.

[30] Покровский Ф. Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С. 107.

[31] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1835. T. 1. S. 369.

[32] Квятковская А. В. К вопросу о пруссах-переселенцах на территории Беларуси в средневековье // Гістарычна-археалагічны зборнік. 1997. № 11. С. 13.

[33] Покровский Ф. Археологическая карта Виленской губернии. 1893. С. 107, 108.

два пункты гледжання. Напрыклад, Шукевіч, Вальтэр і Квяткоўская лічылі іх помнікамі яцвягаў, а А. Спіцын, В. Сядоў, Ф. Гурэвіч - помнікамі нашчадкаў таксама яцвягаў, але ўжо славянізаваных[34].

На гістарычнай Лідчыне захавалася яшчэ каля дзесятка могілак з каменнымі магіламі, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

**Памятныя камяні Лідчыны**

Лепшы лідскі гісторык XX ст. Міхал Шымялевіч у 1930-х гг. паведамляў, што ў Няцечы (за 7 км на ўсход ад Ліды) па левым баку дарогі з Ліды на Ліпнішкі, у невялікай упадзіне (так званай "Кудры") ляжаў камень. Людзі расказвалі, што яго ў Дуброўню здалёк нёс д'ябал, каб забіць біскупа, які там жыў, але пасля поўначы на Дакудаўскім балоце пачуў спевы пеўня, страціў сілу, і камень выпаў з яго кіпцюроў. На камені было зроблена некалькі вялікіх веерападобных драпінаў, якія ўважалі за след кіпцюроў д'ябла. *"Не магу сказаць, ці гэта арыгінальнае паданне, ці паўстала пад уплывам легенды "Камень у Альгінях" Ігната Ходзькі. Пад гэтым каменем аматары неаднаразова шукалі скарб - французскай касы з 1812 г. Пасля парцэляцыі і камацыі*[35] *зямлі маёнтка Косаўшчына месца, на якім быў гэты камень, патрапіла ў рукі хціўага на грошы гаспадара, і ён разбіў і прадаў камень на будаўнічыя матэрыялы яшчэ перад 1915 г."* [36] Менавіта пра гэты камень, падаючы фізічна-геаграфічнае апісанне літоўскай зямлі, пісаў Тэадор Нарбут: *"За Лідай, на тэрыторыі Дубровенскага староства, ёсць велічэзная глыба граніту, да 400 кубічных футаў"* [37].

Таксама Шымялевіч паведаміў, што ў самой Лідзе, на Зарэччы (зараз вуліца Калініна) на пляцы Ступновічаў ляжала вялікая глыба старога граніту даўжынёй 4 м, шырынёй 2 м і вышынёй 1,5 м. На паверхні, якую было бачна з зямлі, былі два круглыя паглыбленні з гладкім дном - адно дыяметрам 20 см, а другое 25 см, глыбінёй каля 2 см. У 1892 г. майстар па вырабе надмагілляў Баляслаў Хруль разбіў гэтую глыбу на часткі і з адной з іх у сваёй майстэрні вычасаў вялікі помнік у выглядзе дуба. Гэтае арыгінальнае надмагілле з адпаведным надпісам было пастаўлена на магіле ксяндза Казіміра Гейдройца ў Забалаці. Ніякіх паданняў пра гэты камень не захавалася[38].

У Дайнаве раней быў вядомы сакральны камень "кабыла", на якім, па паданні, у часы Дайнаўскага княства, каралі злачынцаў, камень не захаваўся да нашага часу.

Недалёка ад гэтага сакральнага каменя "кабылы" да нашага часу ляжыць камень-сваяк. Прыйшлося патраціць шмат часу на пошукі "сваяка", бо я шукаў яго на вялікай забалочанай тэрыторыі (каля 2 км$^2$). Камень знайшоўся за 0,5 км ад вёскі Дайнава-1 па дарозе да вёскі Бельскія, за 150 м на поўнач ад дарогі. Ад яго да таго месца, дзе раней ляжаў славуты камень "кабыла", каля 1 км напрасткі.

Гэта валун даўжынёй 2,45 м, шырынёй 1,8 м і вышынёй над паверхняй зямлі 1,15 м. Зверху на паверхні валуна маецца 13 выразных лунак і шмат меркаваных (усяго, магчыма больш за 50). Дыяметр лунак 5-7 см і глыбіня 1-3 см . Дайнаўскі валун адносіцца да класу ямкавых камянёў, г. зн. тых, на паверхні якіх маюцца адносна невялікія ямкі паўсферычнай формы. Дайнаўскі камень-следавік робіць моцнае ўражанне. Лункі на камені добра выяўляюцца вокам, але пад пякучым сонцам лета на маіх здымках іх не бачна, таму зрабіць здымак, лепшы за здымак гісторыка Эдварда Зайкоўскага не ўдалося[40]. Вераемна, Зайкоўскі рабіў штучную падсветку, каб выявіць рэльеф каменя.



***Эдвард Зайкоўскі. Культавы камень з ямкамі каля вёскі Дайнава-1 Лідскага раёна***

Існуе меркаванне, што групы лунак на паверхні валуноў з'яўляюцца старажытнымі выявамі зорнага неба. Валуны гэтага тыпу знаходзяцца пераважна на паўночным-захадзе Беларусі. Гэта добра суадносіцца з арэалам археалагічнай культуры Панёманскай шнуравой керамікі (мясцовы варыянт балцкай культуры) таму верагодна такія камяні - "зорныя мапы", былі створаны прадстаўнікамі гэтай культуры. Калі гэта так, дык можна меркаваць, што лункі былі выбіты ў перыяд паміж 2000 - 1500 гг. да н.э.

Падобныя камяні на Лідчыне гэта:

- "Вялікі" камень у в. Васілішкі, 2 лункі.
- "Пярун" - камень у в. Таўкіне (Воранаўскі р-н), 4 лункі.
- "Вялікі" камень у в. Рэмзы (Воранаўскі р-н),

---

[34] Піваварчык С. і Семянчук Г. Археалогія Беларусі. 1996. Ч. 2. С. 33.

[35] Розных падзелаў маёнтка.

[36] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 9. S. 103.

[37] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1937. T. II. S. 196.

[38] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 9. S. 102.

[39] Винокуров В.Ф., Дучиц Л.В., Зайковский Э.М., Карабанов А.К. Культовые валуны с рукотворными углублениями. [Электронный ресурс] - Рэжым доступу: http://www.kirjazh.spb.ru/history/vinokur.htm - Дата доступу: 18. 03. 2018.

[40] Ляўкоў Э., Карабанаў А., Дучыц Л., Зайкоўскі Э., Вінакураў В. Культавыя камяні Беларусі // Studia Mythologica slavica № 3. 2000. С. 43-56.

6 лунак.

- "Вялікі" камень у в. Зарэчча (Шчучынскі р-н), 33 лункі.

-"Вялікі" камень у в. Зеняўцы (Шчучынскі р-н), 35 лунак.

У суседнім Іўеўскім р-не такія камяні ёсць у в. Доўнары і ў в. Урцішкі, абодва камяні маюць больш за 50 лунак на паверхні[41].

Наступная катэгорыя валуноў са слядамі штучнай апрацоўкі - тыя, якія маюць на паверхні адшліфаваныя круглыя талеркападобныя паглыбленні.

Міхал Шымялевіч пісаў на пачатку XX ст.: *"...блізка ад ваколіцы Бенкявічы, на ўскрайку лесу, ляжыць камень з трыма плоскімі, круглымі паглыбленнямі, кожнае па 4 вяршкі ў дыяметры, які ўяўляў собою відавочна ў часы паганства алтар, прысвечаны богу дарог Кела - Дэвас"* [42]. Праз 20 год вялікі лідскі гісторык яшчэ раз напісаў пра гэты камень: *"Бенькавічы, ваколіца ў Жырмунскай гміне за 12 км на паўночны захад ад Ліды. На перакрыжаванні вясковых дарог з вёскі Наркуны да вёскі Рэксці і ад фальварка Бычкоўшчына да Аполіна, ляжыць, амаль што цалкам у зямлі глыба старога граніту. 30 гадоў таму, калі мне яе паказаў тутэйшы шляхціц, с.п. Пётр Бянкевіч, камень гэты быў цэлы. У 1934 г. знайшоў каля каменя выкапаны дол і трэцяя частка яго аказалася адбітая кімсьці з тутэйшых хцівых варвараў. На бачнай з зямлі паверхні каменя маюцца тры круглыя паглыбленні дыяметрам 20 см і глыбінёй 2 см. Згодна з легендай, калісьці на гэтым камені абедаў кароль. Раней камень меў назву, але назва не захавалася"* [43].

Знайсці гэты камень летам 2010 г. я не змог і таму, верагодна, сёння ён не існуе. Такія ж камяні ёсць у Воранаўскім раёне каля вёсак Падзітва і Друскінікі і паміж вёскамі Палашкі і Каргаўды. Падобны ж валун ляжыць каля Эйшышкаў у сучаснай Літве.

Міхал Шымялевіч пісаў пра два вялікія камяні пры гасцінцы з Крупава на Жырмуны, якія ён бачыў перад Першай сусветнай вайной. Камяні мелі значныя, але не надта глыбокія, круглыя паглыбленні. У 1930-я гг. калі будавалася шаша Вільня - Ліда гэтыя камяні разбіты на жвір[44].

За вёскай Мыто ёсць вельмі цікавы валун, які мае на сваёй паверхні даволі вялікае паглыбленне ў выглядзе чашы. Мясцовыя людзі расказваюць, што ў выемцы гэтага незвычайнага каменя заўсёды стаіць вада, нават у самую спёку яна не высыхае, і вада гэтая гаючая - лечыць бародаўкі і "канапушкі". Колькі людзі сябе памятаюць, яны хадзілі да гэтага каменя лекавацца і па-сёння водзяць туды дзетак. У 1988 ці 1989 гг. моладзь з менскай "Талакі" была тут у вандроўцы і імі былі запісаны расказы мясцовых людзей пра гэты



***Камень за вёскай Мыто. Фюта аўтара.***

камень. Называюць яго "Чара Багародзіцы", і адна бабуля распавяла наступную легенду: *"Было вельмі сухое лета, выгаралі палі... Студні ў вёсцы пачалі сохнуць, і ў іх ужо амаль не было вады. Дзяўчына пайшла ў лес, дзе калісьці была крыніца. Але на тым месцы, дзе па паданні была крыніца, ляжаў вялікі камень... Дзяўчына была знясіленая ад смагі і, упаўшы на зямлю, пачала маліцца да Маці Божай, каб тая дапамагла не толькі ёй, але і ўсім вяскоўцам. Малітва была такая шчырая і чыстая, што Багародзіца падаравала дзяўчыне адмысловую чару з вадой, якая цудатворна з'явілася на камені. Усё лета вяскоўцы бралі з яе ваду і гэтым выраталіся ад смяротнай спякоты"*. На паўночным баку каменя быў высечаны крыж, аднак яго счасалі па загадзе мясцовага (калгаснага?) партсакратара на пачатку 1960-х гг.

Падобны камень раней ляжаў каля вёскі Абманічы. Міхал Шымялевіч занатаваў: *"Гоманічы ці Абманічы ці Гутна, вёска за 4 км на паўночны ўсход ад Ліды. Пры дарозе з Ліды на Брындзяняты, у дзяржаўным лесе ляжыць каменная глыба 2,5 м даўжынёй і 1,5 метра шырынёй з натуральным паглыбленнем на некалькі літраў вады наверсе, якая пасля дажджу тут звыкла знаходзіцца. Камень мае назву "Гоманава чарка" і "Чортавая чарка". Паданне расказвае, што ў гэтай мясцовасці жыў калісьці селянін Гоман, бедны п'яніца. Не маючы за што купіць гарэлкі, спаткаў на Абманіцкай грэблі д'ябла і прадаў яму сваю душу за цудоўную чарку, з якой гарэлка ніколі не ўбывала. Д'ябал тую чарку ў выглядзе вялікага каменя, відочна, прынёс Гоману, і яна была настолькі вялікай, што бедны п'яніца, насёрбаўшыся з яе гарэлкі, адразу памёр. І ёсць адзін дзень у год, калі ў гэтай цудоўнай чарцы знаходзіцца не вада, а сапраўдная гарэлка, але гэты дзень ніхто не змог дапільнаваць, бо заўжды знаходзілася нейкая перашкода"* [45].

Вандалін Шукевіч даў наступную інфармацыю пра другі камень, які знаходзіцца над берагам ракі

[41] Vitiaz S., Vinakurau V. Cup-Marked Stones ("Star Maps") in Belarus // Archaeoastronomical data and the echoes of cosmic catastrophic events (Abstracts submitted for the SEAC 2002 Tenth Annual Conference, 27-30 August in Tartu, Estonia). Tartu, 2002. P. 76-77.

[42] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[43] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 9. S. 102.

[44] Там жа.

[45] Там жа.

Вярсокі, якая ўпадае ў раку Мерач, паміж вёскамі Юршышкі, Друскенікі, Зубішкі і Вяжанцы (Вяжанцы - вёска за 10 км на паўночны захад ад мястэчка Эйшышкі). Гэта глыба дробна-зярністага граніту. Верхняя частка каменя плоская, не роўная. На ёй маюцца два круглыя паглыбленні (місы), старанна выбітыя і адшліфаваныя. З тых місак - як кажа паданне - падчас палявання на берагах Вярсокі хацеў пад'есці нейкі кароль. Гэтага каменя я асабіста не бачыў. Месцазнаходжанне яго акрэслена[46].

Досыць рэдкай разнавіднасцю сакральных валуноў з'яўляюцца "камяні кахання" ці "камяні нявест" - у Больценіках Воранаўскага і ў Новым Двары Шчучынскага р-наў. Валун каля в. Больценікі легенда звязвае з Адамам Міцкевічам і Марыляй Верашчакай. Згодна са звесткамі мясцовых жыхароў, раней існавала традыцыя прыводзіць нявест да такога каменя, і таму да нашага часу жартуюць: "Ці, звадзіў ты ўжо сваю жонку да каменя?" Магчыма, "камяні кахання" ўшаноўваюцца з глыбокай старажытнасці і маюць адносіны да культу пладавітасці[47].

Наступны клас камянёў - валуны-пярэваратні, па легендах яны раней былі жывымі істотамі. Вандалін Шукевіч пісаў пра крыху абчэсаны гранітны валун, пастаўлены вертыкальна паблізу вёскі Казлы і Таболічы (Воранаўскі р-н, каля Забалаці): *"Адзін з іх стаіць паблізу ад вёсак Казлы і Таболічы Забалацкай гміны ў Лідскім павеце, уздымаецца над паверхняю на 1,35 м. Ёсць гэта ледзь ачэсаны камень у форме нерэгулярнай піраміды, каля каменя, паверхня зямлі забрукавана дробнымі каменьчыкамі. Другі такога кшталту і такога ж памеру камень ляжыць каля першага. Народнае паданне кажа, што "нарачоных ператварылі ў камяні ўгневаныя бацькі, бо маладыя хацелі ажаніцца насуперак іх волі"* [48].

На паўночны захад ад Зблян, на адлегласці адной вярсты, каля дарогі на Парэчча, у канцы XIX ст. стаялі тры камяні рознай велічыні на адлегласці ў аршын адзін ад другога. Першы падымаўся над паверхняй зямлі на 1,5 аршына, другі - на 0,75. Трэці камень, верхняя частка якога, верагодна, была адбітая, ледзь выходзіў з зямлі. Усходні бок кожнага каменя - плоскі, і на ім высечаны васьміканцовы крыж. Пра паходжанне камянёў існуе народная легенда: тут сустрэліся два вяселлі, адно ехала ў царкву, а другое ўжо вярталася. За тое што вяселле, якое ўжо атрымала дабраславенне, саступіла дарогу вяселлю, якое яшчэ не паспела яго атрымаць, маладыя і фурман былі ператвораныя ў камень, а конь - у грушу (да 1884 г. каля камянёў расла груша). Па іншым паданні, у камяні былі ператвораныя маладыя, за тое, што ў нечым правініліся перад маці і былі ёю праклятыя[49].

Міхал Шымялевіч пісаў, што *"40 гадоў таму* (пры канцы XIX ст. - *Л. Л.*) *чуў апавяданне, што пры дарозе з Гародна да Палецкішак*[50] *знаходзілася група камянёў, падобна, груба абчасаных, якія былі падобныя на сапраўднае вяселле. На некаторых камянях былі значны косы, чым і адрозніваліся каменныя кабеты. Паданне расказвала, што гэтае вяселле было кімсьці заклята і ператварылася ў камяні. Ніколі не меў магчымасці даведацца, ці існуе яшчэ гэтая група і дзе дакладна яна знаходзіцца"* [51].

За 0,5 км на захад ад фальварка Бароўка, у лесе маёнтка Заполле, каля дарогі з Ліды да маёнтка Востраў знаходзілася Яма кума - натуральны дол дыяметрам у некалькі метраў. На дне гэтага дола ляжаць тры камяні: першы - 2 х 1 м і каля яго другі - 1,5 х 1 м, а паміж імі трэці - 0,75 х 0,5 м. Ніякіх знакаў ці слядоў апрацоўкі на гэтых камянях няма. Камяні амаль што цалкам у зямлі. Людзі казалі, што кум з кумой везлі дзіця да хросту і тут, у гэтай яме, паміж імі "нешта адбылося", у выніку чаго, з-за неасцярожнасці яны задушылі дзіця, а пан Бог іх за гэта пакараў - усіх ператварыў у камяні. У цёмную восеньскую ноч і зараз можна чуць, як кумы тут цалуюцца, а дзіця плача[52].

Да самай вялікай катэгорыі сакральных камянёў належаць камяні-следавікі. Вераемна, першапачаткова паглыбленні на іх былі прысвечаны старажытнай Вялікай багіні ці яе мужчынскаму адпаведніку, а пасля прыняцця хрысціянства ўяўленні пра камяні змяніліся. Следавікі вядомыя амаль ва ўсім свеце і паводле Герадота (V ст. да н.э.), выява ступні Геракла была на скале каля берага Днястра, і ёй пакланялася мясцовае насельніцтва[53].

Камень-следавік у в. Мэйры Лідскага р-на, знаходзіўся пад абаронай дзяржавы, ляжаў за 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі.

Міхал Шымялевіч падаў такія звесткі пра гэты камень-следавік: *"Вёска Мэйры складаецца з двух частак - усходняй, якая называецца Мілевічамі і заходняй, вядомай пад назвай Мэйры. Камень, пра які ідзе размова, ляжыць за 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Мілевічы і за некалькі дзесяткаў метраў на поўдзень ад гасцінца Мыто - Паперня, на невялікім пагорку, які парос рэдкімі соснамі. Згодна са зробленым перадзелам зямлі гэтае месца знаходзіцца на зямлі Мацея Чыжыка. Даўгаваты стары камень няправільнай*

---

[46] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 10. S.111-112.

[47] Зайкоўскі Э. Культавыя камяні Гродзеншчыны: агульнабеларускія рысы і рэгіянальныя асаблівасці // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа. 2003. С. 206-210.

[48] Szukiewicz W. Szkice z archeologii przedhistorycznej Litwy. Cz. 1. Epoka kamienna w gub. Wilenskiej. 1901. S. 33.

[49] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 98.

[50] Палецкішкі, вёска за 10 км на захад ад Воранава.

[51] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 10. S. 112.

[52] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. 1937. № 9. S. 102.

[53] Зайкоўскі Э. Культавыя камяні Гродзеншчыны: агульнабеларускія рысы і рэгіянальныя асаблівасці. С. 206-210.



***Эдвард Зайкоўскі. Камень-следавік каля вёскі Мэйры Лідскага раёна***

*формы, памерам 70 х 50 х 40 см не мае ніякіх слядоў апрацоўкі, бачны на ім толькі два, а можа, тры выдзеўбаныя крыжыкі. Пры канцы каменя, на яго нахільнай паверхні знаходзіцца выразнае, як быццам натуральнае паглыбленне, якое мае падабенства са следам глыбока ўціснутай ступні 12-ці гадовай дзяўчыны, даўжынёй 16 см, шырынёй 5-6 см і глыбінёй да 3 см. Магчыма, калісьці камень парушылі з месца, бо след ступні знаходзіцца на бакавой паверхні, і вада ў ім утрымлівацца не можа. 10 траўня 1936 г. купка дзяцей, якія бавіліся на вуліцы вёскі, у адказ на маю просьбу паказаць камень са следам Маці Божай з задавальненнем правялі мяне на месца. Тут я убачыў, што зямля каля каменя чыста падмецена і пасыпана белым пяском, а сам камень атачоны вялікім вянком з дзеразы і ўплеценымі кветкамі палыну. На маё пытанне дзеці адказалі, што камень гэты абмятаюць і ўпрыгожваюць кветкамі вясковыя дзяўчаты. А паважнае стаўленне да каменя ў вясковага люду, па словах Нарбута, мае ўжо не адно стагоддзе і захавалася да нашага часу"* [54].

У чэрвені 2010 г. у мяне адбылася такая размова з чатырма мясцовымі вельмі пажылым людзьмі ў в. Мэйры. Я запытаўся ў першага дзеда на "паўднёвым ўсходзе вёскі":

- А дзе ў вас тут камень знаходзіцца, са следам нагі, такі...?

- Дык няма яго, даўно ўжо няма.

- Не можа быць, а дзе ж ён знаходзіцца?

- Там, вось тамака ляжаў, на горцы... і праехаць на аўтамабілі можна прама да яго...

Еду на ўзгорак, нічога не знаходжу, вяртаюся, сустракаю гэтага ж дзеда і трох бабулек з ім, пытаюся:

- Дык дзе ж камень?

- Ужо гадоў з 10 як звезлі яго, і ты не першы, хто за гэтыя гады яго шукае.

- А хто ж яго прыбраў? Калгас?

- Не, не калгас, у калгасе ўсе ж тутэйшыя, разумеюць...

- Дык хто ж?

- Дык гадоў ужо з 10, нейкія маладзёны з горада прыехалі, пагрузілі ў машыну і павезлі...

- А што за машына? Як яны выглядалі?

- Не памятаем ужо ніякіх падрабязнасцей, даўно гэта ўжо было.

- Як выглядаў камень, што пра яго памятаеце?

- Камень такі вось быў (малюе на зямлі авал з вялікай воссю каля 50 см), яго не цяжка было пагрузіць... Памятаю, мы яшчэ малыя былі, калі дарослыя ў касцёл хадзілі, мы, дзеці, каля гэтага каменя маліліся. Там быў след нагі Божай Маці і выява Ружанца... я яшчэ, малой была, мая ножка якраз у той след на камені патрапляла... Ружанец на камені - гэта такія паглыбленні па крузе..., і нават там, дзе крыж павінен быць, там таксама адмысловая ямка была... .

Прывяду згадкі пра гэты камень у гістарычнай літаратуры.

Тэадор Нарбут у дадатках да Т. VIII. "Гісторыі …" надрукаваў тэкст "Пра басьму" [55], у якім піша, што *"басьма часцей мае выгляд ступні чалавека"*. Аўтар артыкула апавядае далей, як вывучаючы значэнне басьмы, прыйшоў да разумення, як ён мяркуе, іншай загадкі: *"Гэтае назіранне прывяло мяне да тлумачэння знакаў чалавечай ступні, выбітых на камянях, якія ёсць у паветах ... : Гарадзенскім, Лідскім і Ашмянскім. Два такія камяні, знаходзяцца ў добра вядомых месцах. Адзін у Лідскім павеце, Ваверскай парафіі, у маёнтку Юзафа Шышкі, каля вёскі Мэйры: ступня на камені там выразная і дакладна выбітая. Сяляне ўважаюць яе за ступню Маці Божай і прызвычаіліся да яе ўшанавання. Другі камень у павеце Ашмянскім, каля дарогі з Трабаў да Гальшанаў, каля карчмы. Называецца той камень "След чорта", такую ж назву мае і карчма. ... Пра камень у Гарадзенскім павеце кажуць, што ён ляжыць над ракой Котрай, на левым беразе, недалёка ад Берштаў".* Нарбут лічыў, што *"манголы распаўсюдзілі над Славяншчынай Рускай сваё панаванне, якое як раз даходзіла да таго месца, дзе ляжаў той камень з адбіткам ступні, яны клалі на іх свае знакі - выявы Басмы"* [56].

У іншай сваёй працы Нарбут дадаў: *"Дажджавая вада, якая збіраецца ў тыя паглыбленні, лічыцца гаючай для вачэй"* [57].

Яшчэ некалькі цытатаў пра Мэйрскі камень:

Адам Кіркор: *"У двары Юзафова, у полі, пры в. Мэйры Лідскага павета на ... камені відаць адбітак чалавечае нагі"* [58], і *"Пры вёсцы Мэйры Мытлянскай воласці, ёсць вялікі камень з выявай на ім чалавечай ступні, як бы адбітай на мяккім воску. Мясцовыя*

[54] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie // Ziemia Lidzka. S. 110-111.

[55] Басьма - татарскае слова, абазначала адбітак, так сама магло абазначаць стода, балвана, статую. У нашым выпадку адпавядае знаку татарскай улады.

[56] Narbutt Teodor. Dzieje starozytne narodu litewskiego. Wilno, 1839. T. VIII. Dodatak XI. S. 45.

[57] Teodora Narbutta pomniejsze pisma historyczne szczegolgni do historyi Litwy odnoszace sie. Wilno, 1856. S. 219-220.

[58] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Вестник Императорского Русского Географического общества. Ч. 20, 21. СПб. 1857-1858. С. 180.

*жыхары лічаць адбітак следам Маці Божай"* [59].

Дучыц Л., Зайкоўскі Э.: *"Каля в. Мэйры Лідскага раёна знаходзіцца валун, апісаны яшчэ ў XIX ст. На валуне ёсць паглыбленне. вельмі падобнае на след чалавечай нагі (прытым не з пляскатай, а з "пад'ёмістай" ступнёй). Паглыбленне называюць "След Маткі Боскай". Побач з ім - падабенства меншага следу. Яшчэ адзін камень са "Следам Маткі Боскай" раней ляжаў і каля в. Дылева"* [60].

Ад каменя застаўся толькі фотаздымак Э. Зайкоўскага [61].

Камень-следавік быў у в. Красулі (Шчучынскі р-н, камень знаходзіцца пад абаронай дзяржавы). Следавік ляжаў за заходняй ваколіцай вёскі. У ліпені 2010 г. жыхары вёскі расказалі, што добра яго памятаюць, але ўжо гадоў з 20 каменя няма. Людзі расказалі, што камень быў вялікі, меў памеры, прыкладна 120х80 см, быў цалкам урослы ў зямлю, і меў на сабе два адбіткі, адзін, вялікі лічыўся следам дарослага і быў прыкладна мужчынскага 41-42 памеру (расказаў мужчына, які сам ставіў сваю нагу на след) і другі - меншага памеру, лічыўся следам дзіцяці.

На царкоўным двары ў в. Бабры (Лідскага р-на) на поўнач ад храма знаходзіцца камень-следавік вышынёю 0,5 м. з адбіткам жаночай ступні прыкладна 34 памеру. Па мясцовавых паданнях гэта "След Маці Божай". Гэты камень раней знаходзіўся на лузе за царкоўнымі могілкамі. У 20-х гадах нашага стагоддзя следавік быў прывезены да храма і асвечаны праваслаўным святаром. Камень быў знойдзены ў 1999 г. Л. Лаўрэшам і У. Круцікавым і ўпершыню апісаны ў "Лідскім летапісцы" № 9 за 1999 г. У 2009 г. ён, агароджаны невялікім плотам, ляжаў на цвінтары пры Баброўскай царкве.

Усяго на тэрыторыі сучаснай Гарадзенскай вобласці вядома больш 15 камянёў-следавікоў.

Міхал Шымялевіч высунуў вельмі цікавае тлумачэнне назве "камень-следавік", ён пісаў: *"Па старажытнай юрыдычна-землеробчай тэрміналогіі адзінкі зямлі называліся слядамі. Тэрмін "след" спатыкаем і на нашых тэрыторыях у другой палове XV ст.: "Гладку в Радуни Кровопустов след" (Літ. Метр., кн. III, запіс., С. 72.), каля 1524 г. у Астрынскім павеце - два сляды наданы Шымку Мацкавічу (М. Любавский. Област. дел., С. 451.) і г. д. Маю дакументы - прывілеі Яна з княжатаў літоўскіх, біскупа віленскага, 1538 г. і позву 1743 г. Гэтыя дакументы сведчаць, што старажытныя касцёлы ў Вялікай Ваверцы ці Студзянцы, а таксама ў Дылеве ці Малой Ваверцы ад паловы XV ст. мелі шматлікія наданні землямі і людзьмі, якія ў 1571 г. перайшлі разам з касцёламі да вызнання евангеліцка-рэфарматарскага, а потым былі толькі часткова вернуты, пасля вяртання ў рыма-каталіцкае вызнанне, праз шматлікія і шматгадовыя судовыя працэсы. У выніку праведзенай пры канцы XVI ст. валочнай рэформы, паўсталі ў гэтай мясцовасці новыя вёскі, а старажытныя назвы земельных надзелаў зніклі і зараз немагчыма ўжо зразумець, якія землі мелі касцёлы і як тая зямля называлася. Адважуся прапанаваць ідэю, што пэўныя землі, якія належалі да пэўнага касцёла, ці нават да алтара Маці Божай, маглі мець назву "След Маці Божай", а камень з паглыбленнем, падобным на след, патрапіў сюды выпадкова ці наадварот адмыслова быў тут пакладзены ў якасці доказу не толькі юрыдычнага, а і маральнага, што гэтая зямля ёсць уласнасцю не "ерэтыкоў кальвіністаў", а Маці Божай"* [62].

Думаю, пакуль зніклі не ўсе нашы памятныя камяні, каб захаваць іх для нашчадкаў, самы час зрабіць недзе ў адным месцы музей камянёў.

**Яцвягі і Лідская Дайнава**

Пераважнай большасцю даследчыкаў яцвягі трактаваліся як балцкае племя, якое выразна адрознівалася ад суседзяў, мела сваю тэрыторыю, мову, культуру і г. д. Некалькі пакаленняў гісторыкаў прыкладала высілкі для апісання мовы, тэрыторыі і культуры яцвягаў. Каб спрыяць гэтаму, у 1959 г. на Беласточчыне нават была створана адмысловая Комплексная яцвяжская экспедыцыя, у якой працавалі даследчыкі розных спецыяльнасцяў з Польшчы, Швецыі і СССР. Аднак вялікіх вынікаў экспедыцыя не дала.

Тэма яцвягаў надзвычай складаная. Бібліяграфія па гэтай праблеме налічвае некалькі тысяч кніг і артыкулаў (напрыклад, вядомая бібліяграфія Ядвігі Матэльскай і Ёланты Пахадовіч-Май пералічвае каля 900 пазіцый за 30 год, з 1945 па 1975 гг.[63]). Таму толькі пераказу версій і тэорый можна прысвяціць вялікую кнігу. Каб мець нейкае сур'ёзнае сваё меркаванне па гэтай тэме, трэба прысвяціць вывучэнню праблемы яцвягаў усё жыццё, і таму я толькі каротка перакажу асноўнае.

Яцвягі - група плямён, якія існавалі ў I - пачатку II тысячагоддзя н. э. У нас яны былі больш вядомыя як яцвягі, у немцаў - як судавы (судзіны), у летувісаў - як дайнава. Выказваюцца думкі, што племянны саюз яцвягаў складаўся з чатырох плямён: судзінаў, дайнавы, паляксянаў і ўласна яцвягаў. Іх асноўныя археалагічныя помнікі - каменныя курганы, на змену якім прыйшлі каменныя магілы.

Летапісы ўпамінаюць яцвягаў з X ст., але не акрэсліваюць дакладна тэрыторыю іх рассялення. Іпацьеўскі летапіс ўказвае, што жылі яны ў міжрэччы Нёмана і Нарава. Пасля доўгіх дыскусій, навукоўцы прыйшлі да высновы, што арэал рассялення яцвягаў ахопліваў вельмі шырокую тэрыторыю: паўночна-

[59] Biblioteka Warszawska. 1855. CLXXIV. S. 452.

[60] Дучыц Л., Зайкоўскі Э. Пра некаторыя вясковыя святыні Віленшчыны // Куфэрак Віленшчыны, №1(3). 2001. С. 23.

[61] Ляўкоў Э., Карабанаў А., Дучыц Л., Зайкоўскі Э., Вінакураў В. Культавыя камяні Беларусі. С. 43-56.

[62] Szymielewicz Michal. Zabytkowe kamienie. S. 111.

[63] Гл: Jadwiga Matelska, Jolanta Pochodowicz-Maj, Bibliografia Jacwiezy (materialy z lat 1945-1975). Bia?ystok, 1985.

ўсходнія раёны сучаснай Польшчы, землі беларускага Панямоння і часткі берасцейскага Пабужжа, поўдзень сучаснай Літвы і літоўскае Занямонне. Агульнага меркавання пра лакалізацыю плямён дайнавы ці яцвягаў няма. Можна прыгадаць Г. Лаўмянскага, які на падставе лакалізацыі тапонімаў граматы Міндоўга 1259 г. зрабіў выснову пра тое, што Дайнаўская зямля знаходзілася паміж Мазурскімі азёрамі і р. Бебжа ці М. П. Барсава, які лічыў, што яна знаходзілася ў міжрэччы Верхняга Нёмана і Віліі[64].

Самыя новыя высновы пра яцвягаў зрабіў Аляксей Кібінь з кафедры славянскаіх і балканскіх краін гістарычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта. Ён высунуў канцэпцыю, згодна з якой яцвягамі называліся змяшаныя па складзе ваенна-гандлёвыя групоўкі, якія дзейнічалі ў другой палове X ст. у Верхнім Панямонні, Паўночным Палессі і, магчыма, у частцы басейна Заходняга Буга. Гэтыя групоўкі займаліся вайной, промысламі і карабляходствам па рэках. У этнічным сэнсе яцвягі не былі аднастайныя: акрамя балцкага насельніцтва (як мясцовага, так і прышлага з балтыйскага ўзбярэжжа), у іх склад уваходзілі асобныя славянамоўныя папуляцыі. Але ядром гэтай ваенна-гаспадарчай супольнасці хутчэй за ўсё былі варагі, якія і надалі гэтаму этнічнаму кангламерату сацыяльныя функцыі[65].

У другой палове X ст. у Верхнім Панямонні засноўваюцца новыя гарадзішчы - Індура на Свіслачы, Кульбачына ў Шчучынскім раёне (пра Кульбачына - далей), а таксама Муравельнік каля Ваўкавыска. Культура двух апошніх умацаваных паселішч выявіла выразныя скандынаўскія ўплывы. Менавіта сувязь знаходак з паўночнай вайскова-дружыннай культурай у сукупнасці з керамікай дазволілі датаваць гэтыя помнікі канцом X-першай паловай XI ст. Кібінь лічыць, што ваўкавыскае слова "яцвезь" указвае на карабляходства як адзін з галоўных заняткаў яцвягаў.

Беларускі гісторык Генадзь Семянчук у рэцэнзіі на кнігу Кібіня адзначыў: *"У дадзеным выпадку мы маем справу ў пэўным сэнсе з сацыяльным тэрмінам, які абазначаў род заняткаў: яцвяжская дружынная культура не шмат чым адрознівалася ад культуры варагаў Русі. Разам з тым узнікненне асобнай назвы для гэтай групы сведчыць аб неабходнасці асаблівай самаідэнтыфікацыі для яе прадстаўнікоў, якая адлюстроўвала еднасць калектыву і яго супрацьпастаўленасць іншым. "Збіранне" яцвягаў трэба аднесці да другой паловы X ст., калі ўзнікаюць названыя гарадзішчы і адкрытыя паселішчы"* [66].

Нельга сказаць, што падобныя погляды з'яўляюцца агульнапрынятымі ў сучаснай гістарыяграфіі, але як мінімум адно палажэнне прызнаецца несумнеўным - этнічная ідэнтычнасць не была адзінай формай ідэнтычнасці ў Сярэднявечча.

У балцкай, яшчэ не асіміляванай славянамі, зоне вёскі яцвягаў атрымалі назву Дайнава, а ў славянскай - Яцвезь. Мяжой-падзелам гэтых тэрмінаў стаўся Нёман. Адзінай вёскай бежанцаў на поўнач ад Нёмана з славянскай назвай з'яўляецца Яцвеск каля Шчучына, што можа казаць пра раннюю славянскую асіміляцыю гэтага рэгіёна[67].

Населены пункт з назвай Дайнава ёсць недалёка ад Ліды. Гісторык Адам Кіркор у "Живописной России" пісаў (яго інфармацыя зараз мае, з большага, толькі этнаграфічную каштоўнасць), што Ліда была сталіцай ўдзельнага княства і з'яўляецца вельмі старажытным паселішчам на мяжы ўласна Літвы, ды славянскіх зямель і дайнаўцаў, і горад выконваў значную ролю ў гістарычных лёсах Літвы. Кіркор лічыў, што каля Ліды са старажытных часоў магло існаваць умацаванне, а князь Гедымін ужо потым пабудаваў тут замак, развалiны якога ацалелі да нашых дзён. *"Ліда ляжыць амаль на мяжы двух плямён, што насяляюць Лідскі павет, ... аддзеленых адно ад другога рэчкаю Дзітвою. Найстаражытнейшая сталіца дайнаўцаў: Дайнава - зараз невялікая вёска. Дайнаўскае княства існавала яшчэ на пачатку XIII стагоддзя ... У Дайнаве захаваўся вялікі камень, які народ называе "кабылкаю", бо, паводле падання, на ім каралі злачынцаў"* [68]. У кнізе "Черты из истории и жизни Литовского народа" Кіркор дапаўняе гэтую інфармацыю звесткамі пра Дайнаўскі замак: *"Горад Ліда пабудаваны на самым рубяжы старажытнай Літвы і плямёнаў славянскіх. Заснаваны ў другой палове XIII стагоддзя, калі ўдзельнае Дайнаўскае княства саступіла месца Лідзе, якая на пачатку, верагодна, была невялікім паселішчам літоўскім"*. А ў заўвагах да гэтага тэксту ён дае вельмі цікавую інфармацыю: *"Дайнава на захад ад Ліды за 10 вёрст* (вярста = 1,0668 км - *Л. Л.*)*, паблізу ракі Дзітва, зараз маёнтак. Тут існаваў замак, сляды якога бачныя і цяпер у розных паглыбленнях сажалак, у грабах* (дрэвах - *Л. Л.*)*, якія нідзе паблізу не растуць, у камені вялізарных памераў, на якім па паданні каралі смерцю злачынцаў. Камень гэты называецца і цяпер у простага люду "кабылай" і, мяркуючы па яго месцазнаходжанні, верагодна, ляжаў на плошчы супраць палаца. Княства Дайнаўскае межавала з цяперашнімі паветамі: Гарадзенскім, Наваградскім і Ашмянскім"* [69]. Інфармацыя пра Дайнаўскі замак са спасылкай на Кіркора таксама ёсць у даведніку "Городские поселения в Российской империи" за 1860 г.: *"Горад Ліда*

---

[64] Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Мінск, 2007. Т. I. С.540.

[65] Гл: Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XIII веках. Москва, 2014.

[66] Семянчук Генадзь. Рэцэнзія на "А. С. Кибинь, Ятвяги в X-XI вв.: "балтское племя" или "береговое братство"?, "Studia Slavica et Balcanica Petropolitana", 2008, № 2 (4), с. 117-132." // Bialoruskie zeszyty historyczne. 2010, № 33, s. 181-191.

[67] У дакументах XV ст. засталіся імёны 6 сялян гэтай вёскі: Mejszto, S'kodis, Korwelis, Zwikonis, Swirpli, Monejko. - Гл. Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII - XIV ст. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 127.

[68] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1: Литовское Полесье. Ч. 2. Белорусское Полесье. СПб., 1882. (факсімільнае перавыданне, Мінск, 1993). С.168-169.

[69] Киркор А. Развалины Лидского замка // Черты из истории и жизни Литовского народа. Вильно, 1854. С.11-12.

*належыць да найстаражытнейшых літоўскіх паселішчаў. Яго навакольная мясцовасць складала самастойны ўдзел князёў Дайнаўскіх, рэшткі палаца якіх захаваліся ў фальварку Дайнава каля Ліды"* [70]. Тая ж інфармацыя аб Дайнаве прыведзена і ў "Памятной книжке Виленской губернии на 1851 г." [71]. Інфармацыя пра Дайнаўскі замак (палац) не была падмацавана пісьмовымі крыніцамі, і таму ў тагачаснай сур'ёзнай навуковай працы "Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. 1893." археолаг Ф. Пакроўскі нічога не піша пра замак, а толькі пра былое паселішча і наўпрост указвае на крыніцу інфармацыі - народную памяць: *"Паблізу вёскі Дайнава, у цяпер высечаным лесе, ляжыць вялікі ўрослы ў зямлю камень. Месца гэтае сяляне называюць "кабылы", прычым кажуць, што па паданні ў часы Дайнаўскага княства на гэтым камені здзяйсняліся пакаранні злачынцаў. Паблізу ад каменя да гэтага часу захоўваюцца сляды паселішча, менавіта: ямы-басейны сажалак і пораслі грабу, якога нідзе больш у наваколлі няма"* [72].

Археолаг Э. Вальтэр пісаў: *"Дайнаўскае княства XII ст. знаходзілася ў межах цяперашняга Лідскага павета Віленскай губерні. Каля фальварка Дайнава (блізу р. Дзітва) прыкметны сляды замка і горада, які быў галоўным у Дайнаўскім княстве. Захаваўся вялікі камень, званы "кабылкай", на якім, па паданні, каралі смерцю злачынцаў"* [73].

Самы выбітны лідскі гісторык і краязнавец XX ст. Міхал Шымялевіч напісаў пра тое, як закончыўся лёс гэтага сакральнага для паганцаў каменя: *"Пры вёсцы Бельск за 6 вёрст ад Ліды на полі ляжаў велізарны камень, які звалі "Кабыла". Па паданні на гэтым камені каралі даўней злачынцаў. Магчыма, што тут у старажытнасці збіраліся копныя суды. Камень пабіты мулярамі на пачатку 1905 г."* [74].

Неабходна адзначыць, што Тэадор Нарбут таксама лакалізаваў Дайнаўскае княства ў Лідскім павеце *"за левым* (лідскім - *Л.Л.*) *берагам ракі Дзітва"* [75] і лічыць лідскі населены пункт Дайнава, які знаходзіцца паміж Мыто і Лідай цэнтрам княства, пра што піша ў сваёй "Гісторыі..." [76].

* * *

Вышэй я ўжо пісаў пра сакральныя камяні, але тут трэба зноў вярнуцца да тэмы. Святыя камяні былі, напэўна, самым распаўсюджаным аб'ектам пакланення ў насельніцтва Еўропы ва ўсе часы існавання дахрысціянскіх культаў. Пакаранне смерцю на камені павінна мець карані ў балцкай міфалогіі. Звычайна, камяні з назвамі "кабыла", "кравец", "шавец" - гэта грубыя валуны аморфнай формы з неапрацаванай паверхняй. Тое, што валуны размяшчаліся ў паніжа-ных, забалочаных мясцінах, паблізу вады, і запісаныя народныя паданні, пацвярджаюць, што гэты від культавых камянёў у міфалогіі звязваўся з тытанічным баством (баство, якое ўвасабляе дзікую прыродную моц зямлі, падземнае царства і да т.п.), якое магло ўвасабляцца ў вобразе вала, зрэдку каня ці змея. Гэта баство пасля прыняцця хрысціянства ў народнай свядомасці трансфармавалася ў чорта. Засталіся сляды людскога ўшанавання камянёў. Гэта знакі на іх, сляды ахвяраванняў каля іх, уключэнне камянёў у структуру больш складаных і буйных сакральных комплексаў. Звычайна такія сакральныя камяні існавалі парамі[77]. Вядома шмат народных паданняў аб "сямействах" сакральных камянёў. І нашая дайнаўская "кабыла" не была адзінокай. Да сённяшняга часу захаваўся напарнік "кабылы" (гл. вышэй) - камень даўжынёй 2,45 м, шырынёй 1,8 м і вышынёй над паверхняй зямлі 1,15 м. Зверху на паверхні гэтага валуна маецца 13 выразных лунак і некалькі меркаваных[78].

Нягледзячы на прыняцце хрысціянства, вера ў цудоўную моц камянёў захавалася да нашых дзён. І таму, спадзеючыся, на краязнаўчую ўдачу, я пачаў шукаць сведкаў, якія захавалі паданні аб дайнаўскім камені. Такім сведкам стала Паўлюкевіч Ядвіга Іосіфаўна (1940 г. н., былая жыхарка вёскі Заполле, 2 км. ад былога маёнтка Дайнава, дзе ляжаў камень "кабыла"). Яна расказала, што яе бацька, Іосіф Казіміравіч (1910 г.н.), раззлаваўшыся ўжываў прымаўку: *"Адсяку галаву, як курыцы на Дайнаўскім камені"*. Ён жа, выкарыстоўваючы розныя гаспадарчыя драўляныя прылады з сасны ці ёлкі, часта казаў, што *"вось у нас растуць грабы, якіх больш нідзе няма, вось гэта дрэва! Мацней за дуб!"*. Ядвіга Іосіфаўна памятае, што, калі ёй было некалькі гадкоў, яе маці, Міхаліна (1912 г.н.) расказвала казку, у якой людзі танцавалі на вялікім Дайнаўскім камені, але, нажаль, сюжэт гэтай казкі дзіцячая памяць не захавала. Яна распавяла, што стары панскі дом знаходзіўся паміж вёскамі Дайнава і Бельскія, на выгане, а рэшткі сажалак захаваліся да нашага часу.

Такім чынам у мясцовых людзей захавалася

---

[70] Городские поселения в Российской империи. С. Петербург, 1860 г. Т.1., С.162-165.

[71] Примечательнейшие древности в Виленской губернии. Памятная книжка Виленской губернии на 1851 г. ч. II, С. 104.

[72] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. С.94-95.

[73] Вольтер Э. А. Дейнова // Энциклопедический словарь Брокгауза. СПб. Т. Х. 1893. С. 94-95.

[74] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. Виленский календарь. Вильнюю 1906. С. 37-57.

[75] Teodor Narbutt. Dzieje Narodu Litewskiego w krotkosci zebrine. Wilno, 1847. S. 34.

[76] Teodor Narbutt. Dzieje Narodu Litewskiego. Wilno, 1838. T. 4. S. 285.

[77] Зайкоўскі Э.М. Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі. Мінск, 1998. С. 17-20.

[78] Винокуров В.Ф., Дучиц Л.В., Зайковский Э.М., Карабанов А.К. Культовые валуны с рукотворными углублениями. [Электронный ресурс] - Рэжым доступу: http://www.kirjazh.spb.ru/history/vinokur.htm - Дата доступу: 18. 07. 2009.

памяць пра камень, і нават ў XXI стагоддзі навакольны люд памятае пра сакральны характар каменя, бо відочна, што пагроза адсекчы галаву, *"як курыцы на Дайнаўскім камені"* - гэта рэха памяці пра месца пакарання, а танцы на камені - рэха нейкіх паганскіх рытуалаў звязаных з урадлівасцю, шлюбам ці гаючымі ўласцівасцямі каменя, бо з цягам часу паганскія міфы перарадзіліся ў народныя казкі.

* * *

Напрыканцы траўня 2010 г. мы выехалі на тое месца дзе знаходзіўся легендарны Дайнаўскі палац. Паўлюкевіч Ядвіга Іосіфаўна паказала падвышанае месца дзе стаяў панскі дом Сангіноў, уся сям'я якіх з'ехала з Дайнавы яшчэ прыкладна ў 1938 г. У першай палове XIX ст. панскі двор, дзе ляжаў камень "Кабыла" належаў гаспадарам Брадоўскім (Brodowski, гербу Лада)[79]. На расейскай тапаграфічнай мапе сярэдзіны XIX гэты фальварак названы Мазораўшчызнай (на польскай мапе 1929 г. - Мазураўшчызна).

Пасля Другой Сусветнай вайны ў панскім доме паслядоўна месціліся школа, сельсавет, медыцынскі пункт, і дзесьці да канца 60-х гадоў XX ст. панскі дом быў разбураны. Зараз на месцы панскага дома стаіць дом фермера, а на месцы фальварка - вялікая фермерская гаспадарка з жылым домам і гаспадарчымі пабудовамі. З паўночна-заходняга боку ад былога панскага дома захаваліся сажалкі з усё яшчэ бачнымі землянымі валамі. А грабаў, канешне, ужо даўно няма. Тым не менш праз 150 гадоў пасля таго, як гэта месца апісаў Адам Кіркор, усё яшчэ бачны дэталі штучнага рэльефу.

Сучасны гаспадар гэтай зямлі - фермер - і не здагадваецца, што ягоная гаспадарка стаіць на месцы, пра якое пісаў Адам Кіркор, і калі Дайнаўскі замак - не больш, чым легенда, гэтае месца Лідчыны вартае таго, каб трапіць у турыстычныя даведнікі. За апошнія час фермерская гаспадарка цалкам заняла месца легендарнага Дайнаўскага замка.

**Селішчы і гарадзішчы гістарычнай Лідчыны**

Гістарычная Лідчына мае шмат археалагічных помнікаў, і з іх, можа, самыя цікавыя для нас - гэта месцы, дзе жылі нашы продкі - селішчы і гарадзішчы.

Размяшчэнне селішчаў на мясцовасці паказвае шляхі гаспадарчага асваення зямель. Галоўнымі шляхамі зносін у сярэднявеччы былі рэкі, і ў асноўным менавіта па рэках рассяляліся людзі па Усходняй Еўропе. Акрамя таго, рачныя даліны мелі ўрадлівую глебу і заліўныя лугі, у рэках заўжды было шмат рыбы, што спрыяла развіццю гаспадаркі і, канешне ж, галоўную ролю ў гісторыі Лідчыны адыграў Нёман. Самы распаўсюджаны тып селішчаў - прырэчны. Помнікі гэтага тыпу выцягнуты нешырокай паласой уздоўж берага ракі ці ручая. Іх працягласць звычайна не перавышае 500 м, але ёсць помнікі даўжынёй да 1,5 км (напрыклад селішча каля в. Дакудава на Нёмане). Сустракаюцца таксама мысавыя селішчы, селішчы гэтага тыпу размяшчаюцца ў месцах упадзення дробных рэчак ці ручаёў у рэкі - на мысах.

Вось найбольш цікавыя селішчы з даследаваных археолагамі на Лідчыне[80]:

- Помнік найстаражытнейшых часоў ніжэй вёскі Пескаўцы, на правым беразе Нёмана. Селішча знойдзена ў 1951 г. Культурны пласт ад 20 да 60 см прасочваецца на працягу 450 м.

- Селішча сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. каля Белагруды. Знаходзіцца на левым беразе ракі Дзітва на поўнач ад вёскі. Тут знойдзена розная кераміка, культурны пласт разараны.Таксама на поўнач ад вёскі, за могілкамі, на беразе ракі, на месцы былога замка ў змешаным пласце знойдзена кераміка - рэшткі дрэнна выробленых пасудзін.

- Помнік сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. у в. Гарнеты. Селішча знаходзіцца ў цэнтры вёскі, 500 м на ўсход ад р. Дзітва. Тут знойдзена ляпная і кружальная кераміка са слядамі нагару.

- Помнікі сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. ля в. Збляны. Тут на правым беразе Нёмана месцяцца два селішчы. Адно з іх знаходзіцца у ваколіцы вёскі на ўзвышаным беразе ракі, на працягу 100 - 120 м прасочваецца культурны пласт да 60 см таўшчынёй, які складаецца з цёмнай зямлі з украпваннямі вуглёў. Знойдзены фрагменты кружальнай керамікі. За 500 - 600 м ніжэй па Нёмане месціцца другое селішча, дзе знойдзены фрагмент ляпной пасудзіны.

- Помнік сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. ля в. Ясілевічы. За 200 м на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Лебяда, прыкладна за 1 км ад месца яе зліцця з Нёманам, каля вясковых могілак знаходзіцца селішча плошчай 50х20 м. Цёмны культурны пласт з прымешкам вуглёў дасягае таўшчыні 40 см. Тут былі знойдзеныя абпаленыя камяні і аскепкі кружальнай керамікі.

- Помнік XI-XIV ст. ля в. Гарадзішча. Селішча на беразе рэчкі, якая ўпадае ў раку Лебяда. Па абодвух берагах на працягу 200 м прасочваецца культурны пласт чорнага колеру таўшчынёй да 40 см. Знойдзеныя кружальная кераміка і выраб з бронзы.

- Помнік XI-XIV ст. ля в. Перакоп (Шчучынскі р-н). Селішча знаходзіцца недалёка ад вёскі, мае культурны пласт таўшчынёй 30-40 см.

- Два селішчы XI-XIV ст. ля в. Дакудава. Першае - каля вёскі, цягнецца уздоўж Нёмана на 1,5 км паласой да 200 м. Культурны пласт ад 10 да 50 см. На паверхні культурнага пласта аскепкі кружальнай керамікі, тут знойдзены каваны цвік. Другое селішча ад першага ніжэй па рацэ на 1 км. Тут акрамя фрагментаў керамікі знойдзены абломак глінянага рыбалоўнага грузіла і крамянёвы нож.

- Селішча XI-XIV ст., 500 м ад вёскі Панямонцы, знойдзена кружальная і фрагменты паліванай керамікі.

[79] Malewski Czesslaw. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiet Lidzki. Wilno, 2005. S. 89.
[80] Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понемонья. Москва-Ленинград. 1962. С. 150-201.

Старажытным паселішчам, вядомым па пісьмовых крыніцах, адпавядаюць адкрытыя неўмацаваныя селішчы плошчай ад некалькіх сот квадратных метраў да некалькіх гектараў і невялікія, добра ўмацаваныя гарадзішчы. На Беларусі гарадзішчы вядомы з позняга бронзавага веку, і часта гарадзішчы адной эпохі выкарыстоўваліся насельніцтвам больш позняга часу. Гарадзішча - рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча або горада. На тэрыторыі Беларусі захавалася больш за тысячу гарадзішчаў, ёсць яны і на Лідчыне. Археолагі на тэрыторыі Беларускага Панямоння знайшлі каля 20 гарадзішчаў X-XIII ст. Звычайна гарадзішчы маюць культурны пласт, у якім пры раскопках знаходзяць рэшткі жытла, майстэрань, розныя рэчы і іншае. Выключэнне складаюць балотныя гарадзішчы-сховішчы, дзе насельніцтва хавалася ў час ваеннай небяспекі[81].

У XI ст. ва Усходняй Еўропе інтэнсіўна праходзіў працэс фармавання сярэднявечных адміністрацыйна-палітычных адзінак "земляў" ці "княстваў", паміж імі ішла барацьба за палітычныя прыярытэты і эканамічныя сферы ўплываў, за гандлёвыя шляхі і новыя тэрыторыі, што адлюстравана на старонках летапісаў. У памежных раёнах гарадзішчы з'яўляліся вартавымі памежнымі цвердзямі. Тут жылі "лепшыя мужы" з дружыннікамі, якія знаходзіліся ў леннай залежнасці ад князя. Прадстаўнікі вайсковага стану, якія пражывалі тут, займаліся гаспадаркай, і гэта было крыніцай іх існавання. На тэрыторыі гістарычнай Лідчыны такім ўмацаванымі паселішчамі-цвердзямі Гарадзенскага княства былі гарадзішчы каля вёскі Кульбачына і Касцянева (Шчучынскі р-н). Археолагі С. Піваварчык і Г. Семянчук пішуць пра гэтыя гарадзішчы: *"Іх умацаваная плошча складае каля 1 га. Абарончыя збудаванні маюць вялікую магутнасць - вышыня валоў 4-5 м. Побач з гарадзішчамі знойдзены сляды селішчаў. Раскопкамі выяўлены культурны пласт магутнасцю да 1,2 м. Аналіз рэчавага матэрыялу паказаў, што помнікі ўзніклі ў канцы X - пачатку XI ст. Пляцоўкі гарадзішчаў былі забудаваны наземнымі зрубнымі дамамі (Кульбачына) і паўзямлянкамі (Касцянева). Знаходкі на гарадзішчы Кульбачына наканечнікаў стрэл (34 экз.), дзідаў (2 экз.) бляхі ад тарчы дазваляюць сцвярджаць, што гэты помнік узнік як памежная вартавая цвердзь. Знаходкі жорнаў, праслiц, рыбалоўных кручкоў, касцяных праколак, касцей свойскай жывёлы сведчаць аб тым, што насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай і промысламі. У верхніх пластах гарадзішча знойдзены пацеркі (шкляныя і з бурштыну), шкляныя бранзалеты, шпора з рапейкай. Гэта дае падставы гаварыць аб тым, што паселішча з другой паловы XII ст. пачынае змяняць сацыяльную функцыю і набываць рысы феадальнай сядзібы, што з'яўлялася вынікам феадалізацыі грамадства. На гарадзішчы Касцянева таксама знойдзены наканечнікі стрэлаў, жалезныя вырабы (нажы, рэшткі замка, шыла), косці свойскай жывёлы. У XIII ст. абодва гарадзішчы загінулі ў агні. Знішчэнне іх хутчэй за ўсё звязана з падзеямі 1252 г., калі валынскія князі "плениша всю землю Новогородьскую"* [82]. Таму ў гарадзішчах Кульбачына, Касцянева фіксуюцца пласты пажару з моцна абгарэлай керамікай, спаленымі ўмацаваннямі і пабудовамі.

Гарадзішча каля вёскі Кульбачына (3 км ад мястэчка Астрына) размешчана на беразе ракі Астрынкі і належыць да тыпу гарадзішчаў, умацаванні якіх не залежаць ад рэльефу мясцовасці. Аналіз археалагічнага матэрыялу паказвае, што паселішча ўзнікла ў канцы X ст. у ходзе каланізацыі Панямоння славянскім насельніцтвам. З самага пачатку гэта была цвердзь - апорны пункт асваення правабярэжжа Нёмана, у глыбіні балцкіх зямель, потым, з XII ст. пасяленне стала памежнай цвердзю Гарадзенскага княства і феадальнай сядзібай-замкам. Той факт, што гарадзішча знаходзіцца на беразе Астрынкі, даў магчымасць археолагу В. Сядову лічыць гэты помнік летапісным горадам Астрэя[83]. Аднак экспедыцыя археолагаў Эрмітажа знайшла гэтае летапіснае пасяленне на беразе возера Астрэя ў Пскоўскай вобласці, і ад лакалізацыі летапіснай Астрэі на Лідчыне трэба адмовіцца. Так сама В. Сядоў атаясамліваў летапісны Вевярэск з гарадзішчам каля вёскі Касцянева і лічыў, што назва старажытнага горада паходзіць ад гідроніма - ракі Вавёркі (левы прыток ракі Лебяды). Сядоў лічыў, што горад загінуў у выніку нашэсця ў XIII ст. а частка ўратаваўшыхся жыхароў заснавала сучасную Ваверку за 18 км ад гарадзішча ля Касцянева. Аднак наступныя археалагічныя пошукі на месцы гэтага гарадзішча выявілі знаходкі XV-XVII стст., г. з. больш позняга часу. Таму археолагі перасталі звязваць летапісны Вевярэск з гарадзішчам каля вёскі Касцянева[84].

Дадам, што гісторык Аляксей Кібінь не лічыць што Кульбачына з'явілася ў выніку экспансіі славян, па яго меркаванні насельнікамі Кульбачына былі летапісныя яцвягі[85].

Усім крытэрыям сярэднявечнага горада ў Панямонні адпавядае Турыйск (Турэйск). Сваю назву горад атрымаў ад невялічкай рачулкі Тур'я, якая працякае побач і ўпадае ў Нёман. Зараз дакладна вядома месцазнаходжанне гэтага летапіснага горада, гарадзішча якога знаходзіцца на трох узвышшах на ўсходняй ускраіне сучаснай вёскі Турыйск (Шчучынскі р-н), на правым беразе ракі Нёман. Зараз гэта адно з самых маляўнічых месцаў Панямоння.

З летапісаў вядома, што у 1252-1253 гг. князь Даніла Галіцкі прыходзіць з вайной на панёманскія гарады, якія былі пад уладай Міндоўга[86], і гэтак разам з Наваградкам, Ваўкавыскам і Слонімам на старонкі

[81] Піваварчык С., Семянчук Г. Археалогія Беларусі. 1996. Ч.2. С.35-41

[82] Піваварчык С., Семянчук Г. Археалогія Беларусі. 1996. Ч.2. С.45.

[83] Седов В. В. К истории поселений Черной Руси, КСИА, вып. 139, 1974, С. 27-31.

[84] Піваварчык С. Беларускае Панямонне у раннім сярэднявеччы (X-XIII ст. ст.). С. 7-18.

[85] Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XШ веках. С. 60.

[86] Ипатьевская летопись, ПСРЛ, т. II, Москва 1962, С. 819, 828.

пісьмовых крыніц трапляе і Турыйск. Вынікам паходу 1253 г. стаў мірны дагавор 1254 г., па якому Панямонне передавалася сыну Данілы - князю Раману. На пачатку 50-х гг. XIII ст. сын Міндоўга, верагодна Войшалк, *"воева около Тоурьска"*. Падчас сутыкнення ў 1276 г. Льва Данілавіча і Уладзіміра Васількавіча з Трайдзенем і Серпуціем *"Володимер же противу тому, послав взяв у него Тоуриск на реце Немне, и сёла около нега поима"* [87].

Археолагі сведчаць, што старажытны Турэйск узнік пры канцы XI ст. і быў горадам - адміністрацыйным цэнтрам сельскай акругі. Археолаг Сяргей Піваварчык піша: *"Спачатку гэта было неўмацаванае славянскае паселішча. Пасля пажару, які знішчыў першапачатковае паселішча, узвышша, на якім яно знаходзілася з напольнага боку, было ўмацавана валам. Адначасова пачалі засяляцца навакольныя мясцовасці, утвараючы такім чынам пасады. Паселішча ператварылася ў цвердзь, з якой затым і вырас невялікі гарадок. Тое, што гэта сапраўды летапісны Турьск, дазваляе сцвярджаць комплекс тых прызнакаў, якія і выдзяляюць горад: планіроўка (дзядзінец і пасад), тэрыторыя засялення каля 1,5 га, магутнасць культурнага пласта да 1,5 м, рэшткі раменай вытворчасці (у першую чаргу металургіі і апрацоўкі жалеза), знаходкі ў культурным пласце - фрагменты амфар, шкляныя бранзалеты, высокамастацкія касцяныя вырабы, кніжная зашпілька"* [88].

Археолагі адзначаюць блізкасць матэрыяльных культур Гародні і Турыйска[89]. Верагодна, гарадзенскія князі зрабілі Турыйск цэнтрам збору падаткаў з мясцовай сельскай акругі. У Іпацьеўскім летапісе ў 1276 г. названы сёлы каля Турыйска на Нёмане. Адначасова ён быў цвердзю на мяжы Гарадзенскага і Навагрудскага княстваў. Горад загінуў ў агні ў другой палове XIII ст.[90]

Цікавыя гарадзішчы даследаваны археолагамі каля вёсак Ольжава і Мыто.

Гарадзішча за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Мыто на правам беразе р. Дзітва датуецца сярэдзінай - другой паловай I тысячагоддзя н. э. Гарадзішча невялікіх памераў, пляцоўка авальнай формы 30 х 20 м, месціцца на ўзгорку і ўзвышаецца над далінай ракі Дзітва на 20 м. Археолагі мяркуюць, што у тут было гарадзішча - сховішча, куды падчас небяспекі хаваліся жыхары з блізкага селішча. У розных частках пляцоўкі вызначаны культурны пласт цёмнага колеру да 50 см таўшчынёй. Валоў і равоў гарадзішча не мела і, верагодна, агароджвалася драўлянай сцяной. За гарадзішчам, на раллі вызначана пляцоўка 200х150 м на якой знойдзена ляпная кераміка. Прыкладна з XVIII ст. на вяршыні ўзгорка знаходзіўся фальварак Мыто. З-за гаспадарчай дзейнасці ў 1980-х гадах значная частка гарадзішча разбурана.

Гарадзішча і селішча сярэдзіны - другой паловы I тысячагоддзя н. э. ля в. Ольжава знаходзіцца за 1 км на поўдзень ад вёскі на беразе ракі Дзітва і мае назву "Шведская гара", подступы да яго абцяжараныя з-за балот. Уяўляе сабой ізаляванае ўзвышша 8-10 м з пляцоўкай 40 х 20 м (у кірунку з усходу на захад), гарадзішча густа парасло лесам. Культурны пласт таўшчынёй 40 см прасочваецца толькі ў цэнтры. Тут знойдзены толькі адзін ляпны чарапок ад пасудзіны і кавалачкі вуглю.

Усе гарадзішчы і селішчы Лідчыны маюць вялікую каштоўнасць для археалогіі і з'яўляюцца цікавымі аб'ектамі для турыстаў.

**Борці**

Валынскі летапіс 1276 г. піша пра прыход прусаў у Літву: *"Придоша Проуси ко Тройденеви из своеи земли неволею перед Немцы"* [91]. З'яўленне прусаў занепакоіла галіцкіх князёў Уладзіміра Васількавіча і Льва Данілавічаі, таму яны вырашылі выгнаць прусаў з зямлі, якую лічылі сваёй вотчынай. Аднак гэтую зямлю сваёй лічылі і князі ВКЛ. Таму адбыліся сутычкі паміж войскамі Галіцкага і Літоўскага княства, апошнімі кіраваў брат Трайдзена Сірпуць. Галіцкае войска ўзяла Слонім, адбылася бітва *"около Камене"* [92]. Падчас новага паходу Уладзімір *"взя ... Тоурийск на реце Немне и села около него поима"* [93]. Вядома, што каля Турыйска потым склалася войтаўства Барцянскага староства. Таму напад войск галіцкага княства - гэта напад на борцяў з мэтай выгнаць іх з гэтай тэрыторыі.

Такім чынам, часткай насельніцтва поўначы і прынёмання Лідчыны сталіся заходнія балты - борці і скаловы. Борці - выхадцы з прускай зямлі Барты (ці Бартніі, Бартовіі). Гэта зямля ўпершыню згадваецца ў кнігах дацкага караля Вальдэмара II, напісаных у 1249 - 1269 гг. Геаграфічна Барта з'яўлялася самай цэнтральнай зямлёй Прусіі. У 1238-1240 гг. яна, разам з Варміяй і Натангіяй перайшла пад кантроль Тэўтонскага Ордэна. Пасля шэрагу паўстанняў (1240-1249 гг., 1260-1274 гг.) у 1273 г. жыхары Барты былі канчаткова падпарадкаваны крыжакам. З гэтага часу пачалася міграцыя борцяў на землі ВКЛ, пра што сведчаць тапонімы, якія паходзяць ад слова *Борці* на тэрыторыі Лідчыны, Ашмяншчыны і іншых гістарычных земляў Беларусі.

Першыя звесткі пра Бортскую воласць ці Бортскі павет на ракой Пелясой з'яўляюцца ў 1494 і 1503 гг., у 1493 г. узгадваецца *"бортскі намеснік"*. Пазней-

[87] Ипатьевская летопись, ПСРЛ, т. II, С. 874..
[88] Піваварчык С. Беларускае Панямонне у раннім сярэднявеччы (X-XIII ст. ст.). С. 15.
[89] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в XI-XIII вв., Мінск, 1989. С. 75.
[90] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в XI-XIII вв. С. 89.
[91] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII - XIV ст. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 121-122.
[92] Там жа. С. 121-122.
[93] ПСРЛ. Т. II. Ипатьевская летопись. 1908. С. 596.

шае староства складалася з войтаўстваў: Пляскага, Скольвенскага, Гарадзенскага і Панёманскага[94].

Пра борцаў Тэадор Нарбут падае наступнае: *"Былі гэта выхадцы з пруской правінцыі Бартніі. Іхнія нашчадкі дагэтуль ёсць у Лідскім павеце. Староства, размешчанае на правым беразе Пелясы, налічвала некалі 300 дымоў і называлася Борці, проста ад назвы сваіх першых пасяленцаў, паходзіўшых якраз з Бартніі, паколькі няма ні адной вёскі, а ні фальварка, якія б насілі такую назву. Яны даўней мелі такі прывілей, што ніякай працоўнай павіннасці ніколі не адбывалі і акрамя платы чыншу зусім малога не мелі іншай павіннасці. У часы Жыгімонта служылі ў літоўскай артылерыі, ад таго літоўскія артылерысты называліся борці"* [95].

У ВКЛ борці плацілі толькі чынш і дзякла, а ад паншчыны і іншых феадальных павіннасцяў былі вызвалены. Устаў на валокі караля Жыгімонта Аўгуста ад 1557 г. вызначыў: *"а коли им на войну ити кажем, мают мети тот рок вольный ото всих платов, а мосты им неповинные мостити мают ..."* [96]. Павіннасцю борцаў з'яўлялася будаўніцтва мастоў і грэбляў і служба ў артылерыі, праз нейкі час слова *"борць"* стала абазначаць менавіта будаўніка мастоў ці артылерыста. Таму борці адмыслова былі паселены, у тым ліку і каля Турэйска - важнай пераправы цераз Нёман[97].

Пасля борцаў вымушана пакінулі родную зямлю і іншыя жыхары Прусіі. Аднымі з такіх мігрантаў былі скаловы, яны насялялі самую паўночную вобласць Прусіі ў нізоўях Нёмана - Скаловію. Упершыню Скаловія згадваецца ў 1231-1240 гг. П. Дусбург, пералічаючы ў 1326 г. прускія землі, таксама згадвае Скаловію. Тады ж на нашу тэрыторыю пачалася эміграцыя ўласна прускага насельніцтва, якое вядома пад этнонімама "прусы", але, здаецца, на землях гістарычнай Лідчыны яны не сяліліся.

У "Паведамлленне аб літоўскіх шляхах" пры апісанні дарогі з Пералому на Эйшышкі (№90) паміж Забалаццю і Радунню згадваецца Скалева і тлумачыцца, што тут жывуць скаловы - людзі з пруской зямлі Скаловіі, узятыя ў палон пры Рагніцы: *"Ад Забалаці да Скалева дзве мілі, там жывуць тыя, якіх паланілі каля Рагніта, ад аднаго сяла да іншага ёсць добрая дарога, але ёсць там і рака, якая завецца Пелясой, яна нешырокая, яны сцвярджаюць, што цераз яе маецца мост, ад Скалева дзве малыя мілі да Радуні, паміж імі добрая зямля, відочна занятая"* [98].

У прывілеі Ягайлы ад 1387 г., у якім вызначаны ўладанні Скіргайлы: *"... а около Троков тая места на Ваку, по старый рубеж а по Вельи оуниз так ж по старый рубеж, а толко опроч Жеймов и Кулвы. А на су сторону по Сколву город Радыня и оуся тая волость со всякою службою, оуси лю(ди) и оусякий доход"*.

Адсюль бачна, што Скалева-Сколва была агульнай назвай пруской калоніі - групы вёсак пад Радунню, узнікненне гэтай калоніі, верагодна, звязана з паходам Кейстута і Альгерда ў Скаловію ў 1365 г.[99]

З пачатку XVII ст. і да сярэдзіны XIX ст. паселішчы з барцянскім і скаловенскім насельніцтвам ўтварылі самастойную гаспадарча-адміністрацыйную адзінку - Барцянскае староства якое мела два цэнтры: у ваколіцах мястэчка Жалудок і ў ваколіцах мястэчка Радунь, гэтыя два цэнтры складалі адну воласць Борці ці Барцянскае староства[100].

**Лейці**

Літоўскімі гісторыкамі было выказана меркаванне аб тым, што, тэрмін ***Літва*** магчыма першапачаткова меў сацыяльны, а не тэрытарыяльным сэнс. Найбольш цікавай з'яўляецца праца гісторыка А. Дубоніса, які лічыць, што карані Літвы трэба шукаць *"не ў вадзе, а ў людзях"*. Ён даследаваў лейцяў (leiciai) - адну з груп служылага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI ст., асобныя паселішчы і цэлыя войтаўствы якіх былі раскіданыя па тэрыторыі, абмежаванай рэкамі Святой (Швянтойяй), Віліяй, Нёманам, Ашмянскім, Маркоўскі і Браслаўскім паветамі, а таксама некатырымі месцамі Жамойці і Нёманска-Прыпяцкага водападзелу. Паколькі па месцазнаходжанні паселішчы лейцяў ў значнай ступені паўтараюць контуры тэрыторыі, падкантрольнай літоўскаму князю ў XIII ст., А. Дубоніс не выключыў таго, што яны могуць быць рэшткамі ваенізаванай сацыяльнай групы, якая займалася вайной, земляробствам, аховай межаў і іншай дзейнасцю на службе вярхоўнаму літоўскаму князю. Згодна з гіпотэзай літоўскага даследчыка, менавіта да гэтага сацыяльнаага тэрміну ўзыходзіць і тэрмін *Lietuva*[101].

Лейці жылі ў асобных вёсках ды селішчах, якія называліся іх імем.

На гістарычнай Лідчыне лейці жылі ў наступных валасцях Троцкага ваяводства: Каняўска-Дубіцкай, Радунскай, Эйшышскай і Жалудоцкай[102], каля Мажэйкава[103].

Пра лейцяў Радунскага велікакняскага маёнтка вядома, што іх працай было кармленне баявых коней - яны мусілі гадаваць гэтых коней на свае сродкі і

[94] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII - XIV ст. в свете этнонимических местных названий. С. 124.

[95] Narbutt T. Dzieje Narodu Litewskiego. T. IV. 1838. S. 271.

[96] РИБ. XXX. Юрьев, 1914. С. 543-544.

[97] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII - XIV ст. в свете этнонимических местных названий. С. 124 - 125.

[98] Scirptores Rerum Prussicarum. T. II, Leipzig, 1863. P. 703.

[99] Внуковіч Ю. І. Літоўцы Беларусі. этналагічнае даследаванне. Мінск, 2010. С. 42-46.

[100] Гл: Szymielewicz Michal. Borcie i wlosc Borcianska // Ziemia Lidzka. 1939. № 4-5. S. 109-117.; № 6. S. 161-168.

[101] Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XШ веках. С. 134-135.

[102] Дубоніс А. Лейці вялікага князя літоўскага: з гісторыі ранніх дзяржаўных структур літоўскага грамадства. Смаленск: Інбелкульт, 2015. С. 24.

[103] Там жа. С. 29.

рыхтаваць іх для ваенных патрэб[104].

У Эйшышскай воласці лейць Пацус Сядзевіч судзіўся з тамтэйшым баярынам Барташам Мяжэвічам. Спрэчку разглядалі давераныя асобы гаспадара: Ян Радзівіл і Якуб Кунцэвіч. У судзе лейць прыгадаў свае асноўныя прыкметы, ён: 1) чалавек гаспадара, гаспадарскага двара альбо маёнтка, вечны лейць; 2) мае сваю вотчынную зямлю; 3) служыць гаспадару так, як усе яго браты здаўна служылі. Гэтак лейць разумеў сваю лейцеўскую службу і свае абавязкі перад гаспадаром[105].

У сучасным Воранаўскім раёне ля вёскі Пузелі знаходзіцца могільнік лейцяў, археалагічныя артэфакты з якога датуюцца канцом XII - пачаткам XVI ст. Па звестках даследчыцы гэтага магільніка Алы Кватькоўскай, у ім пахаваныя неспаленыя целы. Заўважана адметнасць магільніка: сценкі сямі з пятнаццаці даследаваных пахаванняў высланыя (умацаваныя) камянямі[106]. Могільнік у Пузелях (знаходзіўся недалёка ад маёнтка Нача) вывучаў яшчэ Вандалін Шукевіч[107].

**Першапачатковая Ліда**

На правым беразе Нёмана працэс славянізацыі не быў такім актыўным, як на наваградскім баку. Тым не менш, маецца цэлы шэраг прыкмет балта-славянскіх кантактаў і на гэтай тэрыторыі. Прафесар С. А. Піваварчык мяркуе, што ў басейнах Котры і Лебяды, а таксама паміж Гаўяй і Дзітвой славянізацыя пачалася ўжо ў X-XI стст. і не скончылася ў XII-XIII стст.

Адной з верагодных прычын перасялення на поўнач можна лічыць хрысціянізацыю ўсходніх славян, якая была праведзена якраз у канцы X ст. Карэнная змена светапогляду чалавека познеродавага грамадства магла прывесці да адтоку часткі незадаволенага насельніцтва ў разведаную ўжо панямонскую вобласць. На карысць гэтага меркавання сведчыць зафіксаванае археолагамі ў Наваградку і іншых гарадах Панямоння даволі позняе (2-я палова - канец XI ст.) з'яўленне прадметаў хрысціянскага культу[108]. З гэтага можна зрабіць выснову, што засяленне славянамі "нашага", правага берага Нёмана не прыводзіла аўтаматычна да з'яўлення культавых пабудоў, і першыя цэрквы, верагодна, з'явіліся не раней XIV ст.

Славянская каланізацыя Панямоння ў канцы X ст. значна змяніла этнічную сітуацыю ў рэгіёне. Лічыцца, што ў гэты час балта-славянская мяжа праходзіла прыблізна па лініі: возера Асвейскае - Дзісна - Пліса - Будслаў - Заслаўе - Рубяжэвічы - Дзераўная - Беліца - Слонім - Ваўкавыск[109]. Тады ж славянскае племя крывічоў перайшло Нёман і пасялілася на правым беразе ракі ў раёне Збляны - Беліца. Як памяць пра гэта, да нашага часу засталася назва вёскі Крывічы. Беліцкія Крывічы не былі адзінай славянскай вёскай, бо як сама Беліца, так і навакольныя вёскі Краснае, Парэчча, Беляўцы носяць чыста славянскія назвы[110].

Несумненна, што назва вёскі Гуды (знаходзіцца на поўнач ад Ліды) засталася як напамінак пра часы славянскай каланізацыі - верагодна гэтая вёска была самым паўночным пунктам, куды ў той час перасяліліся славяне. Як вядома "гудамі" і сёння нас называць летувісы[111].

Тэадор Нарбут піша пра княства Дайноўскае і пра заснаванне Ліды ў 1180 г. У Стрыйкоўскага Ліда ўзгадваецца толькі каля 1330 г. Беларускія археолагі вельмі дбайна і сістэмна шукалі старую Ліду, але не знайшлі слядоў Ліды Нарбута. І толькі зусім нядаўна стала зразумела, чаму гэтак здарылася.

Справа ў тым, што старая Ліда знаходзілася далей ад замка, чым меркавалася даследчыкамі, яна месцілася на рацэ Каменка і ўжо была знойдзена ў 1933 г. На наша шчасце, даследаванне старой Ліды праводзілася археолагам вельмі высока класу др-м Хеленай Цэгак-Галубовіч[112]. У Лідзе Хелена Цэгак была разам са сваім мужам, вядомым археолагам Уладзімірам Галубовічам, які потым напісаў газетны артыкул пра знаходку паселішча.

Такім чынам пры канцы 1933 г. у Лідзе на Выгане падчас земляных работ на зямлі, якая належала настаўніку М. Міхальчыку, была знойдзена вялікая колькасць чарапкоў ад гаршкоў, раскіданых на значнай тэрыторыі. Таўшчыня чарапкоў была характэрнай для вырабаў з керамікі старадаўніх часоў. Інжынер, які кіраваў работамі пераслаў чарапкі ва Управу па рэстаўрацыі ў Вільню і прыпыніў работы. Чарапкі таксама былі знойдзены ў іншай частцы Выгана. Абодва месцы знаходзіліся па краях гэтага ўчастка. Была высунута ідэя, што тут былі старадаўнія могілкі альбо нават гарадзішча ці паселішча. Хутка лідскі стараста Багаткоўскі (зяць Міхала Шымялевіча, і таму, думаю, што славуты лідскі гісторык меў дачыненне да гэтай справы) выклікаў у Ліду асістэнтку кафедры археалогіі Віленскага ўніверсітэта др. Хелену Цэгак[113] (хутка яна стане вельмі вядомым і аўтарытэтным навукоўцам).

[104] Дубоніс А. Лейці вялікага князя літоўскага: з гісторыі ранніх дзяржаўных структур літоўскага грамадства. Смаленск: Інбелкульт, 2015. С. 26.

[105] Там жа. С. 26-27.

[106] Там жа. С. 49.

[107] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда. С. 99.

[108] Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 5.

[109] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. Мінск, 1989. С. 15.

[110] Ахманьскі Ежы. Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннай эпохі да XVI ст. // Arche. 2016. № 2(147). С. 40.

[111] Гл: Алег Дзярновіч. "Гуды" як гістарычны назоў беларусаў па-літоўску: "готы" ці "варвары"? // Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі. Варшава: Uczelnia Lazarskiego, 2013. С. 53-65.

[112] Kurjer Wilenski № 273(2814), 11 pazdziernika 1933.

[113] Kurjer Wilenski № 273(2814), 11 pazdziernika 1933.

З прыездам археолага плошча раскопак была пашырана, і знойдзены новыя керамічныя чарапкі. Д-р Цэгак выказала здагадку, што з XI па XIII ст. тут магло існаваць славянскае паселішча, сляды якога потым былі амаль што цалкам знішчаны. Чарапкі мелі *"славянскі стужкавы арнамент, які адносілі да племянных груп, што ішлі з усходу. ... На археалагічнай карце ... з'явіцца новы знак, які будзе абазначаць, сляды побыту славян на лідскім Выгане"* [114].

Нажаль, даследчыкі, не пакінулі навуковага артыкула пра старую Ліду, застаўся толькі артыкул напісаны самім Уладзімірам Галубовічам у газеце "Кур'ер Віленскі".

Такім чынам можна дапусціць, што:

1. Ліду заснавалі не балты, а славяне.

2. Заснавана Ліда не на Лідзейцы, а на Каменцы. Таму назва паселішча Ліда ёсць першасная, а назва рэчкі Лідзейкі паходзіць ад назвы горада.

3. Усе этымалагічныя пошукі ў балцкіх мовах адходзяць на другі план. На першы план выходзіць славянская этымалогія. Хаця славяне таксама маглі нешта запазычыць.

4. Славянскае паселішча не магло ніяк быць старэй за XI стагоддзе. На гэты перыяд прыпадае хваля славянскай экспансіі ў балцкія землі Панямоння[115].

Пры канцы трэба адзначыць, што ў 1930-я гг. археолагі Уладзімір Галубовіч і Алена Цэгак-Галубовіч правялі раскопкі некаторых славянскіх курганоў Наваградскай зямлі і прызналі іх дрыгавіцкімі (славянскімі). На падставе вывучэння ўзораў керамікі Наваградчыны і Віленшчыны Галубовіч прапанаваў датаваць хвалю славянскага рассялення, якая рухалася сюды з боку Менска XI-XII стст.[116]

**Некалькі агульных заўваг**

У 1000 г. еўрапейцы чакалі апакаліпсіс. Але замест апакаліпсіса пачаўся невялікі але ўпэўнены рост і была зроблена галоўная еўрапейская інавацыя - з'явіліся ўніверсітэты. Пачаўся працэс урбанізацыі, ішоў рост насельніцтва. Першым універсітэтам Заходняй Еўропы часта называюць Балонскі ўніверсітэт, заснаваны ў 1088 г., аднак у гэтым пытанні ёсць пэўныя рознагалоссі. Калі лічыць універсітэтам адзіную карпарацыю студэнтаў і прафесараў розных дысцыплін, дык, магчыма, было б правільней лічыць першым Парыжскі ўніверсітэт, заснаваны ў 1208 г. Да першага ўніверсітэта ў Вільні, які быў створаны ў 1578 г., меўся быць яшчэ вялікі кавалак часу. А шчыльнасць насельніцтва ў XIII ст. у нас была каля 2 чалавек на квадратны кіламетр[117].

Заканчваючы гэтую частку, немагчыма не ўзгадаваць важнейшую падзею сярэдзіны XIII ст. якая разам і цалкам перакуліла палітычную і эканамічную сітуацыю ў нашай частцы Еўропы.

Манголы, заваяваўшы княствы Кіеўскай Русі і пакінуўшы пасля сябе спалены Кіеў, прайшлі Галіцка-Валынскія землі, дзе яны захоплівалі гарады, якія ўдавалася ўзяць з наскоку, але не спыняліся падоўгу там, дзе аблога абяцала быць доўгай і цяжкай, і з усёй магчымай хуткасцю ўварваліся ў Цэнтральную Еўропу. Гэта адбылося ў пачатку 1241 года. Былі захоплены Сандамір і Кракаў. Тут хан Батый падзяліў свае войскі: адна, большая частка, рушыла на Венгрыю, а другая - праз усю Польшчу на Чэхію і паўднёвыя нямецкія княствы. 9 красавіка пад горадам Легніца адбылася бітва мангольскіх войскаў і аб'яднаных еўрапейцаў - польскіх, чэшскіх воінаў і нямецкіх рыцараў. Аб'яднанае войска было разгромлена, і манголы ўварвалася ў Маравію і Багемію. Тут манголы заваявалі не ўсе гарады і нават не ўсе асобныя цвердзі і замкі. Але ў рэшце-рэшт, гэтая частка мангольскага войска накіравалася ў Венгрыю, дзе злучылася з іншымі сіламі Батыя. Два месяцы прастаяў Бату-хан пад сценамі Буды, яго дробныя атрады, рассыланыя ва ўсе бакі, рабавалі каралеўства. Нарэшце хан хітрасцю выманіў мадз'ярскага караля Бэлу IV з яго войскам з горада і разбіў яго. Пасля чаго Батый лёгка узяў прыступам Буду і Пешт, якія бязлітасна разрабаваў і спаліў. Адсюль Батый скіраваў свае войска далей на захад праз стромкія горныя схілы. Ён захапіў Заграб і, нарэшце, перадавы атрад манголаў выйшаў да старажытнага горада Спалата (цяпер Спліт) на ўзбярэжжы Адрыятычнага мора. Адтуль, рухаючыся на паўночны захад ўздоўж ўзбярэжжа, армія Батыя дасягнула багатага горада Трыест, ад якога было ўжо блізка да Венецыі. Еўропу ахапілі страх і паніка.

І тут адбылося неверагоднае. Магутная і непераможная армія, прастаяўшы некаторы час каля Трыеста, нечакана знялася з месца і рушыла ў зваротны шлях. Полчышчы Батыя зніклі гэтак жа нечакана, як і з'явіліся, пакінуўшы ў здзіўленні ўсю Цэнтральную Еўропу якая абышлася "лёгкім спалохам". Еўропу ўратавала смерць вялікага кагана, хана Угэдэя, сына Чынгіс-хана. Да Бату-хана прыбыў ганец з далёкага Каракарума, новай сталіцы мангольскай імперыі, які прывёз заклік да ўсіх нашчадкаў Чынгіс-хана неадкладна сабрацца ў сталіцы на курултай, для абрання пераемніка кагана, які памёр.

А на другім беразе Нёмана, у Наваградку, у сярэдзіне XIII ст. ужо паўстала Вялікае Княства Літоўскае і 6 ліпеня 1253 г., у дзень св. Пятра і Паўла (ці па іншым меркаванні 29 ліпеня), па даручэнні Папы рымскага Інакенція IV Міндоўг і яго жонка Марта былі каранаваны як кароль і каралева Літвы. Каранацыя, верагодна, адбылася ў Наваградку. Міндоўг стаў першым і апошні нашым каралём.

[114] Kurjer Wilenski № 292(2833), 30 pazdziernika 1933.

[115] Суднік Станіслаў. Як два разы старажытную Ліду адкрывалі // Лідскі Летапісец. 2016. 2 (74). С. 32.

[116] Кибинь А. С. От Ятвязи до Литвы: Русское пограничье с ятвягами и литвой в X-XIII веках. С. 202.

[117] Lowmianski H. Z dziejow ludnosci wojewodztwa nowogrodzliiego // Kurjer Wilenski № 351 (3241) 24 grudnia 1934.

***Павел Камароўскі***

# Калегіюм і Гандлёвая школа ксяндзоў-піяраў у міжваенным дваццацігоддзі ў Лідзе

1845 год быў па сутнасці цяжкай датай у гісторыі лідскіх піяраў, бо ў той час была выдадзена забарона на іхнюю дзейнасць на гэтай тэрыторыі. Змушаныя да выезду, праз год піяры перабраліся ў Міжрэчча Карэцкае, закончыўшы тым самым амаль стогадовы побыт у Лідзе[1]. Яшчэ перад тымі падзеямі, у 1843 годзе іх пазбавілі эканамічнай базы, якую складаў фальварак разам з зямлёй. Піярскую маёмасць забраў скарб Расійскай дзяржавы. Чарговым крокам царскіх уладаў, якія мелі на мэце сціранне са свядомасці жыхароў Ліды памяці пра піяраў, была перадача іхняга касцёла пад вызваннем Св. Юзафа Каласантага праваслаўнай царкве. Такі стан захоўваўся да I Сусветнай вайны. Апошнім бацюшкам, які служыў у Лідзе быў Іосіф Каяловіч, якога вельмі цанілі царскія ўлады за выключна антыпольскую пазіцыю[2].

У 1919 годзе Ліду занялі польскія войскі, царкву нанава перайменавалі ў рымска-каталіцкі касцёл, але прайшло каля сямі гадоў, пакуль айцы-піяры не вярнуліся ў Ліду і не прынялі ва ўладанне страчаную маёмасць. Ад вызвалення Ліды піярская маёмасць - пляц з касцёлам і з прылеглымі да яго жыллёва-гаспадарчымі будынкамі на вуліцы Сувальскай, а таксама фальварак Пастаўшчына з зямлёй і лесам, налічваўшы 80 моргаў, знаходзіліся пад кіраўніцтвам кс. Балбана, прызначанага дэцызійнымі ўладамі ў Вільні[3].

Піяры ў 1922 годзе распачалі рашучую барацьбу за вяртанне свайго касцёла і нерухомасці. Айцец Ян Барэль, які выконваў абавязкі начальніка польскай правінцыі, у лісце да Віленскага біскупа Ежы Матулевіча дамагаўся вяртання маёмасці, страчанай у перыяд забораў[4]. Піяры не маглі аднак разлічваць на прыхільную пазіцыю з боку Віленскага біскупа з погляду на яго пралітоўскія сімпатыі[5]. Барацьба за паспяховае развязанне справы для супольнасці працягвалася. Каб прыспешыць канчатковае рашэнне, піяры пастанавілі звярнуцца з просьбай аб вяртанні ў Канцылярыю прэзідэнта Рэчы Паспалітай. З той мэтай выслалі ў чэрвені 1923 года ў Варшаву ліст, у якім для падтрымкі сваёй просьбы дадалі гістарычна-прававыя дакументы. Апісалі гісторыю Лідскага калегіюма з падрабязнай дэталізацыяй адукацыйнай дзейнасці[6]. Лісты былі таксама высланы ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і дзяржаўных маёмасцяў, а таксама ў Міні-

[1] ЛіквідацыяДому піяраў у Корацкім Міжрэччы наступіла праз некалькі гадоў, у 1853 г. *Diccionario Enciclopedico Escolapio, Presencia de Escuelas Pias.* Vol. I., Madrid-Salamanca 1900, s. 596-597.

[2] *Kronika Kolegium O.O. Pijarow w Lidzie*, s. 1, archiwum pijarow w Krakowie, sygn. Col. Lid. 5. Kronika ёсць адзіным такім поўным, і адначасова цалкам невядомым запісам гісторыі калегіюма і школ у Лідзе ў міжваенны перыяд. Напісана яна была, акрамя Уступа, бегла, мяркуючы па характары пісьма, шасцю аўтарамі. Свой фрагмент падпісаў толькі кс. Алойзы Наперач. Астатнія аўтары засталіся ананімнымі. Kronika дзеліцца на Уступ, асноўную частку, падзеленую на перыяды: травень 1926 - ліпень 1931; ліпень 1931 - ліпень 1934; Ліпень 1934 - ліпень 1937; 1937/1938, а таксама кастрычнік 1939. Толькі Уступ і першы, а таксама апошні раздзел не маюць пацверджання візітатараў. У астатніх на канцы кожнага з іх подпіс візітатара пацвярджае праўдзівасць запісу. Таму таксама можна прыняць*Kronike...* за дакладную крыніцу. Напрыклад, перыяд ліпень 1931 - ліпень 1934 пацвярджаюць візітатары ксяндзы Д. Русек і А. Ступнік, а таксама генеральны візітатар піяраў з Рыма - кс. Т. Гарыдо. Пра архіў піяраў у Кракаве гл. P. Komorowski, *Archiwum pijarow w Krakowie*, "Analecta" 1994, R. III, z. 2, s 109-122.

[3] Там жа.

[4] A. Wrobiel, *Powrot pijarow do Lidy po I wojnie swiatowej*, "Ziemia Lidzka" 1996, nr 21-22, s. 8. Кс. J. Барэль нар. у Іспаніі 16.IX.1867. Быў рэктарам Дома ў Кракаве, правінцыялам і выхавацелем моладзі. Заснавальнік гімназіі ў Кракаве. Смяротна паранены выбухам міны памёр у Любяшове 28.X.1943. A. Pitala: *Przyczynki do dziejow polskiej prowincji pijarow 1642-1992*. Krakow 1993, s. 153, 166-167.

[5] Юры (Ежы) Баляслаў Матулевіч (Матулайціс) 1871-1927 па паходжанні быў літоўцам. Займаўся грамадскай дзейнасцю. Быў аднавіцелем (1909 г.), рэфарматарам і генералам Ордэна марыянаў, для якіх заснаваў дом у Марыямпалі, дзе пасяліўся. Быў таксама апостальскім візітатарам на Літве і стваральнікам касцельнай правінцыі ў гэтай дзяржаве (1926 г.). У кастрычніку 1918 года быў намінаваны на Віленскага біскупа. Быў вядомы сваімі рэфарматарскімі поглядамі, датычнымі каталіцкага касцёла. Праціўнік утварэння Віленскай мітраполіі. З погляду на пралітоўскія сімпатыі і вынікаючыя з гэтага ўмяшанні ў палітычныя спрэчкі, польскі ўрад дамагаўся ад апостальскай сталіцы яго адклікання. Змагаліся з ім вельмі моцна полькія правыя. Сярод часткі польскай грамадскасці, як таксама сярод нацыянальных меншасцяў карыстаўся вялікай павагай. У 1925 годзе Матулевіч сам сыходзіць з пасады віленскага біскупа. Памёр у арэоле святасці ў Коўні. Беатыфікаваны Янам Паўлам II у 1987 г. M.B. Pecyna, *Osobowosc i dzialanie blogoslowionego Jerzego Matulewicza*, Wroclaw 1990, s. 34-53$ *Polski Slownik Biograficzny*, Wroclaw 1975, t. XX/2, z 85, s. 208-211$ T. Gorski, *Blogoslowiony Jerzy Matulewicz*, Warszawa 1988, s. 9-27; J. Kloczowski, L. Mullerowa, *W dwudziestym stuleciu (1918-1980)*, [w:] J. Kloczowski, L. Mullerowa, J. Skarbek, *Zarys dziejow Kosciola katolickiego w Polsce*, Krakow 1986, s. 352, 432$ *Slownik Polskich teologow katolickich 1918-1981*, Warszawa 1983, vol. 6, s. 433.

[6] У архіве піяраў у Кракаве захаваўся чарнавік гэтага запісу са шматлікімі ручнымі праўкамі, датаваны на 26 чэрвеня 1923 года - Ракавіцы. Подпіс нечытэльны.

стэрства рэлігійных вызнанняў і публічнай асветы[7]. Вызначаны быў айцец Максіміліян Андрых, які меўся па магчымасці заняць пасаду рэктара касцёла, а таксама выконваць абавязкі катэхета і адміністратара[8]. Прыбыў ён у Ліду на пераломе 1924 і 1925 гадоў і адразу рапачаў навучанне рэлігіі ва ўсеагульнай школе[9].

Нягледзячы на, у прынцыпе, пазітыўныя адказы з боку як уладаў касцельных, так і ўладаў дзяржаўных, узнікла, аднак, некалькі няясных з праўнага боку спраў. Было гэта нагодай да таго, што афіцыйнае прыняцце перанеслі на больш позні тэрмін - на пасля падпісання канкардату Польшчы з Апостальскай Сталіцай[10]. Ва ўзніклай сітуацыі піяры вырашылі ўпанаважніць у 1924 годзе кс. Уладзіслава Кісяля - прэфекта дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе для адміністравання ад іхняга імені вернутымі маёмасцямі. Кс. Кісель энергічна прыступіў да работ, звязаных з рамонтам касцёла, які палягаў у вяртанні выгляду святыні на перыяд, які папярэднічаў перабудове на царкву. Работы тыя ішлі паволі па прычыне недахопу грошай. Не ўсе сімвалы, звязаныя з праваслаўем удалося адразу прыбраць - напрыклад, так званыя “цыбуліны” на ліхтарах вежаў і купале касцёла захоўваліся яшчэ праз некаторы час[11].

Пасля некалькіх гадоў стараннаў і запабяганняў на розных узроўнях улады касцельнай і дзяржаўнай у сакавіку 1926 года правінцыял Тамаш Альшоўка афіцыйна ад імя супольнасці піяраў прыняў калегіюм у Лідзе. Гіпатэтычную выпіску піяры атрымалі толькі ў траўні 1931 года. Затрымка тая магла вынікаць - мяркуючы на падставе запісу ў *“Кроніцы...”* - з факту, што польскі ўрад да тых маёмасцяў пакідаў сабе права ў сілу прыняцця парасейскай уласнасці. Дамагаўся, каб піяры плацілі чынш за арэнду[12]. Рэктарам аднаўленага Лідскага калегіюма стаў кс. Фердынанд Казлоўскі, які на працягу многіх гадоў выконваў такую самую функцыю ў калегіюме ў Ракавічах. Аўтар *“Кронікі...”* так запісаў тую падзею: *“У красавіку 1926 года адрокся рэктарства ў Кракаве і Ракавічах пад Кракавам кс. Фердынанд Казлоўскі, шматгадовы рэктар у Кракаве і Ракавічах пад Кракавам. Вычарпаны фізічна шматгадовым гаспадараннем у надзвычай цяжкіх умовах пасля перыяду Сусветнай вайны, захацеў паправіць здароўе, здаўшы клапатлівае кіраўніцтва ў рукі кс. правінцыяла Тамаша Альшоўкі. Не доўга, аднак, адпачываў, бо дзейны і энергічны, вельмі рухавага тэмпераменту, прыродны гаспадар не мог доўга заставацца без занятку. Таму, калі ксёндз-правінцыял даў яму на выбар Дом Шчучынскі[13] альбо Лідскі. ахвотна прыняў Ліду, бо Дом той (быў) пляцоўкай, у якую мог укладаць шмат сваёй энергіі”*[14].

Ксёндз Казлоўскі, нягледзячы на слабое здароўе, энергічна распачаў дзейнасць з мэтай падрыхтоўкі адпаведных умоваў для ўтварэння ў Лідзе канвікта, а таксама Піярскай усеагульнай школы. Рэктару ўдалося тое пачынанне. У 1926 годзе паўстаў канвікт, а праз год школа, у якой Казлоўскі выконваў функцыі кіраўніка[15]. Адначасова каб гарантаваць падставы матэрыяльнага побыту калегіюма - кс. Казлоўскі асабіста заняўся гаспадарчай працай, якая побач з абавязкамі кіраўніка школы цалкам запаўняла яму час. Вызначыўся адначасова як вельмі добры кіраўнік школы, так і кіраўнік гаспадарча-эканамічных спраў. Заклаў, напрыклад, агарод і сад на зямлі, якая належала піярам[16].

Цяжкая праца ўсіх піяраў у Лідзе не засталася па-за ўвагай мясцовай супольнасці, пачуцці якой апісаў адзін з аўтараў *“Кронікі...”*, кс. Алойзы Наперач: *“Лідская супольнасць, бачачы ціхае, спакойнае і сціплае жыццё піяраў, бачачы іхнюю працу ў школе і касцёле, бачачы іхнюю безпрэтэнзійнасць (...) хутка піяраў палюбіла і ім сімпатызавала”*[17]. Адносіны жыхароў Ліды да піяраў, іх новага пасялення ў горадзе і адукацыйнай дзейнасці былі прадстаўлены ў артыкуле, змешчаным у “Ziemi Lidzkiej”. Аўтар тэксту так апісаў той факт: *“Мясцовая супольнасць дорыць асаблівыя сімпатыі Калегіюму ксяндзоў-піяраў у Лідзе. Прычыны такога сардэчнага стаўлення ўладаў і ўсёй люднасці да ксяндзоў-піяраў для кожнага зразумелыя. Бо ад хвілі вяртання незалежнасці аднавілі яны слаўныя традыцыі, займаючы ў Лідзе першае месца ў справе адбудовы грамадска-дзяржаўнага жыцця. З піярскіх школ выходзяць штогод кадры маладых пакаленняў, падрыхтаваныя да творчай дзяржаўнай працы”*[18]. Нягледзячы на вельмі зычлівыя адносіны жыхароў Ліды, 1927 год, роўна як і наступныя, быў цяжкі для калегіюма. Рэктар Казлоўскі ўзяўся за неабходны - ужо праз доўгі час - рамонт. Была аднаўлена

[7] A. Wrobel, dz. cyt., s. 8.

[8] Там жа.

[9] *Kronika,* s. 3.

[10] A. Wrobel, dz. cyt.,; Канкардат падпісаны толькі 10 лютага 1925 г.

[11] *Kronika,* s. 1-2 і A. Wrobel, dz. cyt., s. 8.

[12] *Kronika,* s. 4, 18 і *Diccionario Enciclopedico Escolapio, Presencia de Escuelas Pias.* Vol. I., Madrid-Salamanca 1900, s. 537-538.

[13] Калегіюм у Шчучыне Літоўскім паўстаў у 1718-1725 гадах. У сярэдзіне 30-х гадоў XVIII стагоддзя ў школе пры калегіюме вучыліся 170 вучняў. У васьмідзесятых гадах XVIII стагоддзя рэформы, згодна з палажэннямі НАК правеў Б. Юндзіл. Шчучынскі калегіюм быў закрыты акупацыйнымі ўладамі ў 1832 г. *Diccionario Enciclopedico Escolapio, Presencia de Escuelas Pias.* Vol. II., Salamanca 1983 і A. Pitala, dz. cyt., s. 128.

[14] *Kronika,* s. 4.

[15] *Kronika,* s. 7 і A. Pitala, dz. cyt., s. 154.

[16] Там жа, s. 12.

[17] *Kronika,* s. 7.

[18] W. Abramowicz, *Szkoly pijarskie w Lidzie*, “Ziemia Lidzka”, 1936, nr 9, s. 2.

касцельная вежа, якая многія гады заставалася без даху, што непасрэдна спрычынілася да знішчэння яе муроў. Таксама пад перабудову падпалі прыкляштарныя будынкі, што было звязана з новымі выдаткамі[19].

Дзякуючы вытрывалай, а, што яшчэ важней, добра арганізаванай працы, сітуацыя ў лідскіх піяраў часткова паправілася. Спрычынілася да гэтага, м. ін., усеагульная школа. Заснавалі яе ў 1927 годзе, і ўжо праз два гады колькасць вучняў павялічылася ў шмат разоў - з трохі больш за дзесятак да сотні ў 1929 годзе[20]. Нягледзячы на поспехі як у вядзенні ўсеагульнай школы, так і ў кіраванні эканамічна-гаспадарчымі справамі, кс. Фердынанда Казлоўскага напаўняла перакананне, што іхнія тагачасныя поспехі не дастатковыя. Ксёндз-рэктар прагнуў развіваць працу, якая мацней вязалася б з імем Станіслава Канарскага, г. зн. адукацыйнай дзейнасці[21]. Несумненна найлепшым рашэннем была б сярэдняя школа. Радзілася аднак пытанне, якога роду павінна быць гэтая школа? У Лідзе існавалі ўжо тры гімназіі - адна дзяржаўная імя Караля Ходкевіча, другая прыватная, трэцяя належала лідскім габрэям, таму чацвёртая падавалася ў сілу рэчаў лішняй.

Рэктар Казлоўскі разгледзеў гэтую праблему ў больш шырокім аспекце. Ён меркаваў, што ў краі патрэбны не толькі школы агульнаадукацыйнага профілю, якіх на яго думку, як і таксама на думку грамадскую і міністэрства ў Польшчы залішне шмат. Затое бракавала пляцовак, якія рыхтавалі б вучняў да канкрэтнай прафесіі. Таму кс. Казлоўскі думаў таксама пра заснаванне прафесійнай школы. Трэба было, аднак, вызначыцца - і гэта досыць хутка - якой маюць вучыць прафесіі. У Лідзе існавала ўжо Дзяржаўная школа рамёстваў. Не ўдавалася ёй аднак прыцягнуць лішне шмат моладзі, якая што раз больш ахвотна выязджала ў Вільню ў Тэхнічную школу. Ксёндз Казлоўскі зрабіў слушную выснову, што такая школа, якая існавала ў Вільні, патрэбна і ў Лідзе. Аднак з прычны найхутчэй асноўнай, а менавіта з адсутнасці грошай на будаўніцтва неабходных школьных майстэрняў, праект той мусіў праваліцца. Прыдатная была б таксама Агародная школа, але з погляду на слабы ўзровень і слабое зацікаўленне сельскагаспадарчымі ведамі мясцовай люднасці і тыя намеры мусілі застацца выключна ў сферы планаў[22].

Час сплываў, і трэба было прымаць рашэнне, тым больш, што габрэйская супольнасць Ліды пастанавіла адкрыць уласную прафесійную школу з гандлёвай спецыялізацыяй. З той мэтай габрэі падалі ўжо прашэнне аб прызнанні ім канцэсіі на арганізацыю такой школы[23]. Кс. Казлоўскі здопінгаваны тым фактам, як таксама прапановамі візітатара Віленскай школьнай акругі - Тодара Мяноўскага[24], Міхала Бар-коўскага, старшыні Хрысціянскага купецкага таварыства і Адама Казлоўскага - выкладчыка лацінскай мовы гімназіі, пачаў энергічную дзейнасць. У першую чаргу трэба было атрымаць падтрымку асветных уладаў. З той мэтай кс. рэктар звярнуўся да начальніка Аддзела прафесійнага школьніцтва Віленскай шко-льнай акругі Людвіка Курчэўскага, які паабяцаў яму першынства ў прызнанні канцэсіі, якая дазваляла стварэнне Гандлёвай прафесійнай школы. Праца кс. Казлоўскага з аддзелам Школьнай акругі давала праўныя падставы, але таксама неабходнай была фінансавая падтрымка. Кс. рэктар, памятаючы няўдалае з фінансавых прычын прадпрыемства, звязанае з тэхнічнай школай, гэтым разам шукаў салідннай падтрымкі. Міністэрства рэлігійных вызнанняў і публічнай асветы, а таксама куратарыюм абяцалі вярнуць кошты будаўніцтва і аплаціць дырэктара ды частку персаналу. Аднак грошы тыя мелі даць толькі тады, калі паўстане гмах школы. Таму на будаўніцтва належала пазычыць грошы. У той сітуацыі кс. Казлоўскі рашыўся на адаптацыю для патрэб школы існых гаспадарчых будынкаў. Кошт быў вялікі. Паводле папярэдніх ацэнак перавышаў 6000 зл. Дзякуючы ўмяшальніцтву лідскага старасты Генрыка Багаткоўскага, Камунальная ашчадная каса выдзеліла крэдыт айцам-піярам у Лідзе.

Будоўлю распачалі 15 ліпеня 1929 года. Паколькі кошты пастаянна раслі, у работах мусілі ўдзельнічаць самі піяры, якія - паводле дакладу кс. Наперача - зусім у тым не разбіраліся. Бачачы той недахоп ведаў "малярскага майстэрства", будаўнічы прадпрымальнік завысіў агульныя кошты, і адначасова работы выканалі не лішне салідна. Бо ён не ўлічыў клімату і даў лішне тонкія цагляныя сцены, у выніку вельмі цяжка было абагрэць памяшканне. Паўсталы школьны будынак меў 40 м даўжыні, 7 метраў шырыні і 3 метры вышыні[25]. Работы праводзілі ў хуткім тэмпе, што дазволіла ўжо праз тры месяцы - 15 верасня - пачаць школьны года ў першым класе III-класнай Мужчынскай гандлёвай школы ксяндзоў піяраў у Лідзе[26].

Ва ўрачыстасцях пасвячэння школьнага будынка III-класнай Мужчынскай гандлёвай школы ксяндзоў піяраў у Лідзе ўзяло ўдзел шмат знакамітых

[19] Там жа, s. 8.

[20] Там жа, s. 12-13.

[21] Там жа, s. 13.

[22] Там жа, s. 13-14.

[23] Яўрэйскую супольнасць здапінгавала да дзейнасці закрыццё адукацыйнымі ўладамі гімназіі "Тарбут". *Kronika,* s. 14.

[24] Быў гэта брат Генрыка Мяноўскага (1882-1955), інжынера, палітычнага і гаспадарчага дзеяча, эксперта ў вобласці турызму і распараджэнняў, датычных курортаў. Мяноўскі займаўся таксама прафесійным школьніцтвапм і рамёствамі. *PSB,* 1975, t. XX/3, z. 86, s. 252-253.

[25] *Kronika,* s. 16.

[26] У міжваенны перыяд прафесійныя школы гандлёвага профілю па іх колькасці займалі другое месца. На першым месцы былі школы прамысловыя. У Віленскай школьнай акрузе ў 1932 годзе гандлёвых школ было 12. J. Miaso, *Szkoly zawodowe w Polsce w latach 1918-1939. Ich razwoj, organizacja i funkcje spoleczne.* Wroclaw 1988, s. 160, 163.

гасцей. Прыбыў м.ін. Віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, кс. пралат Кароль Лубенец, а таксама палкоўнік Вацлаў Івашкевіч[27]. Дзяржаўныя ўлады рэпрэзентаваў навагрдскі ваявода Зыгмунт Бячковіч, а таксама лідскі стараста Генрык Багаткоўскі. Ад Міністэртва рэлігійных вызнанняў і публічнай асветы ўзяў удзел начальнік Аддзела прафесійнага школьніцтва - Людвік Курчэўскі[28].

Канцавыя кошты будоўлі ў шмат разоў перавысілі планаваную суму і ў канцы дасягнулі амаль 29 000 зл. Фінансавую дапамогу піярам аказалі два банкі: Віленскі прыватны гандлёвы банк з аддзелам у Лідзе і Лідскі кааператыўны банк. Не абышлося без падтрымкі прыватных асоб[29].

Гандлёвы ліцэй распачаў дыдактычную працу. У першы клас прынялі трыццаць вучняў. Дадамо, што была гэта не толькі каталіцкая моладзь, а ў значнай меры маісеевага вызнання. У архіве піяраў у Кракаве знаходзіцца камплект лекцыйных дзённікаў, з якіх вынікае, што 1/3 вучняў складала габрэйская моладзь[30]. Захаваўся таксама першы спіс педагагічнага калектыву. Дырэктарам школы стаў А. Умястоўскі - дырэктар Гандлёвага кааператыўнага банка. Кс. Ф. Казлоўскі выкладаў нямецкую мову, а кс. Я. Бораль - французскую і ангельскую. Гісторыю і польскую мову выкладаў М. Кабылянскі. Спецыяльныя прадметы выкладалі: А. Казлоўскі - бухгалтэрыю; М. Вусовіч (Вансовіч) - гандлёвую арыфметыку і навуку гандлю; В. Румцова - стэнаграфію; рэлігіі вучыў піяр кс. А. Трацяк[31].

Разам з пачаткам першага ўрока мары кс. Фердынанда Казлоўскага былі рэалізаваныя, але яшчэ не да канца. Кс. рэктар лічыў, што кіраўніцтва школы павінен прыняць піяр. Нажаль, у той час не было ў ордэне чалавека, які меў бы адпаведную кваліфікацыю, звязаную з тэорыяй гандлю і якога зацвердзіў бы на пасаду дырэктара школы куратар. Піярам не засталося нічога іншага, як выслаць на вучобу па гандлёвым профілі аднаго з айцоў. На такую вучобу ў Кракаў на Кааператыўны курс пры Рэальным факультэце Ягелонскага ўніверсітэта паслалі кс. Алойзага Наперача, аўтара часткі згадванай раней *"Кронікі Калегіюма аа. піяраў у Лідзе"*. Пакінуў ён Ліду ў верасні 1929 года. На яго месца прыбыў кс. Тамаш Калакоўскі, які, аднак, у Лідзе прабыў толькі год[32].

У чэрвені 1931 года наступілі істотныя змены ў спосабе кіравання Польскай правінцыяй, што было звязана непасрэдна з Лідскім калегіюмам. Новым правінцыялам стаў кс. Фердынанд Казлоўскі. Намінацыю ўручыў яму генерал супольнасць Джузепе дэль Буано[33]. Прыняцце таго звання кс. Казлоўскім было звязана з неабходнасцю пакідання Ліды[34], з якой ён выехаў у чэрвені 1931 года. На сваё месца прызначыў ксендза Алойзы Наперача, які якраз вярнуўся ў Ліду пасля двухгадовага побыту ў Кракаве і вучобы ў Ягелонскім універсітэце. Новы кс. рэктар прыняў кіраўніцтва ў ліпені 1931 г.[35] Першыя месяцы працы былі цяжкія для кс. Наперача. Мусіў ён падрыхтаваць памяшканні для патрэюб як школы ўсеагульнай, так і гандлёвага ліцэя. Да абавязкаў рэктара належала арганізацыя канцылярыі, якой з нагоды школьных заняткаў не мог сам весці. Абавязак той даверыў асобе свецкай - Юзафу Мамчыцу, былому бухгалтару Касы хворых. Мамчыц, што было вельмі важна, давёў кнігі абедзвюх школ да парадку[36].

Не менш істотнай праблемай, перад якой стаў кс. Наперач, быў сталы падбор настаўніцкіх кадраў на адпаведным узроўні. У Гандлёвай школе піяраў звольніўся з працы тагачасны дырэктар Аляксандр Умястоўскі, які выконваў адначасова функцыі дырэктара Народнага кааператыўнага банка ў Лідзе. Абавязкі ў банку не дазвалялі яму эфектыўна кіраваць школай. Фінансавыя цяжкасці ліцэя перашкодзілі прыняць на гэтую пасаду былога дырэктара Гандлёвай школы ў

---

[27] Р. Ялбжыкоўскі (1876-1955). Дапамагаў ад 1921 г. біскупу Г. Пшэздзецкаму ў падрыхтоўцы праграмы тэрытарыяльнага падзелу Касцёла на польскіх землях пасля І Сусветнай вайны. У 1926 г. быў першым віленскім арцыбіскупам. Стваральнік Таварыства ксяндзоў "Unitas" і каталіцкага штодзённіка "Zycie i Praca" ("Жыццё і Праца"). У 1931 г. арганізаваў архідыяцэзіяльны сінод - першы ад 1744 г. Пасля прыняцця Вільні ў 1940 г. літоўцамі, адхіляецца ад арцыбіскупства. Ад 1945 г. меў рэзідэнцыю ў Беластоку. P. Nitecki, *Biskupi Kosciola w Polsce. Slownik biograficzny*, Warszawa 1992, s. 87; *Slownik polskich teologow...*, vol. 5, s. 564-565: PSB, 1963, t. X/3, z. 46, s. 400-401; J. Kloczowski, L. Mullerowa, dz. cyt., s. 308, 309, 353. Кс. К. Любянец (1866-1942), выхавацель і грамадскі дзеяч. Арганізатар апекі над сіротамі ў Вільні, а таксама арганізатар курсаў удасканалення для моладзі. *PSB*, 1972, t. XVII/4, z. 75, s. 594;

[28] Там жа, s. 17.

[29] Там жа, s. 15-16.

[30] Col. Lid. 45-73.

[31] *Kronika,* s. 17.

[32] Кс. Т. Калакоўскі выйшаў з Ордэна піяраў, перабраўся ў Шчучын, дзе стаў свецкім ксендзам. *Kronika,* s. 18.

[33] Абранне новага правінцыяла павінна адбывацца шляхам выбараў. Такія выбары, аднак, не маглі адбыцца па фармальнай прычыне. Вынікала гэта з таго, што існаваўшыя ў Польшчы Дамы, а менавіта ў Кракаве, Ракавіцах, Лідзе і Шчучыне былі ўтвораны не ў адпаведнасці з канстытуцыямі і з кананічным правам "Domus Formante", з-за адсутнасці адпаведнай колькасці ксяндзоў. *Kronika,* s. 17-18.

[34] Пасля трох гадоў выканання абавязкаў правінцыяла кс. Ф. Казлоўскі пакідае Кракаў, перабіраецца ў Любяшоў на Палессі. У тамтэйшай гімназіі піяраў вучыць нямецкай мове і з'яўляецца духоўным кіраўніком навіцыяту. Падзеі ІІ Сусветнай вайны засталі яго ў Венгрыі. Застаецца там да яе канца, выконваючы ролю капелана ў лагерах для інтэрнаваных. Восенню 1945 года адважваецца на вяртанне ў Край. Нажаль, падчас зваротнай дарогі памірае 5 кастрычніка ў Славакіі ў мясцовасці Святы Юр і там быў пахаваны. *PSB*, 1970, t. XV/I, z. 64, s. 7-8.

[35] *Kronika,* s. 17.

[36] *Kronika,* s. 17.

Баранавічах - кандыдатата, прапанаванага начальнікам Аддзела прафесійнага школьніцтва - Людвіка Курчэўскага. Новы кандыдат на дырэктара зажадаў зарплаты 900 зл. штомесячна, што, канешне, значна перавышала магчымасці ордэна[37]. Адзіным развязкам сітуацыі быў выбар на дырэктара школы некага сярод піяраў, на што не хацелі згаджацца адукацыйныя ўлады, матывуючы сваю пазіцыю фактам, што ніхто не мае адпаведнай практыкі. У канцы аднак, дзякуючы заступніцтву куратара Казіміра Шалягоўскага, справа была пазітыўна залагоджана. Ксёндз Алойзы Наперач быў зацверджаны 16 кастрычніка 1931 года на пасаду дырэктара Гандлёвай школы[38]. Такім чынам матэрыяльная і арганізацыйна-адукацыйная сітуацыя пляцоўкі была ўратавана. Апрача адміністрацыйных абавязкаў кс. Наперач праводзіў урокі нямецкай мовы ў памеры 12 гадзін штотыднёва і заняткі па каліграфіі - 2 гадзіны ў тыдзень[39]. Ён, як і Тэафіл Брожак, які вучыў рэлігіі, не атрымоўваў ганарару. Грошы за іх працу былі прызначаны на выплаты для астатніх настаўнікаў, а таксама на аплаты, напрыклад, за электрычную энергію[40].

Апрача клопатаў, звязаных з Гандлёвай школай, у 1931 годзе Лідскі калегіюм меў таксама праблемы, датычныя ўсеагульнай школы, якая да таго часу прыносіла прыбытак, а стала ледзве самадастатковай. Упала колькасць вучняў, якія наведвалі яе. За часы рэктарату кс. Фердынанда Казлоўскага было іх 120, цяпер толькі 90[41]. Да такога стану рэчаў спрычыніўся, напэўна, агульнакраёвы гаспадарчы крызіс. Папраўку эканамічнай сітуацыі абедзвюх школ несла б неадкладная замена свецкіх настаўнікаў, якім трэба было плаціць грошы, на настаўнікаў - піяраў. Аднак такое развязванне не магло мець месца, паколькі ў большасці не мелі яны адпаведнай кваліфікацыі для навучання моладзі. Нельга абмінуць іншую прычыну, запісаную ў *"Кроніцы Калегіюма аа. піяраў у Лідзе"* яе аўтарам - кс. Наперачам. Кс. рэктар апасаўся, што *"... прафесія настаўніка станецца аказіяй да страты паклікання ў ордэнскія ксяндзы"*[42].

Нягледзячы на згаданы крызіс, дзякуючы ахвярнай працы ўсяго персаналу ўсеагульнай школы, удалося, аднак, завяршыць школьны год у 1932 годзе з дадатным сальдам 5685 зл[43]. На жаль, фінансавыя разлікі Гандлёвай школы выглядалі значна горш, чым усеагульнай. Не хапала выключнай заангажаванасці ксяндзоў. Да дадатнага балансу спрычынілася дапамога куратарыюма ў выглядзе дафінансавання ў колькасці 3500 зл. Канчатковы прыбытак Гандлёвай школы склаў 2199 зл[44].

Дзякуючы захаваным у кракаўскім архіве ведамасцям, відаць выразныя фінансавыя цяжкасці калегіюма. Апрача грошай, якія плацілі настаўнікам і людзям, дапамагаўшым у вядзенні школаў, істотным абцяжарваннем былі сумы, звязаныя з пакрыццём коштаў навукі і побыту ў калегіюме найбяднейшых вучняў. У 1931/1932 школьным годзе на поўным утрыманні калегіюма было 6 вучняў. Бясплатна дакармлівалі аж 24, а цалкам вызвалялі ад платы за навучанне 19 вучняў. Плату за навучанне ў памеры ад 50 да 80% плацілі 17 вучняў. Такім чынам, ад рознага роду аплат былі вызвалены 66 вучняў з 77. Разлікі простыя - толькі 11 вучняў пакрывалі цалкам кошты сваёй навукі. За рэшту моладзі, у тым ліку і габрэйскай, мусілі даплачваць самі піяры. У выніку такога стану рэчаў дэфіцыт у згаданым годзе дасягнуў 18300 зл. Адна стыпендыя паглынула суму 13335 зл[45]. Былі гэта, несумненна, паказаныя квоты. У наступным годзе змяніліся прапорцыі вучняў, якія карысталіся льготамі на вучобу. Менш было на поўным утрыманні калегіюма, але пры вялікай колькасці вучняў, якія падлягалі частковаму вызваленню ад аплат, тэндэнцыя да павелічэння дэфіцыту расла, прывёўшы да страт у памеры 21452 зл. Толькі 1933/1934 школьны год прыносіць выразную папраўку. Дэфіцыт упаў да сумы 11095 зл.

Прыбыткі са збіраных аплат за вучобу таксама не маглі пакрыць настаўніцкіх зарплатаў, якія складалі сур'ёзныя цяжкасці бюджэту калегіюма. Вялікая была вілка ў аплаце выкладчыцкіх кадраў у Гандлёвай школе. Так, у пачатку трыццатых гадоў, напрыклад, Генрык Жалігоўскі атрымліваў штомесяц 320 зл, калі ў той жа час Лейзар Лянлэ - толькі 20 зл, зарплата швейцара дасягала 50 зл[46]. Такая вялікая дыспрапорцыя вынікала са стажу, як таксама з колькасці гадзін працы штотыднёва і выканання абавязкаў выхаваўцы класа. Ганарары настаўнікаў ва ўсеагульнай школе былі роўныя і дасягалі, таксама на пачатку трыццатых гадоў па 160 зл[47].

Апрача названых фінансавых цяжкасцяў, якія - у большай або меншай ступені - у прынцыпе пастаянна суправаджалі калегіюм, былі аднак і такія, якія з'яўляліся неспадзявана, прыносілі шмат неспакою і замяшання. Да такіх цяжкасцяў належала справа, звязаная з неабходнасцю вяртання гіпатэчнай сумы ў памеры 19000 зл. Звязвалася гэта з грашыма, якія ў 1929-1933 гада піяры атрымалі ад куратарыі Віленскай школьнай акругі на адкрыццё і развіццё Гандлёвай школы. Праблема паўстала з таго, што гэтая сума, 19000 зл, была трактавана піярамі, як субсідыя, калі ў той жа час аду-

[37] Там жа, s. 23.
[38] Там жа.
[39] Там жа.
[40] Там жа.
[41] Там жа.
[42] Там жа.
[43] Там жа.
[44] Там жа.
[45] Col. Lid. 3.
[46] Col. Lid. 3 - (224).
[47] Там жа.

кацыйныя ўлады ў Вільні затрактавалі яе, як пазычку. Розніца была істотная. Прыняцце пазіцыі куратарыюма, які апеляваў да распараджэння Міністэрства рэлігійных вызнанняў і публічнай асветы, цягнула за сабой неабходнасць гіпатэчнага забеспячэння згаданай квоты 19000 зл маёмасцю ксяндзоў піяраў у Лідзе за права выдзялення пазычкі калегіюму. З захаванай карэспандэнцыі ў той справе вынікае, што адукацыйныя ўлады адхілілі просьбу піяраў, што ў выпадку адсутнасці запісу на гіпатэку будуць спрэчную суму забіраць з падтрымкі, прызначанай для школы[48]. У той справе ў куратарый звярталіся як кс. Алойзы Наперач, так і кс. правінцыял Фердынанд Казлоўскі. Адукацыйныя ўлады пазіцыі не змянілі.

Гандлёвай школе пагражала яшчэ большая запазычанасць з нагоды затрыманых выплат настаўнікам. З захаванай карэспандэнцыі паміж кс. Казлоўскім і кс. Наперачам выразна вынікае, што кс. правінцыял стаяў на пазіцыі, каб не падпарадкоўвацца жаданням куратоыя. Кс. Наперач прасіў згоду на гіпатэчны запіс, не бачачы ў тым пагрозы для існавання школы і ўсяго калегіюма. Насупраць - у выпадку адмовы з боку піяраў кс. рэктар бачыў вялікую небяспеку, якой было б адкліканне фінансавай дапамогі з боку куратарыя. Наступствы - на яго думку - закранулі б не толькі калегіюм у Лідзе. Так у лісце ад 17 снежня 1933 года, накіраваным да ксендза Казлоўскага, матываваў сваю просьбу на згоду правінцыяла пра гіпатэчны заклад: *“Калі тую падтрымку ў нас адбяруць, што ёсць пэўным, то ясна, што ані доўгу не будзем сплачваць, ані ксендзу правінцыялу не будзем магчы даць ані гроша і ўжо не здолеем нават выкупіць вексель, які быў выстаўлены ксендзу правінцыялу на 1000 зл, які трэба плаціць у траўні. Акрамя таго мусім памятаць, што без падтрымкі куратарыя не можа быць мовы пра выплату гіпатэчнага доўгу, які цягнецца за Кракаўскім калегіюмам. Калі ксёндз правінцыял не дазволіць загіпатэкаваць прэтэнзіі куратарыя, то я з двух зол вымушаны буду выбраць тое, што лепшае, а менавіта ад паўгода школу зачыню, каб такім чынам не павялічваць даўгі за ўтрыманне выкладчыкаў, бо ў нас сітуацыя будзе без выхаду”*[49] У наступнай частцы свайго ліста кс. Наперач радзіў, каб пад гіпатэчны заклад даць кавалак зямлі, *“на якім стаіць школа”* [50]. У выпадку неўрэгулявання - на думку ксендза рэктара - спраў гіпатэкі, пацягнула б гэта за сабой закрыццё школы, у выніку чаго міністэрства магло б зажадаць аддання 19 000 зл. У выпадку немагчымасці вяртання такой вялікай сумы, дзяржаўная адміністрацыя магла б забраць згаданы пляц.

Ліст свой кс. Наперач закончыў такім чынам: *“Калі, што не дай Божа, зменіцца ўрад на якісь бальшавіцкі, то так ці гэтак усё ў нас забяруць і піяраў з Ліды могуць выгнаць. У Рымскай правінцыі ўсе дамы піярскія апрача св. Панталеона*[51] *і Фраскаці ў руках дзяржавы, і піяры школы ў іх вядуць, хаця не маюць надзеі вяртання тых дамоў - а ў нас сітуацыя іншая, бо мы маем магчымасць гіпатэку ачысціць”*. У канцы дадае яшчэ адно: *“Мы адзіныя, якія яшчэ супрацiўляемся загіпатэкаванню - усе прыватныя школы на тутэйшай тэрыторыі ўжо тую справу даўно па прапанове куратарыя залатвілі. Куратарый з намі аднымі не будзе лічыцца”*[52]. Аргументацыя кс. Наперача напэўна была настолькі пераканаўчая, што кс. правінцыял Казлоўскі выразіў згоду на гіпатэчны запіс. 19 лютага 1934 г. была выслана ў куратарый у Вільні выпіска з гіпатэкі[53], у сілу якой былі задаволены жаданні адукацыйных уладаў. Справа, аднак, на тым не закончылася. У кастрычніку 1935 года прыйшоў у калегіюм на рукі яго рэктара - кс. Клеменса Чабаноўскага - ліст з генеральнай пракуратуры з Вільні, які ставіў пад сумненне законнасць гіпатэчнага запісу. Аказалася, што не былі выкананы з боку піяраў істотныя праўныя фармальнасці. Не звярнуліся да дзяржаўных уладаў, якія прынялі ўсю расейскую маёмасць, з адпаведнай просьбай. Лідскі дом належаў польскай дзяржаве. Гіпатэчны заклад, які пацвярджаў уласнасць піяраў, 24 кастрычніка 1935 года быў прызнаны незаконным. Піяры, каб вярнуць права гіпатэчнага закладу, мусілі аддаць справу ў суд. Першая справа ў лідскім судзе адбылася 22 верасня 1936 года. Прыгавор быў станоўчы - за калегіюмам была прызнаная спрэчная маёмасць, як і вяртанне судовых выдаткаў у памеры 800 зл. Пракурор падаў апеляцыю. Чарговы разгляд адбыўся 21 красавіка 1937 года. І тым разам прыгавор быў на карысць піяраў. Аднак фактычнымі ўладальнікамі Лідскага Дома яны сталі толькі ў студзені 1939 года па рашэнні Найвышэйшага суда, у які справа ў канцы патрапіла[54]. Спрэчка, якая ішла паміж піярамі і польскімі ўладамі, а таксама недахоп грошай прывёў да таго, што ксяндзы баяліся падымаць інвестыцыі на высокі ўзровень. Мелі яны ў праекце збудаванне новага трохпавярховага будынка з многімі класамі, а таксама з крамамі на першым паверсе, у якіх моладзь праходзіла б практыку. Працэс пра гіпатэку быў пракаментаваны ў “Ziemi Lidzkiej”: *“Патрэба разбудавання школ, у якіх чэрпаў мудрасць жыцця гісторык Тодар Нарбут і сын Казімір* (тут яўная блытаніна, патрэбна Людвік) - *вялікі нацыянальны герой, разбілася аб згаданы працэс. Генеральная пракуратура мае намер*

[48] Col. Lid. 3 - (178).

[49] Там жа.

[50] Там жа.

[51] У 1612 г. піяры купілі ў Рыме дом, размешчаны каля касцёла св. Панцеляймона. Будынак гэты стаў ад той пары сядзібай школы. S.G. Guerri, *Swiety Jozef Kalasancjusz*, Krakow 1994, s. 99-100; DENES, vol. 1, s. 711.

[52] Там жа.

[53] *Kronika,* s. 43-44.

[54] *Kronika,* s. 43-44, 51, 52, 61. Пад гіпатэчны заклад прызначаны кавалак зямлі плошчай 432 м$^2$, на якім была пабудавана Гандлёвая школа. Нумар вячыстай кнігі 3483. Працэс гэты быў агалошаны ў прэсе. На яго тэму пісалі м.ін. “Кур’ер Віленскі” і “Слова”. Там жа, s. 67.

*адабраць ад нашых піяраў займаныя імі ад вякоў землі"*[55].

Існавалі таксама фінансавыя цяжкасці, якія несла штодзённае жыццё. У прынцыпе школьны будынак, як і будынкі калегіюма, пастаянна рамантаваліся і разбудоўваліся. Напрыклад, у ліпені 1932 года распачаўся рамонт усяго будынка Гандлёвай школы, часткова за грошы, атрыманыя з куараторыя, а часткова з уласных фундушаў. Перш за ўсё ізалявалі фундаменты, уставілі некалькі акон і дзвярэй. Найістотнейшай справай была пастаноўка новых чатырох кафляных стаякоў (галандскіх печак) замест існых цагляных, якія па словах кс. Наперача: *" ... толкам не грэлі, хоць у іх палілі ад 11-ай ночы да 8-ай раніцы"*[56]. Паправілі таксама коміны і дах. У ходзе рамонтных работ аказалася, што перыяд іхні мусіць быць большым, чым раней закладвалася. Цягнула гэта перавышэнне - і амаль двухкратнае - сумы, асігнаванай на рамонт. Кураторый пералічыў 2700 зл у той час, калі канцавыя кошты дасягнулі 4187 зл. Неабходная была новая дапамога кураторыя ў Вільні. Праводзіўся таксама рамонт усеагульнай школы - але тым разам ужо толькі з фундушу піяраў. У 1936 годзе разбудавана і абсталявана Гандлёвая школа ў сувязі з перайменаваннем яе ў Школу з сумесным навучаннем. Пры аказіі адрамантавалі ўвесь калегіюм разам з касцёлам. Кошты таго прадпрыемства дасягнулі 18925 зл. Не абышлося і тым разам без датацыі з боку кураторыя, якая дасягнула 9120 зл[57].

Іншага роду цяжкасці штодзённага жыцця - на шмат больш грозныя - прынёс пажар стадолы ў ліпені 1932 года. Прычынай быў заганна ўстаноўлены грамаадвод. Пажар той спрычыніўся да выключна цяжкай сітуацыі з калегіюмам. Стадола была, што праўда, застрахавана, але грошы за страхоўку пералічылі піярам толькі ў лістападзе. Таму не было патрэбных сродкаў на адбудову новага будынка. У выніку не было дзе хаваць ураджай жыта, пшаніцы, ячменю, аўсу ці гароху. Пакінута ўсё на полі. Нажаль, прыйшлі дажджы, і ўраджай амаль цалкам згніў. Калегіюму пагражала застацца на зіму без запасаў збожжа і тым самым без хлеба. Праблемы з хлебам з'явіліся ўжо на пачатку 1932 года. Кс. Наперач мусіў пазычыць грошы на яго пакупку. У той цяжкай сітуацыі дапамогу выдзеліў правінцыял - кс. Казлоўскі, узяўшы пазычку ў Камунальнай касе ашчаднасці ў Кракаве[58]. Фінансавыя цяжкасці спрычыніліся да закрыцця ў 1932 годзе Лідскага канвікта, што было выклікана доўгам з-за пазычкі, узятай на куплю хлеба. Прычына была паводле слоў аўтара запісу ў *"Кроніцы..."* простая: *"Паходжанне доўгу за хлеб мае сваю крыніцу ў тым, што пры Калегіюме існаваў канвікт (інтэрнат), у які бацькі аддавалі сваіх сынкоў з добрымі апетытамі, а што горш ужо загадзя свядома планавалі, што дамоўленай цаны за ўтрыманне не будуць плаціць. І так таксама рабілі. Нарэшце кс. Алойзы, маючы патрэбу для павелічэння абедзвюх школ, з лёгкім сэрцам закрыў канвікт у лютым 1932 года"* [59].

Адны клопаты і цяжкасці, як у выпадку канвікта, скончыліся, але з'явіліся новыя. У студзені разам з асістэнтам прыбыў у Ліду кс. правінцыял Казлоўскі з мэтай накладання на Лідскі Дом падатку, неабходнага для ўтрымання навіцыяту і студэндату ў Ракавіцах. Нягледзячы на тлумачэнні з боку кс. Наперача, што калегіюм знайходзіцца ў фінансава нядобрай сітуацыі па прычыне пажару, хлебнага доўгу і дэфіцыту ў Гандлёвай школе, не ўдалося рэктару дабіцца вызвалення ад жаданых правінцыялам выплат. Устаноўлена, што Лідскі калегіюм будзе высылаць толькі 50 зл штомесячна[60].

Фінансавыя цяжкасці існавалі ў прынцыпе на працягу ўсяго перыяду існавання школ, гэта значыць да выбуху II Сусветнай вайны. Пляцоўкі маглі дзейнічаць, дзякуючы частым датацыям з боку адукацыйных уладаў. Сумы, атрыманыя піярамі на асветніцкую дзейнасць, не былі вельмі вялікімі, але заўсёды стваралі падтрымку. Так, напрыклад, у лістападзе 1933 года кураторый Віленскай школьнай акругі пералічыў на рахунак калегіюма ў ПКА суму 3225 зл, як субсідыю на вядзенне Гандлёвай школы. Грошы тыя піяры атрымалі, дзякуючы падтрымцы Гжэгаша Мерсона - начальніка Аддзела прафесійных школ. У той самы час іншыя школы ў Віленскай акрузе атрымалі меншыя сумы[61]. Грошай з датацый і платы за навучанне не магло хапіць на пакрыццё выдаткаў на ўтрыманне ўсяго калегіюма. Піяры мусілі шукаць уласных крыніц утрымання. У чэрвені 1933 года прадалі 10,5 гектара належаўшай ім зямлі. Была яна - паводле данясення кс. Наперача - марнай якасці і ў дадатак адрэзана ад цэльнага маёнтка калегіюма. Пакупніком аказаўся настаўнік польскай мовы з Гандлёвай школы. Сума, атрыманая ад продажу, дасягнула 6500 зл[62]. Прыбытак прыносіла таксама пабудаваная восенню 1931 года цяпліца. Разбудавалі яе летам 1932 года. У студзені 1933 года дала яна ўжо прыбытак 1680 зл. Даход калегіюму прыносіў таксама добра дагледжаны сад, а таксама поле, якое было ўзорам для мясцовай люднасці[63].

Калегіюмам праз увесь міжваенны перыяд кіравалі тры рэктары. Першым з іх быў шматразова згаданы кс. Фердынанд Казлоўскі. Ён ажыццяўляў кіраванне з траўня 1926 года да чэрвеня 1931 года. Яго наступнікам стаў кс. Алойзы Наперач (ліпень 1931

---

[55] W. Abramowicz, dz. cyt., s. 2.
[56] Там жа, s. 32.
[57] Там жа, s. 32, 57, 62.
[58] Там жа, s. 28-29.
[59] Там жа, s. 29.
[60] Там жа, s. 35.
[61] Там жа, s. 42.
[62] Там жа, s. 39.
[63] Там жа, s. 30-31; W. Abramowicz, dz. cyt., s. 2.

года - лістапад 1935 года). Стаў ён рэктарам па прапанове ксендза правінцыяла Казлоўскага. Апошнім рэктарам ад восені 1935 года да выбуху II Сусветнай вайны быў кс. Клеменс Чабаноўскі[64]. Кіравалі яны справамі адміністрацыйнымі, фінансавымі і гаспадарчымі ўсяго калегіюма. Падпарадкоўваліся ім таксама школы, якія мелі, канешне так, як у выпадку Гандлёвай школы, дырэктара, ці ўсеагульнай - кіраўніка. Першым дырэктарам Гандлёвай школы - як згадвалася - стаў кс. Наперач - ад кастрычніка 1931 года. Перад заняццем ім гэтай пасады, школай нефармальна кіраваў кс. Казлоўскі, які ад верасня 1927 года праз увесь час побыту ў Лідзе быў кіраўніком усеагульнай школы. Ад 1934 года кс. Наперач кіраваў абедзвюмя школамі. У лістападзе 1935 года ён перастаў быць дырэктарам Гандлёвай школы, а ў снежні таго самага года быў адклікаты з пасады кіраўніка ўсеагульнай школы[65].

Цяжкасці, з якімі змагалася Гандлёвая школа, з'явіліся ад самага яе пачатку, а ў прынцыпе яшчэ перад яе ўзнікненнем, паколькі кс. Казлоўскі доўга вызначаўся адносна яе профілю. Спыніўся - пра што была мова раней - на трохгадовай школе. Падобна, як і школа ўсеагульная, мела яна фінансавыя цяжкасці. Былі таксама клопаты іншага характару, звязаныя з праграмай навучання. Моладзь, якая заканчвала трохкласную Гандлёвую школу, атрымлівала спецыяльнасць, але не атрымлівала поўнай сярэдняй адукацыі, якая дазваляла б паступаць на вучобу ва ўніверсітэт ці ў школу падхарунжых (вайсковую вучэльню). Таму дырэктар школы кс. Наперач стараўся атрымаць дазвол на даданне чацвёртага класа, які даваў бы магчымасць далейшага навучання ў вышэйшых навучальных установах.

Атрыманне канцэсіі на Гандлёвую школу з поўным сярэднім профілем не было лёгкім. Падняццю рангу школы ў Лідзе супраціўляўся начальнік Аддзела прафесійных школ Людвік Курчэўскі. Спрэчка вакол той справы так запісаў у *"Кроніцы аа. піяраў..."* кс. Наперач: *"У траўні 1932 года пайшоў на пенсію начальнік Аддзела прафесійных школ п. Людвік Курчэўскі. Ёк выказаўся быў раз, што пакуль ён будзе ў кураторыюме, то датуль піяры ў Лідзе не атрымаюць канцэсію на 4-ты клас Гандлёвай школы, якая б давала вучням поўную сярэднюю адукацыю"*[66]. Цяпер адыход яго на пенсію адкрыў дарогу для стараннаяў пра чацвёрты клас. Дырэктар школы нанава падаў просьбу аб канцэсіі. Куратар Казімір Шалягоўскі пазітыўна паставіўся да яе і даў 1 верасня 1932 года згоду[67]. Пашырэнне школы да чацвёртага класа пацягнула за сабой неабходнасць змены яе назвы. Рэкамендаваў гэта куратар Шалягоўскі ў лісце, якім надаваў канцэсію. Новая школа атрымала назву "Прыватная мужчынская 3-х класавая Гандлёвая школа з 4-тым класам каапэратыўнага кірунку ксяндзоў піяраў у Лідзе"[68]. У новы - чацвёрты клас - ад 1 верасня пайшло чатырнаццаць вучняў з сямнаццаці выпускнікоў трэцяга класа. Не ўсе працягнулі далейшую навуку ў Лідзе - напрыклад, двое паступіла ў Школу палітычных навук у Варшаве, а адзін перабраўся ў ліцэй у Быдгашчы[69]. Праз год - ад 22 траўня да 10 чэрвеня - адбыліся ў трэцім і першы раз у чацвёртым класе канцавыя экзамены.

Гандлёвую школу пакінулі дванаццаць выпускнікоў чацвёртага класа[70]. Задума айцоў піяраў, каб расшырыць Гандлёвую школу да чацвёртага класа, была без сумнення выключна трапная. Рашуча падняло гэта ранг школы. Пашырыла веды моладзі. Дало ёй магчымасць вучыцца ў вышэйшых навучальных установах, а таксама спрычынілася да павелічэння колькасці вучняў і шматкратна, параўнальна з годам адкрыцця трохгадовай школы - 1929, калі сюды запісалася іх трыццаць. Як вынікае з запісу ў *"Кроніцы ..."* у першы клас школы - ужо з новым профілем - запісалася ў 1933 годзе аж 93 вучні, ці ў тры разы больш, чым чатыры гады назад. Паводле школьнага загаду, які знаходзіцца ў архіве піяраў у Кракаве, распачаў навучанне толькі 81 вучань, дзесяці мусілі адмоіць. Большая колькасць моладзі, якая вучылася ў Гандлёвай школе, спрычынілася да большых прыбыткаў, дзякуючы чаму - пра што была мова раней - дэфіцыт школы паменшыўся блізка да напалову: з 21452 зл да 11095 зл[71].

На першы погляд добрая фінансавая каньюктура, якая вынікала з большай лічбы вучняў, нажаль не ўтрымалалася доўга. Ужо ўнаступным годзе намеціўся спад колькасці моладзі, якая прагнула вучыцца ў Гандлёвай школе. Аўтар *"Кронікі ..."* тлумачыць гэты факт малым зацікаўленнем мясцовага грамадства тым кірункам навучання, недастатковасці значэння *"выхавання на гандлёвай спецыяльнасці"*[72]. Несумненна, у тым выпадку мог адыграць значную ролю агульнадзяржаўны эканамічны крызіс, у выніку якога ў Лідзе і яе ваколіцах, таксама, як і ва ўсёй Польшчы, у грамадзян не хапала грошай. Нягледзячы на датацыі ў памеры 8000 зл сітуацыя пляцоўкі станавілася зноў цяжкай. Дырэкар школы кс. Наперач, шукаючы выйсця з цяжкага становішча, пачаў разглядаць магчымасць прыняцця ў школу дзяўчат. Меркаваў, што такім чынам зробіць Гандлёвую школу больш прывабнай для мясцовай супольнасці. Развaжанні яго не былі

[64] Там жа, s. 6, 23, 34, 49, 50.

[65] Там жа.

[66] Там жа, s. 31.

[67] Там жа.

[68] Там жа.

[69] Там жа, s. 33.

[70] Там жа, s. 38. Два найлепшыя выпускнікі - Станіслаў Петраш і Юзаф Нарушэвіч уступілі ў навіцыят піраў у Кракаве.

[71] Col. Lid. 3.

[72] *Kronika,* s. 46.

безпадстаўныя. У Лідзе не было сярэдняй школы, якая вучыла б адначасова спецыяльнасці, і ў якой вучыліся б дзяўчаты. Задума зрабіць з мужчынскай школы каэдукацыйную пляцоўку была добрая, але рэалізацыя яго вымагала шмат клопатаў і ўнесла вялікае замяшанне ў працу і жыццё кс. Наперача.

Уся справа распачалася найпраўдападобней у траўні 1934 года. У той час у калегіюм прыехаў са сваім асістэнтам генеральны візітатар ордэна - кс. Томас Гарыда. У Ліду прывяляла яго задума прыёму дзяўчат у Гандлёвую школу. Кс. Наперач выклаў праблему візітатару, які прыхільна паставіўся да той канцэпцыі. Канешне, Гарыда не мог прыняць канчатковага рашэння. Затое абяцаў прадставіць праект самому генералу ордэна кс. Джузепе дэль Буано. Праз тры месяцы, у жніўні, на рукі кс. правінцыяла Гераніма Стусінскага прыйшоў ліст, які дазваляў прымаць у Гандлёвую школу дзяўчат. Копію таго ліста кс. правінцыял пераслаў кс. Наперачу. Справа была пазітыўна вырашана. Лічба вучняў вырасла з 60 да 160. Моладзь ахвотна працавала разам, захопленая вельмі вялікай колькасцю гадзін вучобы[73]. Нягледзячы на добры ўзровень і задавальняльныя вынікі ў навуцы, задумай каэдукацыйнай школы не ўсе былі перакананы. Ад самага пачатку да прапановы дырэктара школы, кс. Наперача негатыўна буў настроены мясцовы дэкан - кс. Гіпаліт Баярунец, які пастаянна ствараў цяжкасці піярам. Кс. Наперач паказваў яму ліст з Рыма, які дазваляў на каэдукацыйную форму пляцоўкі. Нажаль, ксёндз дэкан не змяніў свайго стаўлення і ў канцы абвінаваціў дырэктара перад Віленскім арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім.

Ад гэтага моманту для кс. Наперача справы набылі кепскі ход. Перш за ўсё арцыбіскуп на сінадальным з’ездзе закрануў каэдукацыйную праблему, як прыклад падаючы Ліду. Прысутны на сінодзе апостальскі нунцый Францішак Мармагі - зацікаўлены тым - напісаў ліст у кангрэгацыю ў Рыме з пытаннем, ці сапраўды піяры ў Лідзе атрымалі канцэсію на ўтрыманне каэдукацыйнай школы[74]. Такім чынам справа трапіла ў Апостальскую Сталіцу, дзе даведаліся, што лідскія піяры вядуць каэдукацыйную школу. Абвешчаны пратэст генералу ордэна кс. Джузепе дэль Буано. Генерал нічога не ведаў пра каэдукацыйны эксперымент у Лідзе, паколькі, як аказалася, ні генеральны візітатар, ні яго асістэнт не паінфармавалі яго пра тое. Ліст, які прыйшоў з Рыма з дазволам на стварэнне каэдукацыйнай школы, быў высланы з ініцыятывы самога кс. Гарыды без ведама кс. дэль Буано[75].

Кс. Наперач, атрымаўшы згаданы ліст, не мог дапусціць, што не ведае пра яго генерал ордэна. Вінаватыя ва ўсім замяшанні былі кс. Гарыда і яго асістэнт. Удалося ім аднак абараніцца. Усю віну прыпісалі дырэктару школы. У якасці пакарання кс. Алойзы Наперач быў пазбаўлены пасады рэктара калегіюма і дырэктара Гандлёвай школы. Дадаткова на нявызначаны час пазбавілі яго дзейнага права і голасу ў ордэне. Звяртаўся пісьмова ў Рым, але адказу не атрымаў. На працягу ўсяго кастрычніка 1935 г. ён яшчэ выкладаў нямецкую мову. У снежні выехаў у Кракаў. Праз нейкі час выйшаў з ордэна[76].

Разам з адходам кс. Алойзы Наперача праблемы, звязаныя з каэдукацыяй не закончыліся. Пазіцыя генерала надалей была негатыўная. Гандлёвай школе пагражаў адход каля 150 дзяўчат, што спарадзіла б выключна цяжкае фінансавае становішча пляцоўкі. Для ратуну школы разглядаліся розныя варыянты выйсця з цяжкага становішча. Не маючы вялікага выбару - пад канец 1935 года - кс. правінцыял і нанава прызначаны рэктар кс. Клеменс Чабаноўскі вырашылі, што Гандлёвую школу належыць уступіць Хрысціянскаму таварыству купцоў у Лідзе, паколькі вядзенне адной мужчынскай сталася неаплатным - *“Гандлёвую мужчынскую школу нельга было ўтрымоўваць без сур’ёзнага дэфіцыту пры колькасці каля 80 вучняў, якія былі вельмі бедныя і не плацілі цалкам”*[77]. У студзені гэтую прапанову накіравалі Таварыству і другой арганізацыі - Таварыству асаднікаў. Абодва таварыствы ахотна згадзіліся на прапановы піяраў. Баяліся, як акрэсліў гэта аўтар “Кронікі...”, *“каб школы не аддаць у яўрэйскія рукі”*[78]. Да прыняцця школы адным з таварыстваў не дайшло. Прычына была простая. Ні адно з іх не валодала адпаведным памяшканнем, а будынкі калегіюма з відавочных прычын маглі служыць толькі мужчынскай школе. Таму праблема не была развязана.

З запісаў у “Кроніцы Калегіюма аа. піяраў” вынікае, што праз увесь 1935 і першыя тры месяцы 1936 года нічога не змянілася. У сакавіку 1936 года ў Ліду прыбыў міністэрскі візітатар прафесійнага школьніцтва, а таксама візітатар з Віленскага кураторыюма з мэтай прыняцця канкрэтнага рашэння ў справе кіравання Гандлёвай школай. Візітатары прэзентавалі пазіцыю, што школа павінна застацца ў руках ордэна з погляду на добрыя вынікі ў навучанні, таксама ўлічвалася велізарная праца, ўкладзеная піярамі. У выніку пляцоўка мела быць перададзена Хрысціянскаму таварыству купцоў, але такія памкненні не задавальнялі прадстаўнікоў адукацыйных уладаў[79].

Развязванне гэтай праблемы аказалася ў канцы простым. Кс. рэктар звярнуўся ў Рым з пытаннем, ці піяры ў Лідзе маглі б трымаць дзве гандлёвыя школы - адну для хлопцаў, а другую для дзяўчат. Просьбу тую пасля ўніклівага аналізу падтрымаў кс. правінцыял Стусінскі. Да ліста на адрас генерала дэль Буано далу-

[73] Там жа, s. 47.

[74] Там жа, s. 47-49.

[75] Там жа, s. 49.

[76] Там жа, s. 50. У *Kronicy* зайходзіцца прыпіска кс. Яна Інакенція Бубы - праводзіўшага візітацыю - у якой сцвярджаецца, што кс. Наперач выйшаў з Ордэна. Там жа, s. 60.

[77] Там жа, s. 51.

[78] Там жа, s. 52.

[79] Там жа.

чаны сітуацыйны план усяго калегіюма. Пасля азнаямлення з надасланымі з Польшчы матэрыяламі генерал выказаў згоду на заснаванне дзвюх школ з той агаворкай, што згоду павінен выразіць таксама Віленскі арцыбіскуп. Біскуп Ялбжыкоўскі пагадзіўся на такое развязванне, дзякуючы чаму Гандлёвая школа была ўратавана[80].

Падчас сакавіцкай візітацыі, дырэктару прапанаваліператварыць школу з Гандлёвага ліцэя ў Купецкую гімназію, павышаючы тым самым ранг пляцоўкі. Візітатары паставілі аднак умовы, што калегіюм мусіць дадаткова забяспечыць школу сучаснай працоўняй для заняткаў па таваразнаўству і купецтву[81]. Над неабходнасцю змены характару школы пастанавілі ўжо раней. З захаваных пратаколаў паседжанняў педагагічнай рады вынікае, што ўжо ў кастрычніку папярэдняга года тая праблема абгаворвалася. Настаўніцкі калектыў баяўся, што ў выпадку неправядзення рэарганізацыі, пляцоўка можа быць зліквідавана адукацыйнымі ўладамі[82]. Піяры, па ўсім відаць, выканалі пастаўленыя куратарыем умовы, паколькі візітатар Ян Ляховіч выразіў згоду на адкрыццё з 1 чэрвеня мужчынскай і жаночай Купецкіх гімназій. У той самы месяц адбыліся ўступныя экзамены ў абедзве школы, на якія запісаліся 120 хлопцаў і дзяўчат. Паспяхова экзамены здалі 100 вучняў і вучаніц, якія былі прынятыя ў першыя класы. Агульная колькасць моладзі ва ўсёй гімназіі дасягнула 250 вучняў і вучаніц. Прыём большай колькасці слухачоў вымагаў дадатковых класаў. Рэктар калегіюма ажыццявіў шмат змен. Перанёс м.ін. усеагульную школу ў кляштарныя будынкі, такім чынам адшукаў новыя памяшканні. Прыступіў да адаптацыі на патрэбы гімназіі мураванага будынка, прылеглага да касцёла. З пачатку верасня 1936 года распачалі будаўніцтва гімнастычнай залы і дадатковага паверха, прызначанага на жыллё для ксяндзоў. З той мэтай быў працягнуты ва ўсходні бок мураваны будынак мужчынскай гімназіі. Рамонтна-буданічыя работы ў калегіюме цягнуліся яшчэ шмат месяцаў. Яны вельмі дакладна апісаны ў *“Кроніцы аа. піяраў”*[83].

Каб выканаць усялякія фармальнасці, звязаныя з перайменаваннем ліцэя ў гімназію, школьныя ўлады падрыхтавалі статут для новай школы. Падрыхтоўкай яго займаўся дырэктар Генрык Жалігоўскі, пры ўдзеле сакратара школы Юзафа Мамчыца. Тэкст статута пераслалі ў куратарыюм у Вільні для яго зацвярджэння. Нажаль, няма запісу ў *“Кроніцы...”*, ці так сталася. Можна аднак меркаваць, што статут зацвердзілі, паколькі пад датай 24 - 28 лістапада 1936 года запісана ў *“Кроніцы ...”* інфармацыя пра інспекцыю візітатара з куратарыя - Яна Ляховіча, які з вялікім прызнаннем выказваўся пра працу дырэктара Жалігоўскага[84].

У архіве піяраў у Кракаве захаваліся асобнікі двух статутаў як для мужчынскай, так і для жаночай гімназіі. Змест іхні аднолькавы. Датаваны яны 1939 годам. Узорам для іх быў ранейшы статут з канца 1936 года. Падкрэслены ў іх перш за ўсё мэты школ, а таксама ўмовы праўна - адміністрацыйныя. Так ўладальнікамі школ з'яўляюцца ксяндзы піяры. Гімназія мае сваю сядзібу ў калегіюме пры вул. Сувальскай, 68. Першапланавай мэтай абедзвюх пляцовак - што падкрэслена адразу ва ўступе - ёсць *“... выхаванне і навучанне моладзі на ўлюбёных у сваю прафесію, старанных і сумленных працаўнікоў, усвядомленых у сваіх абавязках, і творчых грамадзян Рэчы Паспалітай, якія б побач з практычнай прафесійнай падрыхтоўкай атрымлівалі б адпаведны аб'ём ведаў тэарэтычна-навуковых і агульных, неабходных для выканання абавязкаў у рознічным і аптовым гандлі, а таксама ў гандлёвых справах іншых гаспадарчых прадпрыемстваў”*. Далей чытаем: *“Гімназія супрацоўнічае са структурамі гаспадарчымі і грамадскімі над павышэннем прафесійнай культуры купецтва, над захаваннем і памнажэннем гаспадарчага і культурнага даробку рэгіёна. Гімназіі прызначаны для моладзі абоега полу, польскай нацыянальнасці, без розніцы вызнанняў. Навучанне ў кожным класе гімназіі вядзецца ў двух аддзелах - мужчынскім і жаночым. Увесь курс ахоплівае 4 гады і падзелены на перыяды, згодна з распараджэннем школьных уладаў”*. Каб пазбегнуць клопатаў з падвойнымі назвамі школаў, вырашана - што запісана ў статутах - прыняць назву “Прыватныя мужчынская і жаночая гімназіі Купецкага калегіюма ксяндзоў піяраў у Лідзе”[85]. Статут гімназіі паказвае, што піяры імкнуліся мець сучасную школу, якая дае грунтоўную падрыхтоўку моладзі, што пакідае яе муры.

Праграма навучання была абшырная. З захаванага ў кракаўскім архіве тыднёвага плана прадметаў відаць, што выкладаныя ў школе прадметы мелі рознародны характар. Паказвае гэта змешчаная табліца, якая прадстаўляе прадметы, выкладаныя ў лідскай гімназіі, і іхняя штотыднёвая колькасць гадзін. Выпіска гэтая паходзіць з сярэдзіны 30-х гадоў[86].

Прадметы, якія выкладаліся ў гімназіі, можна падзяліць на чатыры групы. Першую групу складалі прадметы, звязаныя з тэхнікай гандлю, таварамі і рын-

[80] Там жа, s. 53-54.

[81] Там жа, s. 52.

[82] *Кніга пратаколаў паседжанняў педагагічнай рады Прыватнай 3-класнай гандлёвай школы з 4-м спецыяльным класам каапературыўнага кірунку Калегіюма кскс. піяраў у Лідзе.* Запіс ад 26.Х.1935 г., s. 213, Col. Lid. 44.

[83] Там жа, s. 55.

[84] Там жа, s. 55, 59.

[85] Далучаная цытата паходзіць са Статута Прыватнай жаночай купецкай гімназіі ксяндзоў піяраў у Лідзе - архіўная сігнатура Col. Lid. 22. Тэкст статута мужчынскай гімназіі ідэнтычны - syg. arch. Col. Lid. 20. У статуце таксама парушаны асновы прыёму моладзі. Абавязковым ёсць прадстаўленне пасведчання аб заканчэнні шасці класаў усеагульнай школы. Кандыдат мусіць мець закончаныя 13 гадоў, але не больш за 17. У наступнай частцы акрэслены асновы экзаменаў, ужывання падручнікаў, а таксама асновы заключэння і разрыву дамоваў з дырэктарам і персаналам школы.

[86] Col. Lid. 30, 32.

| Прадмет | Клас | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | |
| Рэлігія | 2 | 2 | 2 | 2 | 8 |
| Польская мова | 4 | 3 | 3 | 4 | 14 |
| Нямецкая мова з карэспандэнцыяй | 4 | 3 | 3 | 3 | 13 |
| Гісторыя | 3 | 3 | 3 | - | 9 |
| Матэматыка | 3 | 3 | 2 | 1 | 9 |
| Гандлёвая арыфметыка | 2 | 3 | 3 | - | 8 |
| Бухгалтэрыя і справаводства | 3 | 3 | 4 | 3 | 13 |
| Карэспандэнцыя (перапіска) | - | 2 | 2 | - | 4 |
| Навука аб гандлі | 2 | 2 | 2 | - | 6 |
| Гаспадарчая геаграфія: агульная, спецыяльная і Польшчы | 2 | 2 | 1 | - | 5 |
| Фізіка, хімія, тавараздаўства | 4 | 2 | 3 | - | 9 |
| Анатомія і гігіена | - | - | - | 1 | 1 |
| Стэнаграфія | - | 2 | 2 | 1 | 5 |
| Каліграфія | 2 | 1 | - | - | 3 |
| Фізічная культура | 2 | 2 | 2 | 2 | 8 |
| Грамадазнаўства | - | - | - | 2 | 2 |
| Арганізацыя канцылярскай працы і прадажаў | - | - | - | 2 | 2 |
| Навука аб рэкламе | - | - | - | 2 | 2 |
| Палітычная эканомія і эканамічная палітыка | - | - | - | 4 | 4 |
| Дзяржаўныя фінансы | - | - | - | 2 | 2 |
| Правазнаўства | - | - | - | 4 | 4 |
| Кааперацыя | - | - | - | 3 | 3 |
| Разам | 33 | 33 | 32 | 36 | 134 |

кам, напр., навука аб гандлі ці навука аб рэкламе. Да другой належыць залічыць прадметы, якія рыхтуюць моладзь да канторскай працы, напр., арганізацыя офіснай працы, стэнаграфія, бухгалтэрыя, карэспандэнцыя, а таксама каліграфія. Трэцюю групу складалі прадметы агульнагаспадарчага характару, напр., палітычная эканомія ці гаспадарчая геаграфія. Апошнюю - чацвёртую групу - складалі агульнаадукацыйныя прадметы: польская мова, нямецкая мова, гісторыя, грамадазнаўства, правазнаўства ці анатомія і гігіена. З ведамасці вынікае, што агульнаадукацыйныя прадметы займалі палову ўсіх лекцыйных гадзін. Прадметы прафесійнага профілю рыхтавалі моладзь не толькі ў вобласці гандлю, але рыхтавалі іх да працы канторскай. Дбалі таксама пра фізічнае развіццё моладзі на двухгадзінных занятках штотыдзень. Дадаткова па-за ўрокамі ў I і II класах на працягу шасці тыдняў у памеры дзвюх гадзін на тыдзень праводзіўся курс друкавання на машынцы. За машынкі Гандлёвая школа пастаралася ў 1931 годзе. Купілі тады пяць друкарскіх машынак за няздробную суму ў 4335 зл. Пакупку зрабілі ў растэрміноўку, за штомесячныя выплаты на працягу трох гадоў[87].

Акрамя прадстаўленага пераліку прадметаў у архіве захавалася Дэтальная праграма на 26 старонак. У ёй вельмі дакладна прадстаўлены праграмы прадметаў у асобных класах. На пачатку апісання кожнага прадмета была выдзелена мэта яго вывучэння. І так напр., на ўроках рэлігіі ў першым класе моладзі знаёмілі з літургіяй. У другім класе - з гісторыяй каталіцкага касцёла, у трэцім - з дагматыкай, а ў чацвёртым - з этыкай. На ўроках польскай мовы за адну з мэтаў ставілася: *"Аказанне адпаведнага выхаваўчага ўплыву, пад'ём агульнага ўзроўню адукацыі і набліжэнне моладзі да сучаснай польскай культуры праз прачытанне пэўнай колькасці найважнейшых твораў нашага пісьменства ў XIX - XX ст., вывучэнне дзейнасці аўтараў на фоне эпохі, у якой жылі, адчуванне і разуменне прыгажосці іхніх твораў, прасякненне іхнімі нацыянальнымі і агульначалавечымі ідэаламі".*

Аўтары праграмы змясцілі пераліку абавязковых і дадатковых твораў для асобных класаў. Аказаліся ў іх творы, у т.л. Каханоўскага, Міцкевіча, Славацкага, Крашэўскага, Канапніцкай, Пруса, Сянкевіча, Ажэшкі, Жаромскага, Рэйманта, Тэтмаера, а таксама Пятра Скаргі, Светахоўскага і Юзафа Пілсудскага з тэкстам "Мае першыя баі". З замежных аўтараў называлі: Шэкспіра, Сервантэса, Дэфо, Скота, Дзікенса, Кіплінга, Аміцыса ці Конрада[88].

Мэта навучання гісторыі таксама была акрэслена ў Дэтальнай праграме. Гісторыя мела за заданне: *"... пазнаёміць вучняў з чалавекам, чалавечай творчасцю і чалавечымі стасункамі ў часе і прасторы, павінна ўзбуджаць зацікаўленасць справамі агульначалавечымі і нацыянальнымі, выхаваць чалавека і грамадзяніна"* [89]. У I класе моладзь мела пазнаёміцца з гісторыяй, пачынаючы ад старажытных цывілізацый: у т.л. Егіпта, Вавілона, Афінаў, Рыма, праз сярэднія вякі, аж да XV стагоддзя. Праграма ахоплівала як усеагульную гісторыю, так і гісторыю Польшчы. У II класе абавязвалася знаёміць з гісторыяй новага часу, пачынаючы ад вялікіх геаграфічных адкрыццяў і заканчваючы падзеннем Напалеона I і Венскім кангрэсам. У апршні год - г.зн. у III класе - матэрыял датычыў гісторыі Еўропы пасля Венскага кангрэсу, з асаблівым падкрэсліваннем гісторыі і культуры Польшчы. Праграма сягала аж па час сакавіцкай канстытуцыі 1921 года[90].

З прафесійных прадметаў мэтай напр. навукі аб гандлі было: *"знаёмства вучня з арганізацыяй і*

[87] *Kronika,* s. 24.

[88] Col. Lid. 31, s. 3-6.

[89] Там жа, s. 8.

[90] У праграме звернута асаблівая ўвага на значэнне нацыянальных паўстанняў, на ролю, якую адыграла пасляпаўстанцкая эміграцыя, а таксама на польскую справу ў I Сусветнай вайне. Падкрэслена таксама значэнне Познаньшчыны для развіцця польскай культуры і гаспадаркі. З усеагульных падзей выдзелена рэвалюцыя ў Італіі і ўзнікненне італьянскай дзяржавы, рэвалюцыя ў Германіі, а таксама прычыны і ход I вайны. Там жа, s. 8-10.

*тэхнікай вядзення гандлю, а таксама тых найбольшых інстытуцый і ўстаноў, якімі гандаль карыстаецца або ад якіх залежыць"* [91]. На ўроках кааперацыі - праводзімых толькі ў чацвёртым класе - вучні вывучалі генезіс кааператыўнага руху ў яго align рознародных формах[92]. Заняткі па гандлёвай карэспандэнцыі мелі вучыць: *"... бегласці ў напісанні гандлёвых лістоў з погляду на чысціню роднай мовы і правільнасць стылю"* [93].

Заняткі з назвай "грамадзянская навука" (грамадазнаўства) праводзілі толькі ў IV класе. Яны ўяўлялі сабой дапаўненне матэрыялу па гісторыі з III класа. Сярод пытанняў, якімі займаліся на тых уроках, цікавымі падаюцца такія праблемы, як: класавая дзяржава, абсалютысцкая дзяржава, дактрына Русо, рэферэндум, англійскі парламентарызм, а таксама дыктатура адной асобы, дыктатура класа, а ў дадатак дапісана: "бальшавізм". Моладзь задумвалася таксама над тэмамі ўсеагульных грамадзянскіх абавязкаў і правоў, тэратарыяльнага і гаспадарчага самакіравання ў Польшчы, сацыяльным правам, грамадскімі гарантыямі, гісторыяй таварыстваў і арганізацый, а таксама прафесійным рухам[94].

Дэталёвая праграма навучання абавязвала як вучняў, так і настаўнікаў. На выкладчыцкія кадры дырэктыўна накладвалі дадатковыя абавязкі, якія надавалі ўласцівы кірунак выхаваўчай і адукацыйнай працы. Чытаем у гэтай праграме - пункт 2: *"На пачатку кожнага школьнага года павінен быць апрацаваны, найпазней у двухтыднёвы тэрмін ад дня пачатку заняткаў гадавы план выканання праграмы канкрэтных прадметаў"*, пункт 3: *"Навучанне галоўным чынам павінна абапірацца на працу ў школе, беручы пад увагу, што дамашняя праца вучня, якая, наколькі гэта можна не павінна займаць у яго звыш 2 гадзін штодзённа, служыць пераважна для замацавання ведаў, набытых падчас працы ў школе"*; пункт 5: *"З мэтай пад'ёму эфектыўнасці навучання павінны быць як найшырэй выкарыстаны школьныя ... бібліятэкі, зборы навуковых дапаможнікаў, кабінеты, лабараторыя, майстэрня, варштаты"*; пункт 6: *"Навучанне не можа мець характар выключна лекцыйны, а павінна прадугледжваць мажлівы найактыўнейшы ўдзел вучня пры выкладанні настаўнікам тэмы ўрока"* [95].

Пасля аналізу як дэталёвай праграмы, так і агульных дырэктыў для выкладчыкаў, прыходзім да высновы, што навучанне ў Гандлёвай школе было на добрым узроўні. Падобны ўзровень давала ўсеагульная школа. У *"Кроніцы калегіюма аа. піяраў"* занатаваны візітацыі (інспекцыі) адукацыйных уладаў. Адзнакі візітатараў (інспектараў) заўсёды былі пазітыўныя. Назваць можна напр. інспекцыю ад 25 кастрычніка 1935 года, праведзеную па даручэнні куратoрыя інспектарам прафесійнага школьніцтва Янам Ляховічам, які выставіў Гандлёвай школе пазітыўную адзнаку[96]. Несумненна, добры ўзровень навучання школа ўтрымлівала, дзякуючы настаўніцкім кадрам. Добра кіраваў установай і выкладаў нямецкую мову кс. Наперач. У працы дырэктарам школы вызначыўся таксама Генрык Жалігоўскі. Заслугі яго перад школай адзначыў інспектар Ляховіч пры аказіі чарговай інспекцыі ўстановы[97].

У *"Кроніцы..."* быў занатаваны спісак выкладчыкаў, якія выкладалі ў школе ў 1938/1939 школьным годзе: польскую мову вучыў Люцыян Брыльскі, таваразнаўства - Эдвард Ілінскі, нямецкую мову - Эдвард Зімінскі, стэнаграфію, рэкламу - Эдмунд Круляс, гімнастыку - Казімір Млынарскі, гісторыю - Ізабэла Рус, арганізацыб тэхнікі гандлю - Яўгенія Багуцкая, бухгалтэрыю - Яніна Камар, гаспадарку - Зофія Воўніч[98]. Нягледзячы на вялікую цякучку кадраў, піяры дбалі аб прыёме на працу - у меру сваіх магчымасцяў - добрых выкладчыкаў. Вельмі добра паказвае гэта наступны прыклад. У сярэдзіне 1932 года, калі тагачасны выкладчык бухгалтэрыі - Аляксандр Умястоўскі, будучы адначасова дырэктарам Народнага банка ў Лідзе, звольніўся з пасады выкладчыка і пераехаў у Вільню, ні адзін з выкладчыкаў, ужо занятых у школе, не ўзяўся весці гэты прадмет з-за недахопу адпаведнай кваліфікацыі. Таксама ніхто з жыхароў Ліды не пачуваўся ў сілах, каб выкладаць бухгалтэрыю. Адзіным чалавекам, які хацеў і мог весці гэты прадмет, быў яўрэй - Даніэль Вінаградаў. Ён сам звярнуўся да дырэктара школы - кс. Наперача, прадставіўшы сваю кваліфікацыю - дыплом Вышэйшай гандлёвай школы ў Кракаве, а паколькі не зажадаў лішне высокага ганарару, быў адразу прыняты. Куратoрыюм таксама на яго згадзіўся. Хутка выдзеліўся сваімі здольнасцямі, а моладзь яго палюбіла. Несумненна, галоўнай прычынай прыняцця на працу Вінаградава была патрэба знайсці добрага спецыяліста, а таксама - як гэта было акрэслена ў *"Кроніцы..."* *"жаданне пазбавіцца канку-*

[91] У І класе краналіся наступныя тэмы: *тавар, вексель, перавод, чэк, акрэдытыў, каштоўныя паперы, купец і яго памочнікі, гандлёвае прадпрымальніцтва.* Там жа, s. 15.

[92] Там жа, s. 21.

[93] Там жа, s. 14.

[94] Там жа, s. 23.

[95] Col. Lid. 29.

[96] *Kronika,* s. 51.

[97] Там жа, s. 59.

[98] Там жа, s. 65. У лістападзе 1938 г. адбыліся выбары ў Сойм, у які па спіску Нацыянальна-радыкальнага лагера быў выбраны Люцыян Брыльскі. У сувязі з новымі абавязкамі пасла ён мусіў сысці з пасады настаўніка. На яго месца прынялі новага паланіста Зянона Познера. Там жа, s. 66. У піярскім архіве захаваліся персанальныя акты настаўнікаў. Апрача такіх дадзеных, як прозвішча, імёны, дата і месца нараджэння, вызнанне, сямейны стан, знаходзілася інфармацыя пра адукацыю і ход прафесійнай працы - акрэслены як "настаўніцкая служба" і адносіны да вайсковай службы. Існавала таксама рубрыка, якая ўтрымоўвала ацэнку працы дадзенага настаўніка. Col. Lid. 42.

*рэнцыі"*. Заўвага тая датычыць ліцэнзіі, якая дазваляла Вінаградаву весці ўласныя бухгалтарскія курсы. Была таксама яшчэ адна вельмі істотная нагода, а менавіта, піяры лічылі, што нельга замыкаць дзверы перад нацыянальнымі меншасцямі. Палажэнне гэтае датычыла - канешне - і вучняў. Як ўжо ўспаміналася раней - 1/3 навучэнцаў Гандлёвай школы складала моладзь майсеевага вызнання. Тэндэцыя гэтая ўтрымалася да выбуху II Сусветнай вайны[99].

Дасягненні дырэктара Купецкай гімназіі не засталіся па-за ўвагай адукацыйных уладаў. 11 лістапада 1938 года наваградскі ваявода - Адам Сакалоўскі - правёў цырымонію ўзнагароджання Генрыка Жалігоўскага Залатым крыжам заслугі - нададзеным яшчэ ў верасні - за заслугі ў арганізацыі прафесійнага школьніцтва[100]. Несумненна, было гэта вельмі вялікім прызнаннем для Жалігоўскага, як і для ўсёй школы. Варта ў гэтым месцы згадаць, што ў Гандлёвай школе ў Лідзе адбывалася шмат урачыстасцяў узнёслага характару. З аказіі выдачы першых гандлёвых атэстатаў аб сярэдняй адукацыі 26 чэрвеня 1936 года адбылося ўручэнне і асвячэнне нанава ўфундаванага штандара школы. Асвячэнне правёў кс. канонік Кароль Любянец. Ва ўрачыстасці ўзяла ўдзел уся грамадскасць горада, а таксама шматлікія госці, сярод якіх можна назваць асістэнта кс. правінцыяла - кс. Станіслава Папроцкага, дырэктара гандлёвых школ з Вільні - Барановіча, а таксама прадстаўніка куратарыюма - інспектара Яна Ажынскага[101].

Сярод важных школьных урачыстасцяў трэба назваць урачыстае адкрыццё памятнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту (8 траўня 1938 г.). Устанавілі яе на сродкі грамадскасці Лідчыны[102]. Дошку ўмуравалі ў франтонную сцяну піярскага касцёла. Была гэта цырымонія для ўсяго калегіюма. Узяла ў ёй удзел таксама школьная моладзь. З Кракава прыбыў на яе правінцыял кс. Геранім Стусінскі ў таварыстве асістэнта польскай правінцыі кс. Банавентуры Кадэі, а таксама кс. Людвіка Руска, рэктара калегіюма ў Кракаве. Прысутнічаў на ўрачыстасці таксама віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Дзяржаўную ўладу рэпрэзентаваў наваградскі ваявода Адам Сакалоўскі, а таксама лідскі стараста Гансоўскі (Гусоўскі)[103].

У красавіку 1939 года Ліда адзначыла дваццатыя ўгодкі вызвалення з-пад улады савецкай Расіі. З той аказіі ў нядзелю, 19 красавіка, польскае радыё зрабіла з Ліды спецыяльную перадачу. Імправізаваную студыю падрыхтавалі ў гімнастычнай зале Купецкай гімназіі, адкуль раніцай уся Польшча пачула пра гісторыю лідскіх піяраў. Прамову перад мікрафонамі сказаў дырэктар школы Генрык Жалігоўскі. З касцёла піяраў таксама транслявалася імша[104].

Праз месяц у гмаху школы адбылася канферэнцыя настаўнікаў купецкіх гімназій Віленскай і Берасцейскай акруг. Прыбыло на яе амаль 500 чалавек. Адбыліся паказальныя ўрокі, у т.л. прафесара Ілінскага па таваразнаўстве і Багуцкага па арганізацыі і тэхніцы гандлю. З адукацыйных уладаў удзел узяў інспектар Ляховіч і былы начальнік Аддзела прафесійных школ Курчэўскі[105].

Канікулы 1939 года, нягледзячы на пагрозу вайны, прайшлі ў лідскім калегіюме спакойна ў падрыхтоўцы да новага школьнага года. Пад канец жніўня пачалі вяртацца з адпачынкаў настаўнікі Купецкай гімназіі. Уступныя экзамены адбыліся 28 і 29 жніўня[106]. У калегіюм прыбылі новыя ксяндзы, сярод іх кс. Каласанты Станіслаў Роек. Прыехаў з Кракава, дзе закончыў факультэт паланістыкі. Заняў пасаду прэфекта ў гімназіі[107].

На заканчэнне прэзентацыі гісторыі Лідскага

---

[99] Д. Вінаградаў стаў вядомым як вельмі добры настаўнік. Не абышлося без пэўных камплікацый. Калі яго прымалі ў школу, згадзіўся на нізкую зарплату. Тлумачыў, што ідзецца пра працу, а не пра грошы, паколькі мае ўласную, з добрымі перспектывамі фірму. Пры пастаянных фінансавых цяжкасцях школы такое рашэнне было ідэальным. Аднак, калі пераканаўся, што ёсць любімы, цэнены і патрэбны, папрасіў пра вялікую падвышку зарплаты. Стварыла гэта клопат дырэктару, але мусіў на гэта пайсці. Павялічыў толькі Вінаградаву колькасць гадзін на тыдзень. Там жа, s. 26-27.

[100] Там жа, s. 66.

[101] Новы штандар быў залатога і зялёнага колеру з надпісам "Krolowo Szkol Poboznych". Выгафтаваны быў таксама герб Пабожных школ, а таксама дзяржаўны герб, два гандлёвыя гербы і год заснавання школы 1929. Хрышчонымі бацькамі штандара былі: куратар Казімір Шалягоўскі, Зоф'я Слівінская - жонка палкоўніка, камандзіра 77 пп і лідскі стараста Генрык Багаткоўскі. Там жа, s. 25-26.

[102] З гэтай мэтай быў заснаваны Юбілейны камітэт ушанавання Людвіка Нарбута. У часопісе "Ziemia Lidzka" з'явілася некалькі артыкулаў, прысвечаных падрыхтоўцы да гэтай урачыстасці, яе правядзенню. Кошты, звязаныя з умураваннем дошкі перавысілі 1500 зл - суму гэтую цалкам пакрылі са складак. *Tylko z godnoscia, panowie.* "Ziemia Lidzka" 1937, nr 4, s. 37; *Uroczystosci w 75-lecie powstania styczniowogo w Lidzie.* Там жа, 1938, nr 5-6, s. 82-83.

[103] Дошка, прысвечаная Л. Нарбуту перажыла гады вайны і камунізму, была знята толькі 17 чэрвеня 1996 года рашэннем настаяцеля новапаўсталай праваслаўнай парафіі, сядзібай якой стаўся былы касцёл аа. піяраў у Лідзе. *Kronika Ziemi Lidzkiej i Nowogrodczyny*, "Ziemia Lidzka" 1996, nr 21-22, s. 2. У 2013 годзе да 150-х угодкаў студзеньскага паўстання дошка была ўстаноўлена асобнай стэлай каля новага піярскага касцёла на імя Юзафа Каласантага ў лідскім мікрараёне Індустрыяльны. (*Рэд.*)

[104] *Kronika,* s. 68.

[105] Гэты з'езд быў апісаны ў "Кур'еры Віленскім". *Kronika,* s. 64.

[106] Там жа, s. 72.

[107] Кс. К. J. Роек звязаўся з Лідай на блізка 60 гадоў. Не пакінуў касцёла і вернікаў, ані калі выбухнула вайна, ані пасля яе, калі пачаліся цяжкія часы. Вельмі часта быў адзінай апорай для палякаў, якія страцілі сваю Айчыну, як і ўсёй каталіцкай супольнасці Лідчыны. Памёр у кастрычніку 1996 г. I. Stasiewicz-Jasiukowa: *O Ksiedzu Stanislawu Rojku Sch. P. wspomnienie serdeczne*. "Ziemia Lidzka" 1996, nr 21-22, s. 6-7 і A. Wrobiel: *Powrot Pijarow...*, Там жа, s. 9.



***Выкладчыкі і вучні Гандлёвай школы кскс. піяраў у Лідзе***

калегіюма належыць успомніць пра яго лёсы пасля выбуху II Сусветнай вайны. У першы дзень вайны над Лідай з'явіліся нямецкія самалёты. Аўтар *"Кронікі..."* занатаваў страты сярод цывільнай люднасці. Занатаваў таксама, што змагаецца Вастэрплятэ, Гэль і бароніцца Варшава. Апісаў таксама, што на палітычную арэну ўступіла савецкая Расія. Ліду савецкія войскі занялі 19 верасня: *"Дзень быў пануры. З раніцы ішоў дождж. Раз'яснілася добра ў поўдзень, калі ўва-ходзілі войскі Чырвонай Арміі"* [108].

11 кастрычніка ў канцылярыі школы з'явіўся камісар па справах школьніцтва - Казлоў. Ён паінфармаваў, што Купецкая гімназія будзе нацыяналізавана, плата за вучобу адмяняецца, а зарплату настаўнікам будзе выплачваць савецкая дзяржава. Прызначылі адміністратара школы. Пад канец кастрычніка Купецкую гімназію перафармавалі ў гімназію агульнаадукацыйную. Частку настаўнікаў звольнілі. Прызначылі новага дырэктара школы. Дырэктар Генрык Жалігоўскі загадзя выехаў з Ліды. На пачатку снежня пачалі кружыць пагалоскі пра прымусовае высяленне піяраў. Выклікалі яны агульнае прыгнечанне. 14 снежня кожны з ксяндзоў атрымаў загад пакінуць памяшканне на працягу 24 гадзін. Так закончылася *"Кроніка Калегіюма аа. піяраў"*: *"Нашая лідская пляцоўка трымалася найдаўжэй у поўным камплекце, як Вэстарплятэ. Пасля Шчучына, Любяшова прыйшла чарга на нас. Але гэта нічога, ператрываем, не паддамося. І вернемся назад"*[109].

*Пераклад Станіслава Судніка.*

[108] *Kronika,* s. 77.
[109] Там жа, s. 80, 85-86.

***Леанід Лаўрэш***

# Амброзі Кастравіцкі

Амброзі Самуэль Кастравіцкі, пра якога пойдзе размова, належаў да шляхецкага роду Кастравіцкіх гербу "Байбуза", прадстаўнікі якога займалі розныя земскія пасады ў Менскім ваяводстве ВКЛ і Менскім павеце Менскай губерні. З гэтага роду паходзіць знакаміты французскі паэт Гіём Апалінэр.

Бацька братоў Амброзія і Казіміра (Каруся Каганца) Кастравіцкіх, Караль Кастравіцкі прыняў удзел у паўстанні 1863 г. Яго маёнтак Вялікія Навасёлкі на Меншчыне быў канфіскаваны, а сям'я саслана ў Сібір. Караль Кастравіцкі, сын Самуэля (1819-1873), пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску[1]. Маці - Гелена са Свентаржэцкіх, дачка Тадэвуша. Па лініі маці Амброзі Кастравіцкі быў блізкім сваяком іншага Баляслава Свентаржэцкага (1831-1888) - кіраўніка паўстання 1863 г. у Ігуменскім павеце Менскай губерні. Акрамя таго, Кастравіцкія мелі блізкія сваяцкія сувязі з многімі шляхецкімі сем'ямі Меншчыны - Ваньковічамі, Вайніловічамі, Прушынскімі, Оштарпамі, Янішэўскімі і іншымі.

Сын Караля Кастравіцкага - Амброзі Самуэль Кастравіцкі - нарадзіўся ў 1871 г. у Цывінску, што ў Сібіры, падчас вяртання сям'і з ссылкі. Скончыў гімназію ў Пецярбургу і ў 1897 г. - медыцынскае аддзяленне Маскоўскага ўніверсітэта[2]. У канцы 1890-х гг., разам з Амрозіем у Маскве вучыўся Антон Лявіцкі (будучы празаік Ядвігін Ш.) і шмат іншай беларускай моладзі[3].




***Студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Амброзі Самуэль Кастравіцкі, брат Каруся Каганца***

Малодшы брат жонкі Амброзія Кастравіцкага Марыі з Багушэўскіх - Сцяпан Багушэўскі - вучыўся ў Ягелонскім Кракаўскім універсітэце і часта гасцяваў у сястры і швагра ў Лідзе. Менавіта ў Лідзе, летам 1903 г. Вацлаў Іваноўскі схіліў Багушэўскага да ўдзелу ў новай выдавецкай задуме: выпуску беларускіх кніжак у Кракаве, горадзе, які ў той час знаходзіўся ў Аўстра-Венгрыі. Багушэўскі ў сваю чаргу прыцягнуў да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў гімназічнага навучання ў Менску Мар'яна Фальскага, студэнта Варшаўскай політэхнікі[4].

З Амрозіем Кастравіцкім Вацлаў Іваноўскі пазнаёміўся праз яго швагра - Сцяпана Багушэўскага, які разам з Іваноўскім займаўся беларускімі выдавецкімі справамі[5]. А з Казімірам Кастравіцкім (Карусь Каганец) Іваноўскі пазнаёміўся ў яго брата, лекара Амброзія, які ў 1901 г. жыў і працаваў у Лідзе. Вацлаў пасябраваў з абодвума і неўзабаве намовіў іх заняцца беларускай выдавецкай дзейнасцю, першага - як аўтара, другога - як фінансавага спонсара. Абодва Кастравіцкія ўваходзілі ў суполку "Круг беларускай народнай прасветы і культуры", створаную Іваноўскім[6].

Сярод іншых выданняў у 1904 г. "Круг ... " выдаў зборнік "Казкі" [7]. Гісторык Юры Туронак лічыў, што выданне зборніка "Казкі" было падрыхтавана да друку Казімірам, а фінансавалася яго братам, Амброзіем Кастравіцкім, чые ініцыялы "А. К." апынуліся на тытульным аркушы кніжкі. "Казкі" па сутнасці, былі передрукоўкай некаторых народных твораў, сабраных

[1] Сакалоўская А. С. Кальварыя. Мінск, 1997. С. 90.
[2] Туронак Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2008. С. 253.
[3] Там жа. С. 27.
[4] Там жа. С. 49.
[5] Там жа. С. 20.
[6] Там жа. С. 47.
[7] Там жа. С. 48.

расейскім этнографам П. В. Шэйнам[8].

Амброзія Кастравіцкага няма ў адрас-календарах пачатку XX ст. Віленскай губерні, таму можна зрабіць выснову, што ён займаўся ў Лідзе прыватнай лекарскай практыкай.

Акрамя працы цікавіўся ён і грамадскай дзейнасцю. У сувязі з выбарамі ў Дзяржаўную думу Расіі віленская газета "Кур'ер Літоўскі" падрабязна расказвала пра стварэнне "Звязу землеўладальнікаў" Лідскага павета. 15 студзеня адбыўся агульны сход, на які акрамя землеўладальнікаў, з маёнткаў былі запрошаны і прадстаўнікі ад парабкаў *"для рашэння пытання пра паляпшэнне побыту сельскіх працаўнікоў з улікам інтарэсаў гаспадароў. Прэзідэнтам камітэта "Звязу землеўладальнікаў" выбраны Вітольд Даўкша, віцапрэзідэнтам - Уладзімір Ятаўт, сакратаром - А. Кастравіцкі"* [9]. Як бачым, у 1906 г. Амброзі Кастравіцкі жыў ў Лідзе.

Вядома, што ў перыяд 1901-1920 гг. Амброзі Кастравіцкі акрамя Ліды працаваў лекарам у Менску і Свянцянах. Менавіта ў Менску ў 1908 г. нарадзіўся сын Даніэль[10].

Амброзі Кастравіцкі ў 1916-1917 гг. удзельнічаў у менскім аддзеле Камітэта дапамогі ахвярам вайны. Пра яго дзейнасць у гэты час у Менску, мы даведваемся з успамінаў і лістоў Зоські Верас. Ва ўспамінах "Праца ў таварыстве помачы ахвярам вайны і дзіцячых прытулках" яна пісала: *"У той час прыехаў у Менск вайсковы доктар Кастравіцкі - брат Каганца. Ён арганізаваў для калоніі аптэчку і даў мне шмат цэнных парадаў, як сабе радзіць у выпадку хваробаў у дзяцей"*[11]. А таксама: *"Сходы, дэбаты Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый ішлі па-старому. Пакрысе прыбывалі новыя людзі. Ну, не зусім новыя, але тыя, што толькі прыехалі, або толькі цяпер змаглі працаваць. Да такіх належалі Тодар Вернікоўскі і вайсковы др. Кастравіцкі - брат Каганца. Высокі, з сівеючай барадой, часта прыводзіў з сабой сыноў-гімназістаў"*[12].

У лісце ад 17 ліпеня 1978 г. да Фёдара Ігнатовіча Верас паведамляла: *"Наша беларускае таварыства помачы ахвярам вайны было такое беднае, што на лекара нам не хапала. Мушу сказаць, бо гэтага ніхто нідзе не ўспамінае, што родны брат Каганца - Кастравіцкі - быў ваенным доктарам, і калі нейкі час быў у Менску, шмат памагаў фахавымі парадамі і заарганізаваў адмысловую аптэчку для Беларускага дзіцячага прытулку"* [13]. 16 снежня 1979 г. Зоська Верас пісала Юрыю Туронку: *"Камітэт Таварыства помачы ахвярам вайны свайго лекара ня меў, грошы - таксама вельмі мала. Др. Кастравіцкі ў Менску быў коратка, а пасля я ўжо аб ім нічога ня чула ..."* [14].

У лісце да Уладзіміра Ягоўдзіка ад 20 верасня 1983 г. легенда беларускага нацыянальнага руху ўдакладняе інфармацыю пра доктара: *"... брата Каруся Каганца - ваеннага лекара Кастравіцкага (імя, здаецца, Амброжы) - я добра ведала. Прыходзіў у Менску на паседжанні беларускіх арганізацый з 2-ма сынамі-гімназістамі. Др. Кастравіцкі з твару падобны на К. Каганца - падоўжаны твар, барада, але высокі, стройны. Сыны (ім было, хіба, па год 18 - 19) у бацьку - высокія, сімпатычныя хлопцы.*

*З др. Кастравіцкім я даволі часта спатыкалася па іншых справах. Ён цікавіўся жыццём нашага прытулку для дзяцей. Скамплетаваў аптэчку з усімі найбольш патрэбнымі лекамі, даваў мне часам парады, як памагчы дзецям у выпадках хваробы і г.д. У 1970-я гады я чула, што сям'я др. Кастравіцкага апынулася пад Лідай у Белагрудзе. Я спрабавала даведацца, ці гэта праўда, і што з імі сталася праз рэвалюцыю, у лідскай газеты. Але нічога не выйшла"* [15].

У лісце да Юрыя Туронка да 29 студзеня 1980 г. Зоська Верас расказала пра падрабязнасці сваіх пошукаў: *"Пішучы да Вас апошні ліст, я адначасна зрабіла пэўныя захады, каб адшукаць сляды доктара Кастравіцкага або яго сыноў. Спадзяюся, Вы ведаеце, што такое Гудзевіцкі школьны музей. ... Яго арганізатар і кіраўнік - А. М. Белакоз, чалавек зайздроснай энергіі і адданасці для беларускай справы. І вось я напісала некалькі пытанняў і папрасіла Алеся Мікалаевіча Белакоза разаслаць іх тым, каго ён уважае за звязаных з Белагрудай ці хоць бы з Лідай. Адказ атрымала амаль адваротнай поштай.*

*А. М-ч [Белакоз] зрабіў 4 копіі маіх пытанняў, адну даў сваёй дачцэ - студэнтцы Гродзенскага універсітэта, каб яна паміж сваімі сябрамі шукала студэнтаў з Белагруды або блізкай ваколіцы і растлумачыла, чаго ад іх спадзяемся. Рэшту копіяў адаслаў рэдактару лідскай газеты (падобна, вельмі энергічны і разумны чалавек). Што энергічны - відаць з таго, што зараз жа прыслаў адказ: "Пошукі слядоў др. Кастравіцкага распачаты". Пабачым… Ці гэта што дасць ці не? А можа…"* [16].

Рэдактар лідскай газеты "Уперад" Алесь Жалкоўскі (1933-2011) - выбітны журналіст і краязнавец, маштабная асоба і сапраўдны інтэлектуал, на жаль, не знайшоў інфармацыі пра доктара Кастравіцкага.

[8] Туронак Юры. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск, 2006. С. 48-49.

[9] Kuryer Litewski №21, 26 stycznia (8 lutego) 1906.

[10] Czeslaw Malewski. Rody i herby szlacheckie na Litwie (XV). [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://archiwum2000.tripod.com/522/malew.html - дата доступу: 06.05.2019.

[11] Верас Зоська. Я помню ўсё. Успаміны. Лісты. Гародна - Wroclaw, 2013. С. 40.

[12] Там жа. С. 59.

[13] Там жа. С. 148.

[14] Верас Зоська. Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты. Мінск, 2015. С. 326.

[15] Верас Зоська. Я помню ўсё. Успаміны. Лісты. С. 271.

[16] Верас Зоська. Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты. С. 334.



***Сям'я Амброзія Кастравіцкага***

Але вернемся ў 1917 г. У сакавіку 1917 г. Амброзі Кастравіцкі быў абраны старшынём З'езда беларускіх нацыянальных арганізацый у Менску. Зоська Верас пра З'езд Беларускіх нацыянальных арганізацый 25 - 27 сакавіка 1917 г. успамінала: *"Сабраліся ўсяго да 150 удзельнікаў. На старшыню сходу быў абраны доктар Кастравіцкі ..."* [17]. На гэтым з'ездзе Кастравіцкі быў абраны ў земскую камісію .

Можна з упэўненасцю цвердзіць, што ў 1918 г. Амброзі Кастравіцкі жыў у Лідзе, бо ў кастрычніку 1918 г. ён разам з сынам Самуэлем з'яўляўся сябрам польскай Самаабароны Лідчыны[19].

Бацька і сын Кастравіцкія вызначыліся падчас падзей вакол Лябёдкі Іваноўскіх. Зімой 1918-1919 гг. у суседнім з Лябёдкай маёнтку Гурнофель была база вайсковых аддзелаў польскай Самаабароны. На пачатку студзеня аддзелы Самаабароны паспрабавалі выбіць з Ліды бальшавікоў, але паход на Ліду не ўдаўся.

Пасля гэтага, 9-ы Лідскі конны аддзел Самаабароны, з мэтай выведкі ў бок Ліды, стала знаходзіўся ў маёнтку Лябёдка. 15 студзеня 1919 г., атрад чырвоных, які налічваў 300 добра ўзброеных людзей і меў некалькі кулямётаў, на вазах накіраваўся ў бок Васілішак. 16 студзеня, ноччу, калі на варце знаходзіўся 16-гадовы гімназіст улан Самуэль Кастравіцкі, а пры канюшні - Лявон Барташэвіч, чырвоныя наблізіліся да Лябёдкі. Заўважыўшы бальшавікоў, вартавыя пачалі страляць, але ўвесь Лідскі аддзел спаў у сваёй казарме. Не бачачы супраціву з польскага боку, чырвонаармейцы ўварваліся на падворак, узялі ў палон Барташэвіча і параненага Кастравіцкага і занялі канюшню з коньмі. Пасля блытанага начнога бою, 9-ы конны атрад лідскай Самаабароны быў разбіты - уцяклі толькі 4 чалавекі, 6 уланаў было забіта, 7 узята ў палон, у рукі чырвоных трапілі 19 коней і 5 000 марак.

17 студзеня аддзелы Самаабароны з Гурнофеля адышлі да Шчучына, але яшчэ вечарам 16 студзеня доктар Амброзі Кастравіцкі на двух параконных санях прывёз з Лябёдкі ў Гурнофель целы загінуўшых: харунжага Стэфана Крыдля, капрала Юзафа Мейлуна, капрала Станіслава Шалевіча і ўланаў Юльяна Лібіха, Віктара Шкопа і Станіслава Вайцяхоўскага. Па ўспамінах відавочцаў, знешні выгляд загінуўшых марозіў

[17] Там жа. С. 48.
[18] Там жа. С. 50.
[19] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 24.

кроў у жылах. Выкалатыя штыкамі вочы, на грудзях кожнага дзясяткі ран, пакрытых запёкшайся крывёю, усе раздзетыя дагала[20]. Аўтар кнігі пра лідскую Самаабарону Дзічканец пісаў, што падчас працы над кнігай, сярод іншых, ён карыстаўся і асабістымі ўспамінамі доктара Амброзія Кастравіцкага[21].

Дзе пры гэтых падзеях хавалася сястра Вацлава Іваноўскага Алена - першая беларуская настаўніца на Лідчыне, якая ў той час заставалася ў Лябёдцы, невядома.

З лета 1920 г. Амброзі Кастравіцкі жыў у Варшаве, у 1925 г., пэўна, як вайсковы асаднік, атрымаў гаспадарку ў Белагрудзе пад Лідай, дзе акрамя яго шмат асаднікаў мела зямельныя надзелы, і ў сувязі з гэтым у верасні 1926 г., тут нават пачаў дзейнічаць чыгуначны прыпынак[22].

Жыхар суседняй да Белагруды вёскі Мохавічы Стралюк Мікалай Мікалаевіч (1913 г. н.) успамінаў пра асаднікаў, якія жылі каля Белагруды: *"Асаднікі мелі па 20 га. ... Плацілі нам па 5 зл. - 2 пуды жыта ў дзень. Палкоўнік Ардылоўскі*[23] *казаў: прыдзеш да мяне на працу - 5 зл. Меў фальварак Шчытнікі каля Тарнова. Кастравіцкі - асаднік, высокі, строгі, з бародкай, маёр, жыў каля раз'езда ў Белагрудзе"* [24].

Памёр Амброзі Кастравіцкі ў 1937 г. у Белагрудзе[25]. Летам 2019 г. я шукаў і не знайшоў яго магілу на могілках каля Белагрудскага касцёла.



***Самуэль Андрэй Кастравіцкі, пляменнік Каруся Каганца***

Падчас Другой сусветнай вайны сын Аброзія - Самуэль Кастравіцкі - супрацоўнічаў з Вацлавам Іваноўскім у беларускіх справах. Іваноўскі давяраў сыну свайго сябра, бо добра ведаў гэтую сям'ю. Трэба сказаць некалькі слоў і пра гэтага чалавека, тым больш, што 4 снежня 1902 г. ён нарадзіўся ў Лідзе. У 1915-1918 гг. Самуэль Андрэй Кастравіцкі вучыўся ў менскай гімназіі. Як мы бачылі вышэй, удзельнічаў у лідскай Самаабароне і нейкім чынам, паранены, быў выкуплены ў чырвоных з палону. Потым служыў у Войску Польскім, скончыў школу падхарунжых у Варшаве, у снежні 1921 г. звольнены ў запас. У 1923 г. вывучаў права ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні. У 1930-х гг. працаваў у Варшаўскай зямельнай палаце. Перад самай вайной пасяліўся ў Вільні. Пасля вераснёўскай кампаніі 1939 г. нядоўгі час хаваўся ў Вільні, а пад канец 1939 г. прыехаў у Варшаву, супрацоўнічаў з беларускім падполлем і АК. У ліпені 1944 г. атрымаў званне маёра запасу. Пасля Варшаўскага паўстання апынуўся ў лагеры палонных Лямсдорф, затым Волдэнберг. Са жніўня 1945 г. служыў у ахоўных ротах у Германіі. Дэмабілізаваны ў 1948 г., эміграваў у Аргенціну. Памёр 12.08.1953 г. у Буэнас-Айрэсе[26].

Самуэль Кастравіцкі быў жанаты з сястрой слыннага лідскага краязнаўца Антона Прыбыткі Алінай (1913 г. н.). Яе маці Ева Прыбытка (1885 г. н.) з Алінай Кастравіцкай, з сынамі Аліны і Самуэля Крыштафам Нарымундам (1936 г. н.) і Аляксандрам Каралем (1938 г. н.), а таксама разам з малодшай сястрой Аліны Ядвігай (1918 г. н.) і братам Янушам (1923 г.н.), вясной 1940 г. былі высланы ў Казахстан. Вядома, што ў 1941 г. Аліна Кастравіцкая знаходзілася ў шпіталі для нервовахворых на станцыі Аляксееўка, а ў 1942 г. разам з сястрой працавала рабочай у геалагічнай экспедыцыі па пошуку нафты. У 1946 г. яны ўсе выехалі ў Польшчу[27].

---

[20] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 62.; 64-69.

[21] Там жа. С. 97.

[22] Slowo № 204 (1214), 2 wrzesnia 1926.

[23] Шчэпан Ардылоўскі, з верасня 1930 па кастрычнік 1931 г. быў бургамістрам Ліды. Былы галоўны лекар Віленскага гарнізона, нарадзіўся на Ковеншчыне, на Лідчыне жыў асаднікам у Шчытніках каля Белагруды.

[24] http://pawet.net/memoirs/1940a/Мемуары_былых_жыхароў_Ліды.html

[25] Туронак Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 253.

[26] Туронак Юры. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. С. 132 - 133.; 141.; 167.

[27] Шымялевіч Міхал. Высяленне ў Казахстан у 1940 г. значнай часткі жыхароў Лідскага павета // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 8. Мінск, 2018. С. 174.

***Віктар Кудла,***
***выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года***

# Сачыненне на тэму: “ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ”

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Сялянскае жыццё і навучанне пры Рэчы Паспалітай (верасень 1920 г. - верасень 1939 г.)**

*Дарэчы, у Рызе перамовы*
*без беларусаў правялі,*
*Пад Польшчу ў выніку дамовы*
*краіны захад аддалі.*
*Таму палякі край назвалі*
*ўжо не Літва, а ushodni kres.*
*Забыўшы Рыжскую дамову,*
*яны нас сталі прыгнятаць.*
*Культуру нашу, гонар, мову*
*паволі сталі вынішчаць,*
*І край гаротны наш навала,*
*як бачна, новая знайшла:*
*Русіфікацыя прапала -*
*паланізацыя прыйшла.*

Пасля савецка-польскай вайны заняткі ў школе аднавіліся, але на польскай мове, а беларуская мова была забаронена. Называлася школа паўшэхнай. Дзяцей у школу стала хадзіць мала, бо сяляне-беларусы польскім выкладаннем былі не задаволеныя, але нічога не маглі зрабіць. Нават напісаць прашэнне аб адкрыцці школы на роднай мове баяліся. З цягам часу прыйшлося змірыцца - трэба было дзяцей навучаць грамаце... хоць кольвек…

У сярэдзіне 1933 г. народныя карэспандэнты пісалі:

З Беліцы: *"Каля нас беларускай школы не чуваць. Вучаць усюду ў школах беларускіх дзяцей па-польску. Рэлігіі праваслаўных дзяцей вучаць па-расейску, а каталіцкіх - па-польску. Дзеці, кончыўшы польскую школу, застаюцца проста невукамі. Польская школа нашай моладзі не спаленізуе. Моладзь ахвотна чытае беларускія кніжкі. Трэба наладзіць саманавучаньне хатняе і даць моладзі адпаведных кніжак. І гэта ў пэўнай ступені заменіць родную школу"*.

З Сяльца: *"У нашай вёсцы, як і ва ўсёй ваколіцы, беларускіх ані польска-беларускіх школ няма. Усе школы толькі польскія. ...Некалькі гадоў таму нашы сяляне дамагаліся беларускай школы - падавалі дэкларацыі, але беларускай школы не адчынілі. Нам, беларусам, трэба дамагацца роднай школы, бо яна неабходная, але трэба і вучыць дзяцей дома. Адна бяда - няма адпаведных падручнікаў"*.

Дзяржава падтрымлівала развіццё краязнаўства: *"Віленскі школьны інспектар даручыў лідскім настаўнікам агульнаадукацыйных школ (і не толькі лідскім) збіраць матэрыял і рыхтаваць да друку манаграфіі пра мясцовасці, дзе знаходзяцца гэтыя школы. Падобна, не гістарычныя манаграфіі, якія рэканструююць агульныя падзеі нашага краю, а менавіта такія працы маглі бы стаць... падмуркамі рэгіяналізму"*.

*"Прад гэткім наступам польскага нацыяналізму не магло развіцца так-жа і бел. школа прыватная. Ды-й трудна вымагаць ад бел. селяніна, каб ён плаціў за дзяржаўную школу падаткі і адначасна - на школы прыватныя. Зрабіць гэта ён не ў сілах. А дзе і на гэта здабываўся, там спыняў яго асьветныя імкненьні той жа польскі нацыяналізм. Словам, зусім няружова на беларускім школьным фронце.*

*Нягледзячы аднак на гэта, беларускі народ і беларускае грамадзянства павінны стойка бараніцца і не павінны падаць духам. Мы мусім жыць і будзем жыць. Калі не даецца нам родная, належная нам, школа і нішчацца астаткі гэтай школы - дык мы павінны ўзяцца за роднае навучаньне пазашкольнае, хатняе. Беларускі лемантар, кніжка беларуская павінны замяніць вам школу і вывесьці народ ва шлях волі і долі. Гэтак было і з іншымі народамі..."*

З нашай мясцовасці ў 1928 годзе маладыя і здольныя да вучобы вясковыя хлопцы, якія ўжо прайшлі курс навучання ў Дзітрыкаўскай, а хтосьці ў Ганчарскай школах: Хрышчановіч Ваня з Хаданішкаў, Буйніцкі Косця з Дзітрыкаў, Заека Валодзя з Бенявіч, Папковіч Базыль (Васіль) са Жвіркоў,


***Папковіч Базыль (Васіль) Канстанцінавіч***



***Выпускнікі (пад 90-а чалавек) Шчучынскай дзяржаўнай настаўніцкай семінарыі***

Харкевіч Саша з Ганчароў і Стоцька Ваня - паступілі ў Шчучынскую Дзяржаўную настаўніцкую семінарыю.

Выдатная якасць фатакарткі дае падставу многім пазнаць сваіх родзічаў. Крайні справа - Папковіч Базыль.

Нарадзіўся Васіль Канстанцінавіч 28 жніўня 1908 года на хутары Жвіркі Ганчарскай воласці ў сям'і Папковіча Канстанціна Адамавіча (1875-1939) і Касарэўскай (дзявочае прозвішча) Марыі. Хутар размясціўся блізка ад скрыжавання дарог з Ліды на Наваградак і на Беліцу, а за паўвярсты працякала рэчка Дзітва, дзе дзятвара праводзіла нешматлікія вольныя часіны. Там працаваў млын Лупельніца - гул ад турбін і жорнаў разносіўся на наваколле. Зямля неўрадлівая - пясочак і жвірочак (што дало назву хутару) вакол ядлоўцы і хмызнякі.



***Жаўнер на ровары завітаў на хутар…" (з фотаархіва Папковіча В.К.)***

Бацькі многа працавалі, да працы прывучылі і дзяцей. Жылі не багата - душылі падаткамі, прыгняталі праваслаўных беларусаў, каб пераходзілі на каталіцкую веру.

*А кожны, хто супроць улады*
*ну хоць бы "зяпу" раскрываў,*
*Не быў жыццю свайму ўжо рады,*
*бо ў дыфензіву пападаў…*

**З успамінаў дачкі Ірыны:** “*Дзядуля Канстанцін быў на той час чалавек граматны, умеў пісаць, многа чытаў, перадаў цягу да навукі сыну Васілю і дачцэ Марыі.*

*Першапачатковую адукацыю Васіль атрымаў у Ганчарскай школе. Вучыўся вельмі добра, быў здольны хлопчык. За выдатную вучобу быў пераведзены з 1 класа адразу ў 3-ці, а праз год - у 5-ы. Гэта трошкі адбілася ў далейшым на поспехах у матэматыцы (са слоў Васіля). Сям'я была веруючая, бацькі былі не супраць, і Васіль адразу меў намер пайсці вучыцца на святара - бацюшку”.*

*Сем класаў у школе існавала,*
*і той, хто змог усё прайсці*
*І палічыў, што гэта мала -*
*мог у гімназію пайсці.*
*Але магчымасць і жаданне*
*не вельмі хочуць сябраваць -*
*Не кожны мог за навучанне*

*за месяц сорак злотых даць.*
*А многа гэта або мала?*
*тут трэба з чымсьці параўнаць,*
*Карова столькі ж каштавала -*
*ды дзе ж скаціны той набраць.*

Але яму падабалася навука, і ўжо ў 20-ці гадовым узросце паступіў у Дзяржаўную настаўніцкую мужчынскую семінарыю ў Шчучыне Наваградскага ваяводства.

Сям'я жыла беднавата, і восем! год вучобы хлопцу цяжкавата было пражыць. Са Шчучына ён прыходзіў дадому, дапамагаў па гаспадарцы і (як ён расказваў) яшчэ да раніцы клаў у торбу кавалак сала, чаравікі і пехатой дабіраўся назад да вучобы ў Шчучын. А калі памёр яго бацька (19.08.1939 г.), тут ужо зусім цяжка стала. Маці засталася адна з сынам і дачкою, і ўсе цягаты ляглі на плечы Васіля. Праўда, дапамагаў яе брат - Касарэўскі Антон, які жыў у Ганчарах, але ў яго была свая вялікая сям'я.

Там восем! гадоў заўзята набываў веды і ў 1936 годзе *"пасля здачы дыпломнага іспыту з першага разу"* атрымаў дыплом на настаўніка пачатковых школ з добрымі адзнакамі па наступных прадметах (з копіі дыплома Папковіча В.К.): *"Рэлігія, польская мова, беларуская мова, французская мова, гісторыя, навука аб сучаснай Польшчы, геаграфія, матэматыка, фізіка з хіміяй і мінералогіяй, біялогія (батаніка, заалогія і анатомія з фізіялогіяй), гігіена, музыка (спевы і ігра на скрыпцы), фізічныя практыкаванні, маляванне, сялянская праца, педагогіка, псіхалогія, навука аб дзецях, гісторыя педагогікі, педагагічная практыка".*

Пералік прадметаў, што выкладалі ў той час у настаўніцкай семінарыі, дае падставу меркаваць аб добрай падрыхтоўцы будучых настаўнікаў, што ў далейшай настаўніцкай працы і спраўдзілася.

Дзе працаваў адразу пасля вучобы два гады, дакладна невядома.

Але згодна з захаваўшымся дагаворам аб прыёме на працу - Папковіч Базыль (Васіль) працаваў настаўнікам пачатковых класаў у Паставах з 1-ага верасня 1938 да 31 жніўня 1939 года. Тут сустрэў "першых саветаў". Прышлося перавучвацца на расейскую мову.

*Такім настырным быў мой тата.*
*Разумным, сціплым, добрым быў,*
*Ён ад прыроды меў багата,*
*але ж у беднасці пражыў.*
*Ён у семінарыі вучыўся,*
*бо быў з маленства беднатой,*
*І шмат чаму там навучыўся*
*за кошт дзяржавы польскай той.*
*Быў малады - іграў на скрыпцы, спяваў і танчыў.*
*Рупліва шчыраваў на гаспадарцы:*
*разводзіў ён трусоў і пчол.*

Малодшая на 11 год сястра Васіля - Папковіч Марыя Канстанцінаўна нарадзілася 24 снежня 1919 года, трагічна загінула летам 1940 года.



***Хутар Жвіркі. Васіль на падворку каля роднай хаты***

**З успамінаў брата Васіля:** *"Сем год Марыя вучылася ў Ганчарскай школе. Вучылася выдатна. Калі прыехаў у школу інспектар і даў заданне, Марыя выканала так, што правяраючы ёй адной аб'явіў падзяку і паціснуў руку, што ў той час было вельмі важна. Пасля школы паступіла далей у Ліду, дзе прадоўжыла вучыцца на выдатна. Вельмі прыгожа малявала, малюнкі былі на выставах у школе, педвучылішчы, царкве. Вышывала, і цяпер стол у бацькоўскай хаце накрыты цудоўным вышытым абрусам, з воўны рабіла пруткамі свэтры, шкарпэткі. Марыла стаць настаўніцай і мастачкай".*



***Марыя Папковіч. Родныя краявіды***




***Надпіс на адвароце фотакарткі на польскай мове:*** *"7 снежня 1929 год. Памяць аб 2-х класнай паўшэхнай школе ў Ганчарах Лідскага павета. Вучні 4-ага класа з настаўніцай Янінай Матушэўскай". У верхнім радзе 3-я злева - Папковіч Маруся (10 год). Козел Анна (11 год) злева ад Матушэўскай. Там дзесьці і Козел Канстанцін з Бенявіч і Чылека Ганна з Баравіч.*



Іншая фатакартка зроблена напэўна ў часы вучобы ў Лідзе. Надпіс на адвароце фатакарткі на польскай мове: *"1935 год. Міцюкевіч Аляксандр (27 год), Папковіч Марыя (16 год), Казак Міхаіл (24 гады). Памяць за ўзнагароду - 2-ое месца з конкурсу чытання кніжкі пад назвай "Людзі ?...бердані?..."*

Тут многа інфармацыі для роздуму: дзе праходзіў конкурс? Чаму вялікая розніца ва ўзросце ўдзельнікаў конкурсу? У якой установе вучыліся?

**Даведка з кнігі "Памяць"**: *"Казак Міхаіл Аляксандравіч, 1911 г.н. Працаваў на гаспадарцы. Прызваны ў рады Чырвонай Арміі ў маі 1941 г. Радавы 222 ап азепб. Прапаў без вестак у верасні 1944 г."*



***Малюнак Марыі Папковіч на паперы***



**Марыя Папковіч. “Вясковае жыццё. На пашы"**

**Успамінае Міцюкевіч Уладзімір Аляксандравіч (1937 г.н.):** *“Мае бацькі, бацька - Аляксандр Юльянавіч (1908 г.н.), маці - Зінаіда Сцяпанаўна Козел з Бенявіч (1914 г.н.). Па расказе бацькі, нашы продкі з даўніх часоў жылі ў Ганчарах, былі даволі заможнымі гаспадарамі, валодалі добрым абшарам зямлі. Дзед Юльян, закончыўшы першапачатковую навуку ў школе і яшчэ дзесьці, займеў паштовую карэту і менавіта выконваў функцыю фурмана пры паштовай станцыі Лупельніца. У Першую Сусветную былі ў бежанцах дзесьці ў глыбіні Расіі. Дзед Юльян, маючы добрую адукацыю, там працаваў у канторы пісарам, там жа і памёр. А калі бабуля Алена Людвікаўна з трыма дзеткамі вярнуліся ў вёску - тут ад гаспадаркі нічога не засталося - усё прапала. Гаротнічалі на 3-х гектарах...*

*Калі вярнуліся з выгнання з братамі бацька мой у сяло, у іх было на харчаванне крупаў ячменных тры кіло. Бацька Аляксандр быў здатны да вучобы, за "польскім часам" закончыў 7 класаў Ганчарскай школы. На фатакартцы ён разам з Папковіч Марыяй і Казаком Мішам, як пераможцы ў конкурсе чытання. Меў перспектыву стаць настаўнікам.*

*За польскім часам, нягледзячы на забарону, да аднавяскоўцаў даходзілі весткі пра добрае жыццё ў Расіі, наслухаўся і бацька…”*

**Дзякевіч Любовь Іосіфаўна - выпускніца 1937 года:** *"Дакладна не памятаю, у якім годзе была пабудавана школа, але мой бацька 1888 года нараджэння вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе. Верагодней за ўсё, школа працавала на рускай мове, і дакладна памятаю, што вершы ён чытаў нам на рускай мове. Два разы на тыдзень былі ўрокі рэлігіі. Вёў іх бацюшка Ганчарскай царквы.*

*Аб Ганчарскай школе засталіся вельмі добрыя ўспаміны. Дырэктар школы Матушэўскі клапаціўся, каб усе жадаючыя маглі вучыцца. Абавязковага навучання не было. Пры школе была добрая фізкультурная пляцоўка, дзе вучні праводзілі не толькі ўрокі фізкультуры, але і перапынкі. Уладкоўваліся спартыўныя спаборніцтвы, арганізоўваліся экскурсіі ў Вільню, Варшаву. Вельмі цікава праводзіліся Навагоднія і Калядныя святы. Акрамя асноўнага школьнага будынка быў дом у вёсцы, дзе займаліся старэйшыя класы. Напаўняльнасць класаў была розная, таму практыкавалася сумеснае навучанне 2-х класаў - так у 1937 годзе сумесна навучаліся сёмы клас (4 чалавекі) з шостым класам".*



***Фотаздымак навучэнцаў Ганчарскай школы 1937 года. Каля сцяны другога школьнага будынка, пабудаванага ў 1908 годзе.***

Фотаздымак захавала Галіна Стасевіч, якая скончыла 7 класаў Ганчарскай школы ў 1937 годзе. Школа давала добрыя веды, што дапамагло ёй паступіць у Купецкую гімназію ў горадзе Ліда.

Апошні час Галіна пражывала ў горадзе Беластоку. Па яе дадзеных на фота: у цэнтры - злева настаўнік Катанскі?, правей ад яго - дырэктар школы Матушэўскі Юзаф. У трэцім шэрагу справа ад дзяўчынак у светлых сукенках - Люба Дзякевіч, Вераніка Стасевіч, Зоя Шут, Галіна Стасевіч. (Нажаль болей прозвішчаў навучэнцаў Стасевіч Галіна не ўспомніла)…А вось Чылек Ганна захавала такую ж фотакартку. Яна ў трэцім радзе - другая справа… тут дзесьці і аднакласнікі Міколы Дзікевіча, і вучні, што ездзілі на экскурсію ў Вільню.

Найбольш поўна і дэталёва распавёў аб навучанні за "польскім часам" у кнізе "Дзітрыкі. Згукі заснуўшай цывілізацыі" **Мікола Дзікевіч**, былы навучэнец, які нарадзіўся 20 верасня 1924 года ў вёсцы Дзітрыкі.

"У нашай вёсцы Дзітрыкі перад Першай Сусветнай вайной была пабудавана драўляная школа з двума класнымі пакоямі і вялікім калідорам. Там жа месцілася і кватэра для настаўнікаў.

Адзін з настаўнікаў (іх было двое) выконваў абавязкі дырэктара. У школу дзеці хадзілі не толькі з Дзітрыкаў, але і з суседніх вёсак: Жамойдзяў, Баравічаў, Жучкоў.

Значная колькасць вучняў школу наведвала дрэнна. Восенню трэба дапамагаць бацькам па гаспадарцы. Зімой не было ў што апранууцца. Вясной разліваліся раўчукі, дарогі рабіліся дрэнныя, дабрацца да школы не было як. Асабліва гэта тычылася дзяўчат. Бацькі меркавалі так: літары ведае, чытаць і лічыць да ста можа - ну і хопіць, каля печы вялікая грамата не патрэбна, няхай прадзе, тчэ і збірае пасаг.

Мая мама чытаць не ўмела, замест подпісу ставіла тры крыжыкі. Пазней мы з братам Ціханам і Санем навучылі яе распісвацца першымі чатырма-пяццю "польскімі" літарамі свайго прозвішча.

Дзітрыкаўская школа была школай першай ступені: вучэбная праграма ў ёй была разлічана на сем гадоў, аднак лічылася, што вучань скончыў чатыры классы. У адрозненне ад яе школа ў Ганчарах была школай другой ступені - шэсць класаў за сем год, у Бярозаўцы - трэцяй. Там сем класаў за сем год.

У школу дзеці ішлі ў сем-восем гадоў. Я пайшоў у школу ў 1932 годзе.

Навучальны год пачынаўся 1 верасня і заканчваўся 20 чэрвеня. Зімовыя канікулы доўжыліся з 24 снежня па 10 студзеня, а вясновыя прыпадалі на Вялікдзень і працягваліся 10 дзён. Вучэбны працэс падзяляўся на два паўгоддзі. Экзаменаў не праводзілі: у выпускных класах - чацвёртым і сёмым - адзнакі за пройдзеныя вучэбныя курсы вызначаліся па сукупнасці гадавых адзнак.

Урокі пачыналіся ў дзевяць гадзін. У пачатку першага ўрока ўсе вучні ўставалі і хорам чыталі папольску малітву з пажаданнямі спорнай вучобы, поспехаў і паслухмянасці.

Да настаўнікаў мы звярталіся са словамі: "Pro-



*На фота 1932 года, захаваўшагася сярод здымкаў Ані Козел (Заека), настаўніца - Кудла Соф'я Ізыдараўна (злева) праводзіць заняткі з васьмю дзяўчынкамі па шыцці і вышыванні. Уменні, якія ў далейшым жаночым жыцці заўсёды былі запатрабаваны…(на адваротным баку карткі па-польску змаглі прачытаць: Соф'я Кудла, Анна Козел, Марыя Папковіч,Чылека Аня…)*

*Цёплы сонечны дзень,на прышкольнай пляцоўцы каля плоту, пад дрэвамі, на лаўках і крэслах прымасціліся дзяўчынкі з настаўніцай і ўважліва вучацца вышываць. Відаць на палатне ўжо арнамент з кветкамі і лісточкамі. Лёгкія сукеначкі і блюзачкі, сімпатычныя тварыкі… Ідылія…*

sze Pana (Pania)." Памятаю толькі іх прозвішчы: пан Цало - настаўнік у трэцім і чацвёртым класах, пані Пісовічава - дырэктар школы. Іхніх імёнаў, напэўна, я і тады не ведаў. Яшчэ засталася ў памяці вельмі пяшчотная, уважлівая і сімпатычная "пані" - наша настаўніца ў першым і другім класах.

Парушэнне дысцыпліны цягнула за сабой пакаранне. Ужо згаданы пан Цало трымаў на печцы бярозавыя дубчыкі, якімі мог, смеючыся, нібы гуляючы, пацягнуць па мяккім месцы. "Давай лапу", - такой была прэлюдыя да самага распаўсюджанага пакарання, калі лінейкай білі па далоні. Грашыў гэтым бацюшка, які выкладаў Закон Божы і раз у два тыдні прыязджаў у нашу школу з Беліцы. Атрымаў і я аднойчы некалькі "арэхавых палак" ад мамы за тое, што ўцёк з сябрамі з урока Закона Божага. І ўсё гэта - з-за незразумелага, а таму і не вывучанага трапара.

У школу апраналіся, хто ў што мог: у новыя кажушкі, у кажушкі ад старэйшага брата ці сястры, у паўкажушкі на аўчыне або ваце… Адзенне, купленнае ў краме, адзявалі рэдка. Абувалі трэпы - абутак з драўлянымі падэшвамі і верхам, змайстраваны са старых чаравікаў. Восенню і вясной многія хадзілі босыя. Сшыткі, падручнікі і дапаможнікі насілі ў торбах, зробленых з палатна, на доўгім пасе цераз плячо. Пазней, калі ў Сяльцы пабудавалі фанерны завод і гэты матэрыял паступіў у продаж, з яго пачалі вырабляць сумкі з ручкамі. Хто хадзіў здалёк - насіў за плячамі сумку, падобную да сучаснага ранца.

У класах была ідэальная чысціня, падлогу націралі масцікай. Яна была непафарбаваная і мела натуральны жоўты колер. Вучні заўсёды старанна выціралі трэпы: заходзіць у клас у брудным абутку лічылася вельмі дрэнна. Сцены бялілі, на іх нічога не вешалі, калі не лічыць класнай дошкі, крыжа і польскага герба - аднагаловага арла. На ўрок настаўнік прыносіў толькі неабходныя пры вывучэнні дадзенай тэмы дапаможнікі. Патрэбную табліцу пры дапамозе зашчэпак вешалі на дрот, нацягнуты ўпоперак класа перад дошкай. Падчас тлумачэння новага матэрыялу настаўнік указкай перацягваў табліцу на сярэдзіну класа, дзе яна вісела да наступнага ўрока.

Падручнікі былі дарагія. Цана іх даходзіла да двух злотых - кошт пуда жыта. Карысталіся імі на працягу 8-10 гадоў па чарзе, нярэдка сумесна. Частку кніг выдавала школа.

У двух школьных пакоях сядзелі вучні чатырох класаў, па два ў кожным: першы і трэці, другі і чацвёрты. Настаўнік вёў заняткі адначасова ў двух класах, выкладаючы і больш просты, і больш складаны матэрыял.

Абедаў у школе не давалі. Дзеці бралі з сабой параны боб або гарох і лусту хлеба. У адных хлеб быў паліты ільняным алеем, у другіх - пасыпаны соллю, у трэціх - накрыты шматком сала ці кавалачкам каўбасы. Памятаю, толькі адзін раз, на навагодняй ёлцы, нас пачаставалі шклянкай гарбаты з цукеркамі.

Дарэчы, ёлка была ўпрыгожана даволі бедна: большасць цацак мы зрабілі на ўроках працы ўласнымі рукамі. У канцы свята загараліся бенгальскія агні.

У вучэбным працэсе значнае месца займалі тэматычныя экскурсіі. Настаўнікі часта вадзілі нас у поле з мэтай вывучэння флоры і фаўны з натуры. Падчас экскурсіі арганізоўвалі фізічныя гульні. У памяці засталіся паходы ў Бярозаўку, дзе мы пабывалі на гуце, азнаёміліся, як вараць шкло. У Сяльцы наведалі фанерны і лесапільны заводы і млын. Зайшлі таксама на чыгуначны вакзал і пагулялі па беразе Нёмана, дзе ўбачылі дзоты і байдарачную станцыю.

Усе заняткі вяліся на польскай мове. Толькі бацюшка, які выкладаў Закон Божы, (адзін раз у два тыдні па дзве гадзіны) гаварыў на беларуска-царкоўна-руска-польскай мове, падобнай на цяперашнюю "трасянку". А вось ксёндз размаўляў з дзецьмі католікаў выключна па-польску. На ўроках фізкультуры, працы і малявання мы размаўлялі паміж сабой на беларускай мове. Настаўнікі гэта заўважалі і гаварыць па-беларуску забаранялі, але не вельмі настойліва, і мы гэта адчувалі. Нарэшце, нельга не адзначыць, што на ўсіх без выключэння ўроках мы звярталіся адно да аднаго на беларускай мове (зразумела, не прыцягваючы да сябе ўвагі).

Урокі фізкультуры праводзіліся восенню і вясною на спартыўнай пляцоўцы, а зімой - у школьным калідоры. Восенню і вясной гэта былі гульні з мячом і іншымі прадметамі, а таксама элементы лёгкай атлетыкі, зімой - у большасці выпадкаў - рухомыя гульні. А вось лыжаў школа не мела. На ўсю вёску іх было некалькі, прычым, самаробных.

Пазней пайшоў у Ганчарскаую школу, дзе настаўнік Маліноўскі Іпаліт вёў урокі працы. На канікулах вучні мусілі па графіку даглядаць школьны агарод. Тут я пазнаёміўся з апрацоўкай і доглядам памідораў. Раслі яны здаровымі да кастрычніка - фітафтора іх не з'ядала. У верасні, прыйшоўшы ў школу, мы атрымлівалі па некалькі памідораў. Елі з хлебам, пасыпанным соллю.

Можна сказаць, што школа на той час была цэнтрам культурнага жыцця. Пры школе стварылі гурток вясковай моладзі. Летам дзейнасць яго спынялася, а позна восенню адначасова з пачаткам вучобы вечарамі ў школе аднаўлялася. Не помню, каб браты, прыйшоўшы са школы, гаварылі пра палітыку. Гамонка ішла пра прадстаўленні. Гэта была асноўная работа маладзёжнага гуртка. У самым вялікім класным пакоі змайстравалі пераносную сцэну. За невялікія грошы мы, дзеці, хадзілі на прадстаўленні. З суседніх вёсак прыходзілі дарослыя мужчыны. Класны пакой быў заўсёды поўны, збіралася больш за сто чалавек. У вялікім калідоры загадчыца дазваляла ладзіць вечарыны з музыкамі, прысвечаныя польскім дзяржаўным святам. Іншыя вечарыны ладзілі ў гаспадароў, у якіх падлога была драўляная. На вечарыны прыходзіла моладзь з суседніх вёсак.

Кнігі па польскай літататуры выдавалі ў школе старэйшым вучням і тым сялянам, каго яны цікавілі. Кніжны фонд быў небагаты, ды й з падручнікамі і кнігамі здараліся цікавыя гісторыі. Прычына ў курцах. Яны адрывалі кавалачкі паперы з апошніх, а затым першых лістоў падручнікаў і кніг на папяросы. Газет не было, а папера з кніг была глянцавая і для папярос



***Косця Буйніцкі (другі злева) на матарызаваным ровары з вучнямі на дарагіх на той час двухкалёсных раварах (балянуўках) падчас выезду на экскурсію…***

была не прыдатная, аднак за канікулы падручнік знікаў. Знікалі і спісаныя сшыткі.

Скончыўшы 5 класаў, я пачаў чытаць беларускія кніжкі. Адна з першых - "Сымон-музыка" Якуба Коласа. Чытаў таксама рускія кніжкі, надрукаваныя да Першай Сусветнай вайны.

Вясной і восенню ў школу прыязджаў з Беліцы доктар і правяраў здароўе вучняў. У многіх была трахома. Даводзілася ў вызначаны дзень ехаць у Беліцу, дзе лячылі вочы. Доктар выпісваў лекі, але яны былі дарагія, не ўсе іх куплялі.

Рабіў я намаганні ў чытанні Бібліі, але змест яе на царкоўнаправаслаўнай мове не вельмі разумеў. Затое баптысты ў той час не шкадавалі літаратуры і разносілі па хатах біблейскія каноны і законы на польскай мове. Чытаць чыталі, бо было зразумела, але ніхто не перайшоў у іх веру.

Святамі са святаў лічыліся Каляды і Вялікдзень. Рыхтаваліся да іх асабліва грунтоўна. На Каляды дзеці мелі магчымасць паесці свежаніны, пакатацца ў марозныя дні на санках і каньках. Да вайны многія ладзілі ёлкі. Выглядалі яны бедна, бо цацкі дзеці рабілі самі. Штуршком да гэтага была школьная ёлка. На ёй віселі куплёныя цацкі і лепшыя з тых, што былі зроблены вучнямі на ўроках працы. Васковыя свечкі ў спецыяльных зацісках гарэлі пад асаблівым наглядам школьнай вартаўніцы. У руках яна трымала мяккі венік, а побач стаяла вядро з вадой. Перад канікуламі ў школе ставілася дзіцячая п'еса.

Калі на канікулы прыязджаў з настаўніцкай семінарыі Косця Буйніцкі, то на святы і ў буднія дні вучыў нас гуляць у валейбол. Гульня была новая, у нашай вёсцы невядомая. Гулялі прымітыўна, без змены месцаў: на падачу, у пас, на нападзенне. Спачатку гулялі на школьным двары, але мяч часцяком залятаў на настаўніцкі агарод. Тады хлопцы абсталявалі пляцоўку на выгане. Мы, меншыя, радаваліся, калі бралі ў рукі сапраўдны валейбольны мяч, трымалі і падкідвалі яго. Хлопцы крычалі, каб хутчэй падавалі яго. Гэта не заўсёды атрымлівалася, і мы адчувалі абурэнне на нашу нязграбнасць. Вельмі задаволеныя нашы хлопцы вярнуліся з Агароднікаў, дзе выйгралі ў мясцовай каманды. Тыя гулялі ў Гуце і атрымлівалі перамогі. А як выглядалі нашы хлопцы - смех, дый годзе! Хто ў касцюме, хто ў шапцы, хто ў чаравіках, а хто і босы… Дабіраліся возам, двое - на раварах.

Падчас вучобы ў Ганчарскай школе я навучыўся добра гуляць у валейбол і ў "Два капітаны". Валейбол стаў маёй любімай гульнёй на ўсё жыццё.

Памятаю, у 1937 ці 1938 годзе бацюшка спрабаваў выкладаць Закон Божы на польскай мове. Яму так загадалі. Аднак нічога з гэтага не атрымалася, бо ўсе мы дружна гаварылі "па-простаму", што значыць - па-беларуску. Тады бацюшку прымусілі маліцца 11 лістапада - у Дзень Незалежнасці Польшчы. У школе перад наведваннем царквы нам, праваслаўным, коратка растлумачылі мэту паходу ў яе. Калонай накіраваліся ў храм. З сялян там нікога не было, толькі дзяк. Мы паводзілі сябе не лепшым чынам, а бацюшка маліўся, не звяртаючы на нас увагі і нічога не гаворачы пра Дзень Незалежнасці.

З 21 па 24 траўня 1938 года сумесна з вучнямі Канюшанскай школы ездзілі ў Вільню. У групе было 37 вучняў. У адзін бок ехалі чатыры з паловай гадзіны. У Вільні нашымі экскурсаводамі былі дзве гімназісткі, якія правялі агульную экскурсію па горадзе. Мы наведалі цырк, банк, дзе захоўваліся злотыя і золата, могілкі польскіх салдат з Першай Сусветнай вайны, касцёлы і цэрквы, падняліся на Замкавую гару, палюбаваліся суседняй гарой Трох Крыжоў. Потым плылі на параходзе да Кальварыі і там пешшу вандравалі па святых месцах. Вярнуліся дадому на чацвёрты дзень.

Вясной 1939 года наведалі Ліду. Паехалі аўтобусам раніцай, а вярнуліся вечарам. У Лідзе нам у пер-



***1938 год, 21-24 траўня. На экскурсіі ў Вільні. У цэнтры ў капелюшы - дырэктар Ганчарскай школы Юзаф Матушэўскі, настаўнікі і экскурсаводы. Справа лежачы: другі - Мікола Дзікевіч, трэці - Уласевіч Ваня***

шую чаргу паказалі дом (цяпер яго няма) на сучаснай вуліцы Чапаева, дзе пад час вайны жыў Юзаф Пілсудскі. Таксама наведалі фабрыку "Ардаль" і "Карону", цвіковы завод, Фарны касцёл, замак і школу каля замка. Пачулі легенду пра дзве сасны, што раслі паміж школай і мурам замка. У школе нам паказалі класныя пакоі, расказалі пра школьнае жыццё, поспехі вучняў. А яшчэ мы ўбачылі штабелі шкляных бутэлек, якія вучні збіралі і здавалі на піўзаводы, а за грошы куплялі дапаможнікі ў школу.

У нашай Ганчарскай школе асаблівым быў дзень 19 сакавіка, калі ніхто не хацеў заставацца дома. Справа ў тым, што наш дырэктар зваўся Юзафам, акурат у гэты дзень у яго былі імяніны. Мы кожны год яго віншавалі, а ён прыносіў у школу папяровы мяшок цукерак, якіх хапала на ўсіх вучняў. Настаўнікі ў гэты дзень былі добрымі, не каралі нас, не апытвалі - сапраўднае свята!

19 сакавіка было адметным яшчэ і тым, што ў гэты дзень былі імяніны Юзафа Пілсудскага. Нас, праваслаўных, пасля ранішніка вялі ў царкву на службу ў памяць аб маршалку.

Пад час вучобы ў Ганчарскай школе я пачаў цікавіцца палітыкай. Стаў уважліва прыслухоўвацца за размоў старэйшых, пачуў ад іх разнастайныя меркаванні пра жыццё і дзейнасць улад у Савецкім Саюзе. Рознымі шляхамі прыходзілі да людзей чуткі пра жыццё ў СССР. Адны ўпотай слухалі "весткі з усходу" праз дытэктарныя прыёмнікі, іншыя даведваліся пра яго ад членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) і яе агітатараў, з падпольнай літаратуры або польскіх газет. (Не помню, аднак, каб хтосьці ў вёсцы іх выпісваў).

Нагадаю, як у 1937 ці 1938 годзе мяне папрасілі прачытаць у польскай газеце пра расстраляных савецкіх вайсковых начальнікаў. На першай старонцы газеты былі змешчаны іх фатаграфіі - дзесьці чалавек пяцьдзесят. Сумнае ўражанне зрабіла на сялян тая вестка. Ці ўсё так добра ў нашых вольных суседзяў?

Тым не менш, у школьных падручніках па геаграфіі, надрукаваных у першай палове 30-х гадоў, хоць і вельмі сціпла, але расказвалася пра жыццё ў СССР: як арганізавалі калгасы, як супольна працуюць, як аруць трактарамі і збіраюць ураджай камбайнамі.

У школе не было нейкага асаблівага патрыятычнага выхавання. Аднак, калі пры раздзеле Чэхаславакіі Польшча атрымала кавалак чэшскай зямлі, радасць ад гэтага тэрытарыяльнага здабытку адчувалася і ў школе: настаўнікі некаторы час гаварылі пра гэта на ўроках. Любілі паўтараць: "не аддамо ні гузіка" - на манер савецкага "ні пядзі зямлі". Чым гэта скончылася ў 1939 годзе, вядома.

У той час, калі я наведваў Ганчарскую школу, зімы былі снежныя. Пакуль не пратопчуць сцежкі, мне прыходзілася начаваць у далёкіх сваякоў - Дзікевіча, Будзевіча, Гука і Даўлюда. Дзядзька Сцяпан Даўлюд быў вельмі цікавым чалавекам, добрым расказчыкам з доляй гумару. Слухаць яго было адно задавальненне. Пад час вайны ў 1939 годзе ён трапіў у палон разам з Янкам Брылём. Яны пасябравалі. Пасля вайны Янка, які пазней стаў славутым пісьменнікам, нават гасцяваў у дзядзькі Сцяпана.

Калі я скончыў Ганчарскую сямігадовую школу, паўстала пытанне пра мой дальнейшы лёс. Каб старэй-



***Травень 1939 года. На экскурсіі ў Наваградку. (На заднім фоне Курган Міцкевіча)***

*На фатакартцы члены харцэрскай дружыны імя Тадэвуша Касцюшкі.*

*Стаяць злева направа:*

*Шалтыс Станіслаў з вёскі Жучкі;*

*Шалтыс Вацлаў з вёскі Жучкі;*

*Уласевіч Іван з вёскі Істакі;*

*Маліноўскі Іпаліт - камандзір дружыны;*

*Шут Ежы Зянонавіч з Дроздава;*

*Каравайка Аляксандр з Агароднікаў;*

*Карабач Роберт Юзафавіч - хата на перакрыжаванні Дроздава;*

*Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч - намеснік;*

*Шут Віктар Зянонавіч з Дроздава;*

*Каханоўскі Браніслаў Міхайлавіч з Дроздава;*

*Шпарага Ежы - сын асадніка каля Дзітвы;*

*Шут Генадзь Сцяпанавіч з Дроздава;*

*Кленчачы і седзячы - Харкевіч Ян з Ганчароў;*

*Кучынскі Вячаслаў Мікалаевіч з Ганчароў;*

*Лапата Станіслаў жыў у будцы пры ст. Ганчары.*

*У далейшым пра іх лёс і жыццё будзе распавядацца ва ўспамінах.*

шым братам вальней было на зямлі, мама вырашыла паслаць мяне на вучобу. Спыніліся на Лідскай гандлёвай гімназіі: блізка ад вёскі, і ёсць магчымасць вучыцца бясплатна”.

**Германовіч Аляксандра:** *"Я пачала хадзіць у школу ў 1937 годзе. Вучоба нам, вучням, давалася цяжка, бо мы не разумелі польскай мовы. Калі вучні пачыналі гаварыць па-беларуску, настаўніца, да якой мы павінны былі звяртацца: "Проша пані", крычала: "Размаўляць толькі па-польску!" Вучні сціхалі, сядзелі ціха, баяліся, каб настаўніца не вызвала адказваць урок".*

**Дзякевіч Марыя Іосіфаўна:** *"У першы клас Ганчарскай школы я пайшла ў 1938 годзе. Гэта быў драўляны будынак насупраць Ганчарскай царквы. У ім былі 2 класныя пакоі, настаўніцкая і кватэра для настаўніка.*

*У гэтым будынку вучыліся толькі пачатковыя класы, а 5, 6, 7 класы займаліся ў другім памяшканні. З усіх вёсак хадзілі дзеці пяшком. Толькі ў зімовыя дзянькі, калі былі заносы і не відаць дарогі, бацькі па чарзе падвозілі ў санках, бо былі свае коні.*

*Заняткі вяліся на польскай мове, а дзеці з навакольных вёсак гаварылі па-беларуску. Вось і вучыла нас "пані навучыцелька" Пякелка Вольга пісаць і размаўляць на польскай мове. Вось першы вяршык, які павінен быў знаць кожны вучань:*

*Kto ty jestes? - Polak maly.*
*Jaki znak twoj? - Orzel bialy.*
*Gdzie ty mieszkasz? - Miedzy swemi.*
*W jakim kraju? - W polskiej ziemi.*
*Czym ta ziemia? - Ma ojczyzna.*
*Czym zdobyta? - Krwia i blizna.*
*Czy ja kochasz? - Kocham szczerze.*
*A w co wierzysz? - W Polske wierze.*
*Cos ty dla niej? - Wdzieczne dziecie.*
*Cos jej winien? - Oddac zycie.*

*Першы клас скончыла на выдатна. Прыйшлі летнія вясёлыя канікулы 1939 года, а затым і вялікія перамены - "першыя Саветы".*

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Дым над гарызонтам**

17 верасня Барэйша паслаў мяне і яшчэ пару чалавек з заданнем падрыхтоўкі базы для неадкладнага перакідвання "Рэчы Паспалітай". Дасталі "Додж".

Дзень прыгожы, машына добрая, вайна яшчэ раз, здаецца, закончылася.

Недзе пад Куравам, за 120 кіламетраў ад Варшавы заўважыў нізка над гарызонтам цёмна гранатовыя (цёмна-цёмна сінія) аблокі. Праз нейкія 20 кіламетраў зразумеў, што гэта дым. Уражаны памерамі пажару, выглядваў, якая гэта вёска, якое мястэчка? Але аўтамабіль гнаў праз сонечны перадполудзень, а дым не прыбліжаўся, наадварот пачаў як бы расставаць, нікнуць...

Толькі недзе каля Атвоцка зразумеў: гэта была Варшава. У светла-блакітным, асеннім небе зноў убачыў неверагодна высокія, тонкія і празрыстыя слупы дыму. У Варшаве шалелі адразу некалькі дзясяткаў пажараў. Пры бязветраным надвор'і дым імкнуўся ўверх і недзе на мяжы стратасферы збіраўся ў шчыльныя гранатовыя аблокі. Якраз тыя, бачныя на сто кіламетраў.

Даехалі да Аніна. Буйныя кветкі каля аэрадромных домікаў, салдаты, вазы, аўтамабілі. Наш "Додж" пакруціўся паміж дамкамі і вярнуўся на шашу. На краі Аніна нас папярэдзілі: гэты адкрыты кавалак шашы аж да Грохава знаходзіцца пад артылерыйскім абстрэлам. Хвілю глядзелі: перад намі была Варшава, налева - Чарнякоў, прама - самотная скала "Прудэнталя", направа - Старое Места. Пажары з гэтай адлегласці доўга падаваліся пагоднымі, спакойнымі, дымы ішлі вертыкальна ў высокі блакіт неба.

Нарэшце, як бы скачучы ў халодную ваду, аўтамабіль зрабіў кідок наперад. Вольны адрэзак у некалькі сот метраў, даступны нямецкай артылерыі з-за ракі, праляцелі, як бліскавіца. Прытармазілі пры першых дамках. І тады пры паркане мілага садзіку, можа за 50 метраў ад нас, нешта лопнула ў паветры са звонкім, але свежым, амаль радасным гукам. Шафёр машынальна крутнуў убок, як бы снарад пасля выбуху яшчэ мог нам нешта зрабіць. Мы пачалі крычаць на яго, каб наперад. Адвярнуў, з падвоенай хуткасцю памчаўся па шашы к Вісле.

Даехалі да пляцыка ля касцёла на Грохаве. Зайшлі ў браму нейкай камяніцы, адразу былі аточаны натоўпам, усё яшчэ экзатычныя, вартыя агляду, распытвання. Пасля дзесяці з нечым хвілін размовы вярнуліся да машыны.

Перад намі былі пабітыя пярылы маста Панятоўскага. Артылерыйскі абстрэл узмацніўся. Бліскавічна прамчаліся назад праз голы адрэзак шашы. Насустрач нам ішлі нашыя аддзелы з анінскіх лясоў, сцягваліся да ракі.

Цяпер ведаю, што тады ішлі баі на Чарнякоўскім і Бялáнскім плацдармах, што немцы выбівалі нашыя дэсанты, адрэзаныя ракой ад дапамогі і агнявой падтрымкі. У той вечар мы ведалі адно: узяцце Прагі яшчэ не абазначае капітуляцыі Варшавы. Мы вярнуліся ў Люблін.

**Манашка**

У гэты ж дзень здарылася са мной гісторыя благая і рамантычная - у добрым значэнні гэтага слова.

Дванаццаць гадоў таму назад, у Вільні, я мімалётна пазнаёміўся з малодшай сястрой адной з нашых каляжанак. Была брыдчэйшая ад яе, шэрая, хваравітая. Толькі вочы - як часта бывае з туберкулёзнікамі - мела прыгожыя, вялікія, шэрыя, з нейкім бляскам.

Сам не ведаю, як я здагадаўся, што падабаюся ёй. Рэдка ў той час гэта здаралася, адчуў да яе ўдзячнасць, раз ці два недзе з ёй хадзілі ў тэатр ці на забаву ў "Агенчык". Але на тым справа скончылася, я не ўмеў прыкідвацца, была занадта ўражлівая.

Цяпер на ад'езд з Любліна яе сястра паведаміла мне, што тая пайшла ў кляштар, стала манашкай і працуе ў слынных Лясках. Прасіла, каб заехаў да яе, запытаў, ці не патрэбна што.

Знайшлі Ляскі. Я папрасіў, каб паклікалі сястру... ужо не памятаю, якое ўзяла імя ў ордэне. Не без хвалявання чакаў, пакуль з'явіцца. Не меў ніякага сумнення, што мяне не пазнае: такое мімалётнае было тое знаёмства, так я адрозніваўся ад таго студэнціка: цяжкі, у цяжкіх ботах, у досыць парваным мундзіры, ужо сіваваты, без зубоў.

Круціўся туды і назад перад ганкам, паліў. Уласна гэтая нярвознасць не была ў ніякіх стасунках да яўнай мэты спаткання. Быў яшчэ гэты другі сверб, падскурны.

Недзе ў глыбіні стукнулі дзверы. На ганачак

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

выйшла невысокая, шчуплая дзяўчына ў шэрай з чорным манаскай сукенцы. Вельмі пастарэла, зжоўкла, але светлая. Усміхнулася.

- Не ведаю, ці сястра мяне пазнае? - сказаў раптам ахрыплым голасам.

- Але ж, канешне! - адказала цалкам спакойна, як бы чакала майго візіту. - Пан Путрамант.

Зрабілася мне прыемна і смутна. Перадаў ёй звесткі ад сястры. Былі ерундовыя. Не, адказала, ёй добра, нічога не трэба. Пару хвілін натуральнай - з яе боку - і вымушанай - з майго - размовы, развіталіся. Больш яе не бачыў, неўзабаве памерла.

**Скарб і грушкі**

Жыццё ў Любліне было дзіўнай мешанінай высокага і смешнага, узрушальнага і жудаснага. Смешнасці былі шматлікія і натуральныя. Вялікі ўстрэс, усякі пачатак прыводзіць да таго, што наверх выплываюць побач з вартымі людзьмі выпадковыя.

Хто сёння памятае першага кіраўніка ведамства нацыянальнай гаспадаркі і фінансаў? Ведаю пра яго пару гісторый, з іх налепшая - не для друку. Таму пару іншых.

Першыя грошы новага ладу. Першыя іх пятнаццаць тысяч. Надрукавалі іх спешна, з граматычнай памылкай: “Усялякая падробк... караецца судоўна” - ці нешта ў тым духу.

Кіраўнік ведамства бярэ тыя пятнаццаць тысяч у чамаданчык тыпу акушэрскага саквояжу і носіць з сабой. На заўвагу, што не зручна, што лепш недзе яго пакінуць, адказвае:

- Альбо я міністр скарбу, альбо не.

Не быў міністрам, быў толькі кіраўніком ведамства, але падлізы так яго называлі. Канешне, прыпадала яму гэта да густу.

У той час ён вучыўся кіраваць машынай і закахаўся. Аднаго дня Кракаўскім прадмесцем едзе на машыне, аж бачыць: яго каханая з нейкім іншым мужчынам заходзіць у кавярню. Адразу за імі! Так ён спяшаўся, што забыў выйсці з аўтамабіля і з ім разам уязджае праз акно паміж столікамі...

Кіраўнік іншага ведамства з вёскі. Восень, у яго ўрадзілі грушкі. Прывёз воз у Люблін, прадае на кілаграмы ў сваім кабінеце...

Выпадковы чалавек. Да такой ступені, што ўжо і прозвішча яго не памятаю.

Адзін з нашых, так зв. афіцэр без звання. Мусіла яму тое “без звання” моцна дакучаць, стацца комплексам. У Любліне пэўны саноўнік бярэ яго на ад’ютанта. З той аказіі атрымоўвае адразу паручніка. Праз пару тыдняў упартай палітычна-выхаваўчай працы ўдаецца яму пераканаць свайго шэфа ў слушнасці сваіх поглядаў. Першы гэта яго поспех у прапагандыскай працы. Пераконвае менавіта свайго саноўніка, што не выпадае яму мець ад’ютанта ў рангу нейкага паручніка. Добра, шэф залатвівае яму прадстаўленне на капітана.

Праз пару дзён мае адбыцца нейкая цырымонія, на якой шэф павінен быць ва ўсёй пышнасці з ад’ютантам пры боку. За дзесяць хвілін да пачатку да шэфа ўпадае, як бомба, ад’ютант:

- Пане... (тут называе тытул шэфа) страшнае няшчасце!

- Што такое?

- Няшчасце, пане..., страшная, сапраўдная катастрофа!

- Гавары ж, ліха на цябе!

- Гэта не я, гэта кравец!

Аказваецца кравец памыліўся, замест знакаў адрознення капітана выгафтаваў маёрскія.

Пасля таго крыку пра катастрофу шэф чакаў Бог ведае чаго. Учынак краўца падаўся яму ерундой, махнуў рукой...

Недзе ў пачатку прэм’ер Асубка (пісалі яго тады неарфаграфічна, невядома чаму) пастанавіў сустрэцца з мясцовай творчай інтэлегенцыяй. Сабраліся ў ліку некалькіх дзясяткаў у нейкай вялікай, пустой зале, дзе ў адным з куткоў стаяла фартэпіяна. Як прыстала стратэгу, я вывучыў тэрыторыю. Суседні пакой быў замкнёны, але я бачыў, што там ставяць сталы з нечым з яды. Я стаў на ўсякі выпадак у стратэгічным пункце, у фрамузе тых дзвярэй.

Трэба сцвердзіць, што Асубка казаў нам дорага заплаціць за тыя сціплыя дэсерты. Гаварыў можа з паўтары гадзіны. Сам стаяў, усе таксама стаялі. Пра што гаварыў, дальбог, не памятаю. Увесь час думаў, што там за тымі дзвярыма.

Гэта не столькі значыць, што быў такі галодны, колькі, што вельмі насыціўся стравай духоўнай, якая плыла да нас ад фартэпіяна.

Нарэшце скончыў. Не марудзячы ні хвіліны, я адчыніў дзверы і скочыў наперад.

Дэсерты былі тонкія. На адной паўмісцы трохі пячэння, на іншай яблыкі. Была яшчэ трэцяя, таксама не вельмі, але з прыгожай румянай і бліщчастай грушкай наверсе. Бліскавічна яе схапіў і адразу ў рот.

- Пане! - крыкнула пані ў белым фартушку. - Гэта для прэм’ера!

Запозна, ужо адгрыз ладны кавал. І нікольі не шкадую, прамова цалкам таго заслугоўвала.

**Вернярычная гісторыя**

Мы мелі ўжо ў войску і такое. Восенню мінулага года падначаленыя паручніка Вернера, работнікі дывізійнай газеты, натрапілі недзе там, пад Красным на маладую, прыгожую і мілую дзяўчыну. Вандравала некуды праз прыфрантавыя вёскі, запрасілі застацца, ахвотна згадзілася. Заляцаліся да яе агулам, гралі ёй на гітары, спявалі па-польску і расейску. Гаварыла, што яна - санітарка. Іншым разам, што радыстка. Што шукае свой аддзел. Хлопцы Вернера прапанавалі ёй. каб засталася пры іх. І гэта яе згубіла, згадзілася. Тады нехта прафесійна пільны папрасіў у яе паперы. Аказалася, што не мае ніякіх санітарскіх пасведчанняў. Таксама ні папер, што радыстка. Наогул, не мае ніякіх папераў. Толькі накіраванне ў палявы шпіталь з нагоды ганарэі.

Гісторыю называю вернярычнай выключна для каламбуру. Паручнік Вернер не меў да гэтага ніякага

дачынення.

Цяпер у нашыя журналісцкія колы, як з неба ўпала сапраўдная прыгажосць. Высокая, халерна зграбная, з тонкімі, расавымі рысамі твару, з прыгожым у меру з гарбінкай носікам, лёгенька высунутым наперад падбародкам, цёмнымі, бліщчастымі вачыма.

Хто яе да нас прывёў? Ці не Поль? З'ехаў з Вільні, пасяліўся з жонкай і яе дачкой у пакоі побач. Нікольі не пастарэў, быў, як у Троках, чароўны і безадказны. Цяпер зусім траціў галаву з-за прыгожай незнаёмкі.

Тая не думала нічога траціць. Папівала з Полем, але страляла вачамі налева і направа. Гаварыла пра сябе, што абшарніцкая дачка. Барэйша, на якога находзілі прыступы пільнасці, ужо называў яе агентам ніто гестапа, ніто НСЗ, ніто Амерыкі. Пазней выявілася, што дачка прачкі. Можа, гэта супакоіла Барэйшу. Ва ўсякім разе і яго ачаравала, і цэлую кучу іншых.

Мне таксама халерна падабалася. Але я быў толькі што пасля жаніцьбы, па-просту не выпадала. Глядзеў на тое ўсё зайздросны і раптам расчулены такім відавочным упадкам маральнасці.

Праз пару гадоў прыехаў на кароткі час з-за мяжы ў Варшаву. Трэба ж такі выпадак, сустракаю яе. Прыгожая, як заўсёды. У дадатак мілая, на від старога знаёмага расквітнела ўсмешкай... Дамаўляемся на вечар.

Сяджу ў сваім пакоі знерваваны, поўны чакання. Яшчэ гадзіна! Аж мяне дрыжыкі бяруць з нецярпення. Але такія дрыжыкі, аж зубы ляскаюць. У галаве пачынае муціць. Нецярпліва прысядаю на канапу, потым робіцца мне холадна, накрываюся плашчом. як праз сон чую стук, не магу адказаць, як у кашмары, поўная бездапаможнасць, дзверы стукаюць, яе прыгожы твар нада мной, кладзе далонь на лоб...

Ачуньваю ў клініцы на Гожай. Злавіла мяне нейкая ўразлівая, бліскавічная ангіна з тэмпературай пад сорак.

Больш той дзяўчыны не бачыў. Выехала за мяжу, мела там розныя дзіўныя прыгоды, выйшла замуж ці не за егіпцяніна. Даведаўся толькі, што цэлая мужчынская палова рэдакцыі адной сур'ёзнай газеты пасля некалькітыднёвай супрацы з ёй адбыла пазней калектыўнае лячэнне, не такое ўжо і дакучлівае пасля адкрыцця антыбіётыкаў...

**Дорак**

Поль прыехаў у Люблін, Дорак, які акупацыю перажыў на вёсцы ў сям'і сваёй жонкі, вярнуўся якраз у Вільню і таксама выбіраўся да нас.

Не прыехаў. Прыйшла вестка, што яго замардавалі. Была гэта помста некаторай з "лонданскіх" віленскіх арганізацый за тое, што супрацоўнічаў з намі.

Мы былі ўзрушаны і абураны. У "Адраджэнні" зрабілі старонку, прысвечаную яго памяці. А потым звыш дзесяці гадоў адбываліся дзіўныя манёўры, пакуль выдалі падборку яго вершаў.

Найбольш цяжкасцяў было з уступам. Адзін з яго калегаў напісаў. Давялося адкінуць: залішняе "звядзенне рахункаў" з паэтам. Папрасілі мяне. Таксама зацягнуў. Аказалася, што не ўмею знайсці тону, які пасаваў бы да той мілай, знамянальнай постаці.

Мабыць. гэта не справа тону, а справа эпохі. Дорак быў чалавекам акрэсленай эпохі, і калі яна скончылася, не ўмеў яе перажыць, прыстасавацца да вялікіх зменаў, не пасаваў ужо ні да аднаго з наступных этапаў, такіх хуткіх, дык адзін на другі непадобных, супрацьпастаўленых, адзін другога выключаўшых.

Дорак быў чалавекам Вільні дваццатых гадоў і пачатку трыццатых. Той кароткай эпохі, калі ў тым здрабнелым горадзе зарадзілася дзіўнае суіснаванне некалькіх народаў, некалькіх ідэалогій, калі так блізка падавалася ад камунізму да каталіцызму, калі асноўныя ворагі дасканала ведалі межы сваёй варожасці, ніколі іх не пераступаючы, калі было яшчэ месца на жарты з праціўніка, не выключна на яго дабіванне.

У палове трыццатых гадоў перыяд той мінуў разам з нарастаннем крызісу, нарастаннем фашызму, з антыяўрэйскімі скандаламі, паліцэйскімі рэпрэсіямі, антысавецкімі кампаніямі, рознымі крытынскім "Алказарамі" і г.д. Дорак спрабаваў ператрываць, не вельмі ў яго гэта атрымоўвалася. У той перыяд пачынаў яго падводзіць беспамылковы такт і пачуццё гумару.

Вайна была для яго ўжо катастрофай. Тое, што супрацоўснічаў у 1940 годзе з "Віленскай праўдзівай", розныя "лонданскія" колы залічвалі яму за здраду. Калі мы прыйшлі зноў, бандыты паднялі на яго руку, абы не дазволіць, каб служыў Народнай Польшчы.

Яго смерць неадступна прыводзіць мне на памяць адзін з найлепшых момантаў "Ціхага Дону". Пярэдадзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Казацкая сотня парывае са сваімі афіцэрамі і пакідае Зімовы палац. Праз хвілю адзін з афіцэраў, парадачны, прывязаны да сваіх людзей, перабягае цераз барыкаду і даганяе казакоў. Тады нехта з афіцэраў страляе ў яго і забівае. Нікога з бальшавікоў, а якраз яго.

**Партыя**

Гэтай восенню, бадай у лістападзе, я аказаўся нарэшце ў партыі.

Не сталася для мяне гэта нейкім пераломам. З гадоў дванаццаці лічыў сябе камуністам. Канешне, не здаваў сабе справы з вельмі многіх рэчаў, быў не вельмі начытаны марксісцкай літаратурай (праштудзіраваў уласна толькі "Дзяржаву і рэвалюцыю", астатняе праглядзеў...), палітычна зялёны і так далей. Але ў сваім разуменні не бачыў істотнай розніцы паміж сабой і ўсімі астатнімі маімі ідэйнымі сутаварышамі.

Выключная іх большасць не разбівала маіх ілюзій, успрымала мяне роўна і прыязна, як аднаго са сваіх. Не ўяўляеце, як такія адносіны дапамагаюць у авалоданні ідэалогіяй. Але былі і такія, якія ўсялякім спосабам падкрэслівалі нейкую арганічную нада мной перавагу, што выцякала перш за ўсё са свайго даўжэйшага стажу ў партыі. Гэта моцна адпіхвала.

Не меў рэкамендацый. Па-просту, аднаго дня

нас некалькі, можа аж дванаццаць, з калектыву “Рэчы Паспалітай” сабралася ў кабінеце Барэйшы, і пасля некалькіх кароткіх прамоваў абвясцілі сябе мясцовым колам (мабыць так тады гэта называлася) Польскай рабочай партыі. Толькі пазней пайшлі розныя фармальнасці, анкеты, біяграфіі.

У першы перыяд маёй прыналежнасці да парыі, гэта асабліва не ўплывала на маё жыццё. Рабіў папросту тое, што і даўней. Ужо многія гады ўсімі даступнымі мне спосабамі бараніў сваё бачанне свету і пераконваў, каго ўдавалася, што гэта адзінае слушнае. Таксама і цяпер гэта рабіў. Партыя не падавалася мне ніякім молахам ні ордэнам. Паасобныя яе чальцы, якія і перад тым былі нацэлены на расшчапленне воласа на чатыры часткі, падаваліся мне звыклымі занудамі, якіх знойдзеш усюды.

Толькі пазней даліся мне ў знакі недахопы ў начытанасці марксісцкай літаратурай. Па-просту, кожны такі зануда забіваў мяне запытаннем: а пра Феербаха чытаў? Паколькі не чытаў, мог ужо плясці, што хацеў, па-просту, мае аргументы ўжо нічога не значылі.

Даліся мне ў знакі гэтыя перабольшаныя начытанасці! Не, каб жа лічыў чытанне за непатрэбнае. Толькі што ў іхнім выкананні марксізм станавіўся незвычайна задагматаванай навукай, у якой непасвечаны не мог зрабіць кроку без упадання ў два спрэчныя адхіленні адразу.

Досыць хутка навучыўся распазнаваць іх здалёк, тых спецыялістаў, і па меры магчымасці пазбягаць. Не прымножылі яны - прынамсі на маіх вачах - ані аднаго прыхільніка справе камунізму, наадварот адпужвалі і нават часам выгрызалі - але ў дыскусіях з тупымі неначытанымі майго пакрою былі па-за канкурэнцыяй.

Але гэта былі ўжо засмучэнні пазнейшых гадоў. Для мяне ўступленне ў партыю было крокам такім натуральным, як для дзіцяці пачаць хадзіць.

**Люблінскія парэшткі**

Тым часам мінула восень, пачалася апошняя ваенная зіма. У сярэдзіне снежня грохнула пра новае нямецкае наступленне ў Ардэнах. Як дзіўна: гітлераўскі рэйх ледзьве дыхаў, мы ж ведалі пра гэта. У цуды мы не верылі. А ўсё ж пару дзён былі неспакойныя: а ну ж як вайна зноў павернецца на іхнюю карысць?

Праз пару дзён усё вярнулася на месца. Немцы загразлі ў Ардэнах. Усе, хто прыязджаў цяпер у Люблін, гаварылі пра падрыхтоўку нашага ўдару. Новы Год абяцаўся быць добрым.

Я сустрэў яго аж на Спакойнай, на ўрадавым прыёме. Было незвычайна - як на тыя часы - урачыста. Быў Берут, Веслаў, урад (якраз перайменаваўся з Камітэту нацыянальнага вызвалення ў Часовы ўрад і яшчэ нават пра тое не апавясціў шырокі свет), кіраўнікі партыі. Былі першыя дыпламатычныя прадстаўнікі, акрэдытаваныя ў нас - савецкі амбасадар Булганін, не памятаю, мабыць, яшчэ як генерал, і прадстаўнік Францыі, высокі прыстойны камандор Фушэ.

Селі за сталы. Памятаю, што пачуваўся ніякавата: генеральскія мундзіры, сукні кабет, а я ў керзавых ботах і ў мундзіры з працёртымі локцямі. Таму прыткнуўся на ражку аднаго з дастаўленых сталоў.

Закускі былі простыя, але шмат. Хутка выпілі пару тостаў, рэшта вечара прайшла жвава і галасіста. Запомніў дзве сцэны.

Было пару замежных карэспандэнтаў, сярод іх Анна Луіза Стронг, высокая, сівая, моцная, у акулярах. Вядомая як камуністка, спецыялізавалася ў Кітаі, праз пару гадоў потым хуценька абазвалі яе амерыканскім шпіёнам, праз яшчэ некалькі гадоў рэабілітавалі. Цяпер ужо сам не ведаю, што з ёй.

Тады трохі падпіла і, калі афіцэры пачалі спяваць хорам па-польску і па-расейску, не захацела застацца ў тыле, выскачыла перад ганаровым сталом і пачала сола танчыць квакерскія танцы. Моцна ёй пляскалі.

Быў таксама генерал Роля-Жымерскі. Якраз спяшаўся недзе па калідоры, калі мы дагналі яго з адной з нашых журналістак, якая абавязкова хацела з ім пазнаёміцца. Ужо знікаў за нейкімі дзвярыма, калі я яму ўсё ж тую каляжанку прадставіў.

Нецярпліва слухаў маю гаворку. Не адчуваючы неадпаведнасці сваіх паводзін, я гаварыў яшчэ і тое, і гэта, хаця ж няцяжка было здагадацца па яго твары, што ён вельмі спяшаецца. Калі я скончыў, ён нешта мрукнуў. А я потым дзівіўся, што не ўпадае ў энтузіязм, калі бачыць мяне.

Потым зрабілася мне нудна, пайшоў праз скурчаны пад снегам Люблін. Праз кожныя некалькі дамоў з-пад зацямнення прабіваліся палоскі святла, білі з-за шыб плыні музыкі, крыкі і спевы. Увесь Люблін святкаваў Сільвестр, слушна лічачы яго за апошні ваенны.

Зайшоў з некім яшчэ ў нейкую вялікую, слаба асветленую залу. Учора тут адбываўся першы з’езд Звязу сялянскай самапомачы. Пасля з’езду дэлегаты засталіся на сустрэчу Новага Года.

Смутныя ўспаміны: вельмі змрочная зала. У аднфм яе канцы таўкатня. Тут пры стале з ядою дэлегаты дастаюць свае прыпасы: кавал кілбасы, булка, бутэлька піва. Уся астатняя зала ў аблоках тытунёвага дыму. Ні танцаў, ні аркестра, ні жанчын.

Потым яшчэ ў Доме афіцэраў. Гэта тут пару месяцаў таму назад адбываўся працэс над тымі з Майданка. Цяпер яркае святло, аркестр, галубцы. Танцуючых няшмат. Застаюся тут нядоўга, цягнуся на тую нашу Радзівілаўскую.

Назаўтра нявыспаны, пазяхаючы рушыў у рэдакцыю, трэба было прапіхваць чарговы нумар. Пацеў над уступам, калі раптам без ніякай трывогі страшны грукат страсянуў горад раз, другі і трэці. У рэдакцыі перапалох. Нехта кінуўся ў піўніцу.

Я быў таксама недалёка ад таго. У імгненне вока няясныя апасенні, якія меў у сабе праз тыя месяцы, матэрыялізаваліся. Немцы ўсё ж паспрабавалі напасці на гэтую сталіцу за сорак кіламетраў ад іх пазіцый.

Сам не ведаю чаму, выглянуў усё ж на балкон. Грукат прадаўжаўся, сыпаліся шыбы. Убачыў, аднак,

што на вуліцы ніякай панікі.

Справа адразу ж высветлілася. Гэта ў гонар Часовага ўраду па маскоўскай модзе арганізавалі салют. Але нашыя феерверкеры мелі малы досвед і слабое ўяўленне. Зенітную батарэю паставілі на суседняй плошчы Уніі і давай лупіць у Пана Бога... і не толькі ў Пана Бога, але і ў вокны!

**Зімовае падарожжа**

Цяпер вялікае чаканне наступлення, якое нам падарыць левабярэжную Польшчу. На працягу некалькіх студзеньскіх тыдняў не здарылася нічога, што запомніў бы - хіба ўласна гэтае чаканне.

Выбух наступлення на поўдні, пад Сандамірам. Ліхарадачныя дні. Рушыла сярэдняя Вісла, рушыў Жукаў і адначасова Ракасоўскі над Нарвай. Вызвалена Варшава: зноў салют, але не такі шыбабіўны.

Усе цэнтральныя люблінскія ўстановы гвалтам пачалі фармаваць выязныя групы, пра якія забылі ад верасня. Барэйша не адставаў.

Пайшоў да яго, жадаючы, каб адправіў мяне ў Кракаў. Няцяжка здагадацца, чаму. Паміма поглядаў трохі турыстычных: ніколі там не быў і прафесійных - што сабралася там вялікая група пісьменнікаў, мясцовых і варшаўскіх, меў прычыны асабістыя. Не збіраўся, канешне, слухаць парады Марысі Леткі і ўступаць у разборкі з тым некім, "па-разумнаму" павінен быў нават пазбягаць спаткання, бо ўжо перакрэсліў справу раз і назаўжды. А ўсё ж нешта мяне цягнула, хацеў на ўласныя вочы ўбачыць тое перакрэсленне, хоць бы, каб упэўніцца ў яго незваротнасці.

Такім чынам у дваццацатых днях студзеня, раннім поўднем мы рушылі з-пад рэдакцыі. Было нас двое, трэці шафёр. Дасталі вайсковы "Віліс". Мы бралі з сабой шмат бензіну і харчоў: невядома было ці дастанем што дзе на тых бязмерных прасторах, якраз вырваных у Гітлера. Пачуваліся трохі падарожнікамі, якія маюць расшыфраваць велізарную белую пляму ў сэрцы Еўропы.

Гэта было не толькі ў пераносны сэнсе, тая белая пляма. Гэтай зімой упалі багатыя снягі, цяпер усталяваліся дваццаціградусныя маразы, якія раздуваліся моцным, парывістым ветрам.

Апрануўся ва ўсё, "што меў": свэтры і свэтрыкі, футраную камізэльку, ватнія порткі і куртку, на гэта ўсё з цяжкасцю нацягнуў сягаўшы да пят вайсковы плашч, пашыты год назад у танкавай брыгадзе. На галаву насадзіў велізарную футраную шапку. У выніку памерамі і рухомасцю стаў падобным да круглай тумбы для расклейвання абвестак.

Мусіў сесці ззаду, спераду ўсеўся, мабыць, ужо маёр Сідар, адзін з той чацвёркі, дэлегаванай у Маскву ад імя КНР. Быў гэта малады, прыстойны і вясёлы хлопец, партызан, народнік, перадваенны дзяяч "Віці".

Быў начальнікам нашай групы. Атрымаў ад Барэйшы нейкае таемнае заданне. Трымаў на каленях вялізную кардонную скрынку, старанна абгорнутую паперай і перавязаную амаль стужачкай.

Я сядзеў ззаду. Шафёр уціснуў мне пад правы бок тры каністры з бензінам. Здалося мне гэта нават выгадным: мог абаперціся і не падскокваць так на кожнай выбоіне. Разумення не меў, колькі за гэтую выгаду неўзабаве заплачу.

Як звычайна, найдаўжэй трывалі апошнія прыгатаванні. Аўтамабіль, гатовы ад раніцы, рушыў толькі перад змяркання. Павярнулі пры выездзе з горада ўлева, на Краснік, Янаў Люблінскі. Пад Мадлібожыцамі ўжо сцямнела. На пытанне пра начлег Сідар таямніча махнуў рукой перад сабой. "Віліс" пёр наперад, скакаў на выбоінах, брынчалі каністры, мокра булькатаў бензін. Востры вецер вырываўся з-пад шафёрскіх плячэй, падымаў уверх прылбіцу шапкі, крок за крокам прарываўся ўнутр той тумбы, якой я стаў.

Што горш, раптам нешта халаднаватае ткнула мяне справа. Доўга не мог зразумець, што зрабілася. Толькі ў Сандаміры, дзе Сідар размясціў нас на начлег у забітай людзьмі хаце - спалі покатам на падлозе - зразумеў нарэшце, у чым справа.

Па-просту каністры былі няшчыльныя. Пры кожным устрэсванні чырвоны, едкі бензін пранікаў у плашч, ватнікі, свэтры, пакуль не дабраўся да цела. Са здзіўленнем аглядаў велізарную чырвоную пляму, якая з'явілася ў мяне ад калена па пояс. Узнік ад гэтага найвялікшы пухір, які я бачыў у жыцці. Аж да вяртання ў Люблін, да лячэння, хадзіў я са страшным болем, які выдатна тушаваў перажыванне мной тых непаўторных дзён.

**Таямнічы візіт**

З раніцы зноў быў вецер, мароз, хмары. Неўзабаве мінулі Тарнабрэг, Баранаў, моцна знішчаны Мелец. Тут павярнулі на Вялікі Радамысль, на Тарноў.

Тут мы пераадолелі лінію фронту, які стаяў паўгода. Калі гэты Радамысль вялікі, то які мусіць быць той малы? Потым некалькі кіламетраў зусім бязлюдных. Рэдкія купкі дрэў, некранутая бель снегу і тычкі з надпісамі па абодвух баках дарогі: "Увага, міны!".

У Тарнове рух: мы выехалі на вялікую франтавую артэрыю. Дзяўчаты ў белых кажушках размахвалі на скрыжаваннях сцяжкамі. Бесперапынныя караваны вазоў, аўтамабіляў, гармат. Тут і там заблукаўшыя цывільныя.

Сідар паляваў уласна на іх. Ледзве дзе бачыў мінака ў шапцы і вясёнцы, кідаўся на тратуар і нешта выпытваў.

Пэўна, нешта даведаўся, бо за горадам мы павярнулі на бакавую шашу ўправа. З дзесяць кіламетраў паршывай дарогі. Снег, балоцістыя лужкі па баках. Потым вёска, непрыглядная, без дрэваў, без садоў, хаатычна раскіданая на плоскім бязлесым пейзажы.

Прыпыніліся каля вялікага, драўлянага дома, пэўна, нядаўна збудаванага, бо без агароду, без саду.

З цяжкасцю выпрасталі акачанеўшыя ад марозу ногі. Сідар клапатліва нёс сваю вялікую скрынку. Цёмныя, вялікія сені. У першым пакоі, досыць цемнаватым, нейкія кабеты замерлі на наш від.

- А гаспадар дома? - спытаў Сідар пасля прывітання.

- Яшчэ не вярнуўся... - пачалі запаўняць адна за другой.

Былі досыць збянтэжаныя.

- Як жа з яго здароўем? Трымаецца? - спытаў праз хвілю Сідар.

- Дзякуй Богу.

- А калі вернецца?

- Адкуль жа мы ведаем? Недзе ў гарах, нават не ведаем, дзе.

- Ну, то, як вернецца, прашу яму перадаць, - уручыў скрынку. - Каб сіл набраўся пасля таго акупацыйнага здзеку. Калі ласка, скажыце, што былі з Любліна, з нашай прэсы. Там дробныя рэчы, шакалад, лекі. Можа яму прыдадуцца. Немалады.

Жанчыны правялі нас да аўтамабіля. Я аглянуўся на таблічку з назвай вёскі. Называлася Верхаславіцы. А адсутнічаўшы гаспадар, канешне, гэта быў Вінцэнт Вітас. Хаваўся ад немцаў, яшчэ не сумеў вярнуцца. Як вядома, зрэшты, нядоўга пажыў пасля вяртання, змардаваны Берасцем і хаваннем пры немцах.

У Войнічы бакавая сцежка гісторыі, як струмень упадае ў вялікую ваенную плынь шашы Львоў - Кракаў - Шлёнск. Злева падышлі падкарпацкія голыя пагоркі. Абганяючы калоны конных абозаў, самі абганяныя шпаркімі матацыклістамі, жвава імкнёмся наперад. Бжэска, Бохня, прысеўшая на кукішкі недзе ніжэй шашы Вялічка. Нарэшце шэра-каменны горад Кракаў. Натоўпы на вуліцах. Аўтамабіль ледзве сунецца, без стомы трубіць. Амаль без руін! Вось першае, найвялікшае ўражанне. Не было таксама ўстаноў, крамаў, рэстаранаў, гатэляў. Не памятаю, дзе мы начавалі, памятаю толькі, што было цвёрда, холадна, цесна. Елі люблінскія прыпасы.

Нягледзячы на гэта, спадабаўся мне гэты горад. Сеў у “Віліс”, з Сідарам вярнуліся ў Люблін іншай дарогай, праз Кельцы, Радам, спалены Казімір. Націснуў на Барэйшу. На працягу некалькіх дзён залатвіў фармальнасці, атрымаў прызначэнне галоўным рэдактарам паўставаўшай у Кракаве газеты.

**Канец Любліна**

Развітанне з Люблінам. Наш домік на Радзівілаўскай стаў ужо ўтульным. У суседнім пакоі жыў Поль з жонкай, мілай, дзёрзкай і курносай Люцынай, з яе дачкой і немаведама для чаго з Мікулкам. У нашым пакоі таксама знаходзіўся субарандатар - марская свінка, якую мы назвалі Гілярам у гонар героя ў адной з ранніх аповесцяў Івашкевіча. Гіляр быў сімпатычным і таварыскім. І рэшта, тыя зверху, з дальшых пакояў таксама неяк жылі...

Але дом рассыпаўся, людзі выязджалі ў Лодзь, у Варшаву. У імгненне вока Люблін вярнуўся да нармальных прапорцый, тыя, хто заставаўся, за штодзённыя выгады плацілі падвойнай настальгіяй: па ўласным горадзе і свежа нараджаўшайся новай сталіцы.

Дзве гадзіны самалётам, сядаемся ў Кракаве. За пару дзён Кракаў моцна змяніўся. Адчыніў свае дзверы “Французскі гатэль” з нейкай неверагодна паскуднай сталоўкай. Мы атрымалі ў ім пакой, вялікі і цёплы, але з акном ваўнутр, над смярдзючай кухоннай “студняй”.

У горадзе натоўпы просьбітаў атакавалі некалькіх “упаўнаважаных ураду” з неяснай кампетэнцыяй. Адбываліся імправізаваныя ўстаноўчыя сходы розных прафесій. Я быў, напрыклад, на такім сходзе актораў, але не памятаю з яго зусім нічога. Хіба толькі Важыка, яго малую згорбленую постаць у мундзіры, вялікі нос, асядланы акулярамі, і велізарны рэвальвер, які абіваў худое сцягно. А над тым маячыць яшчэ дзівосная, футраная шапка, падобная да вавілонскай тэраснай пірамiды, якая называлася “Зігурат”.

Іншыя сходы, пісьменніцкія. Тут я прамаўляў смутна і без поспеху. Пісьменнікі былі ветлівыя, не задавалі каверзных пытанняў. Адзіны клопат меў з нейкім таксама невялікім тыпам, які атакаваў мяне як апартуніста, бо я не прапанаую ўзнікнення сямнаццатай саюзнай рэспублікі.

Дадам, што другім байцом той жа справы аказаўся на год пазней, у Швейцарыі, адзін з князёў Любамірскіх, які пасля многіх кампліментаў на адрас уладаў Народнай Польшчы паведаміў, што аднак вярнуцца ў Польшчу цяпер не можа, бо:

- ... я - славянафіл, і маім ідэалам ёсць федэрацыя ўсіх славянскіх краёў у рамках Савецкага Саюза...

Гэта былі аднак другасныя, гэтыя сходы. Першае важнае, што я зрабіў - гэта быў візіт у будынак на Веляполі, 1.

Ужо пару дзён выходзіла тут газета пад назвай “Штодзённік кракаўскі”. З незвычайным здзіўленнем я разглядаў гмах. у якім яна размяшчалася. Пасля нашых люблінскіх друкарняў, якія, напэўна, памяталі часы Берната з Любліна, было гэта сапраўдным цудам.

Я зажадаў, каб мяне прадставілі галоўнаму рэдактару. Сакратарка спрабавала супраціўляцца: галоўны вельмі заняты. Неяк з ёй парадзіў. Яе начальнік аказаўся схільным да саступак. Гэта быў Яцак Фруйлінг, вядомы мне мімалётна з Львова, з “Чырвонага штандара”.

Правёў мяне па тым зачараваным каралеўстве. Як цяля на маляваныя вароты, глядзеў на чараду лінатыпаў і ўжо зусім здзервянеў каля ратацыйнай ма-шыны. Як бачна, я не меў спецыяльных дадзеных, асабліва тэхнічных, да той работы. Але я ў цэлым не праймаўся. Пэўна, ні адзін з маіх новых падначаленых, бачачы маю недасведчанасць у розных тэхнічных дробязях, кпіў сабе з мяне.

Я быў аднак поўны веры ў людзей і па-просту такой забавы не заўважаў. Зрэшты, была іншая дзялянка, на якой я зусім не пачуваўся жаўтароцікам, на якой жаўтароцікамі былі яны ўсе, г.зн. палітыка. Пасля “Новых гарызонтаў”, пасля Першай дывізіі, пасля Любліна на той дзялянцы я пачуваўся цалкам упэўнена.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшла кніга Алеся Марціновіча “Успамін пра будучыню. Гісторыя ў асобах”, 528 ст., наклад 2000 ас.







У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Сяргея Чыгрына “Слонімшчына. Гістарычныя нататкі”, 128 ст., наклад 500 ас.




У Менску ў выдаўца Зміцера Коласа выйшла кніга Марата Гаравога “НКВД забіваў у Курапатах...” , 64 ст., наклад 1000 ас.




У Менску ў выдаўца А.М. Янушкевіча выйшаў Зборнік навуковых артыкулаў “Сапегі. Асобы, кар’еры, маёнткі”, 320 ст., наклад 300 ас.




У Менску ў выдавецтве “РИФТУР” выйшла кніга “Земля Беларуси. 100 страниц в истории мировой цивилизации”, 104 ст., наклад 3000 ас.




У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшаў даведнік - вызначальнік “Мифы Беларуси. Краткая характеристика”, 320 ст., наклад 2000 ас.



*Вадзяны млын у Дворышчы Лідскага раёна. 2017 г. Здымак С. Судніка.*